АКАДЭМІЯ НАВУК БССР

ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ПРАВІЛЫ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ І ПУНКТУАЦЫІ

*Зацверджаны*
*Акадэміяй навук БССР*
*і Міністэрствам асветы БССР*

ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
МІНСК 1959

Рэдактары:
*акадэмік К. К. АТРАХОВІЧ (К. КРАПІВА)*
*і акадэмік П. Ф. ГЛЕБКА*

* * *

*На белорусском языке*

**ПРАВИЛА БЕЛОРУССКОЙ ОРФОГРАФИИ И ПУНКТУАЦИИ**

Издательство АН БССР, Минск, 1959

* * *

Рэдактар Выдавецтва *Н. Царова*

Тэхрэдактар *І. Валахановіч* Карэктар *Т. Зайцава*

АТ 01378. Падпісана да друку 20.VI 1959 г. Тыраж 50 000 экз. Папера 60×92 1/16. Выд. арк. 12,97. Друк. арк. 10. Выд. заказ 016. Друк. заказ 882. Цана 4 р. 50 к.

Друкарня Выдавецтва АН БССР
Мінск, праспект імя Сталіна, 110.

# ПРАДМОВА

11 мая 1957 года Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў пастанову «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу». У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць стварэння новага зводу правіл узамен «Правапісу беларускай мовы», выдадзенага ў 1934 годзе.

Правапіс як сістэма правіл патрэбен для таго, каб забяспечыць на практыцы неабходную аднастайнасць напісання слоў і выразаў. З'яўляючыся рэгламентуючым сродкам жывой мовы, правапіс не можа працяглы час аставацца нязменным. Бесперапыннае развіццё і ўдасканаленне мовы, якое выяўляецца ў зменах фанетычнага, марфалагічнага і сінтаксічнага характару, у зменах лексічнага саставу мовы, выклікае неабходнасць перыядычна ўдакладняць правапіс, прыводзіць яго ў адпаведнасць з сучасным станам мовы. Беларускі правапіс, пабудаваны ў значнай меры на фанетычным прынцыпе, асабліва чуллівы да гэтых змен у мове, і таму ён павінен перыядычна ўдасканальваць свае правілы.

Удакладненні правапісу, прынятыя ў 1957 годзе, не з'яўляюцца, аднак, чарговай рэформай. Пасля 1933 года, калі ўрадавым дэкрэтам былі ўнесены ў беларускі правапіс значныя змены, прайшло не так многа часу, каб магла ўзнікнуць патрэба ў чарговай рэформе. Аднак гэтага часу аказалася зусім дастаткова для таго, каб на практыцы пераканацца ў недасканаласці некаторых правіл існуючага правапісу. Гэта асабліва датычылася правапісу складаных слоў, імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў. Некаторыя правілы не адпавядалі сучаснаму стану беларускай літаратурнай мовы, часам даваліся не выкліканыя неабходнасцю выключэнні. Акрамя таго, выдадзены ў 1934 годзе звод правіл беларускага правапісу быў далёка не поўным, шмат якія пытанні арфаграфіі аказаліся не закранутымі ім, хоць яны і патрабавалі свайго ўнармавання. Усе гэтыя недахопы існаваўшага зводу правіл выклікалі на практыцы недапушчальны разнабой.

Пастанова Савета Міністраў Беларускай ССР «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу» закранае толькі асноўныя, найбольш важныя і найбольш прынцыповыя пытанні правапісу. Што ж датычыцца распра-

цоўкі яго ў дэталях, то гэта можа і павінен даць поўны звод правіл. Дадзенае выданне і з'яўляецца першай спробай стварэння такога поўнага зводу.

«Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» складаюцца з дзвюх частак: арфаграфіі і пунктуацыі. У якасці дадаткаў да «Правіл» даецца Пастанова Савета Міністраў БССР «Аб удакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу» і некаторыя, выкліканыя патрабаваннямі практыкі, заўвагі марфалагічнага характару аб напісанні ўласных імён. Асобным дадаткам да «Правіл» даецца слоўнік, які налічвае каля чатырох тысяч слоў.

Звод правіл, якім бы поўным і дасканалым ён ні быў, не можа, аднак, ахапіць усіх выпадкаў напісання часта адасобленых, адзінкавых слоў. Таму «Правілы» ў паасобных спрэчных выпадках раяць звяртацца да арфаграфічнага слоўніка.

Слоўнік, змешчаны ў канцы кнігі, складзен у асноўным з прыкладаў, прыведзеных у тэксце, і павінен служыць не столькі ў якасці арфаграфічнага даведніка, колькі ў якасці дапаможніка пры засваенні правапісу. Для гэтай мэты пры кожным слове даецца ўказанне на параграф або на параграф і пункт, правілам якога абгрунтавана напісанне дадзенага слова. Акрамя слоў, якія сустракаюцца ў зводзе ў якасці прыкладаў, слоўнік папоўнен некаторай колькасцю цяжкіх для напісання геаграфічных назваў, складанымі і некаторымі іншымі словамі.

Дадзеная кніга не разлічана на выкарыстанне яе ў якасці падручніка ў школе; у ёй падаюцца толькі абавязковыя правапісныя нормы, якія павінны служыць падставай для ўкладальнікаў граматык беларускай мовы і розных слоўнікаў, даведнікам для настаўнікаў, работнікаў друку і ўсіх тых, хто цікавіцца пытаннямі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Каб зрабіць больш лёгкім засваенне «Правіл», аўтары іх імкнуліся захаваць тэкстуальную блізкасць да «Правил русской орфографии и пунктуации» ў тых раздзелах, дзе адрозненне не выклікаецца нацыянальнай спецыфікай беларускай мовы (злітнае і раздзельнае напісанне, ужыванне вялікай літары, правілы пераносу слоў, пунктуацыя).

Арганізацыя і першыя крокі працы па ўдакладненню і ўдасканаленню існуючых правапісных норм звязаны з імем народнага паэта Беларусі акадэміка Якуба Коласа, які на працягу некалькіх год узначальваў арфаграфічную камісію і ўнёс вялікі ўклад у вырашэнне многіх прынцыпова важных пытанняў беларускага правапісу.

Дадзены звод правіл падрыхтаваны калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле акадэмікаў АН БССР К. К. Атраховіча (Кандрата Крапівы) і П. Ф. Глебкі.



У складанні «Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» прымалі ўдзел старшыя навуковыя супрацоўнікі кандыдаты філалагічных навук М. Г. Булахаў, П. М. Гапановіч, М. П. Лобан, М. Р. Суднік, П. П. Шуба.

У працэсе работы па ўкладанню «Правіл» і асабліва ў працэсе падрыхтоўкі змен і ўдакладненняў было наладжана шматразовае абмеркаванне падрыхтаваных матэрыялаў, у якім прынялі ўдзел шырокія колы грамадскасці: выкладчыкі мовы вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, настаўнікі школ, работнікі друку, пісьменнікі. Іх заўвагі аказалі істотную дапамогу пры вырашэнні складаных пытанняў беларускага правапісу.

---

## АБ УДАКЛАДНЕННІ І ЧАСТКОВЫХ ЗМЕНАХ ІСНУЮЧАГА БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ

*Пастанова Савета Міністраў БССР ад 11 мая 1957 года*

Існуючы беларускі правапіс у сваёй аснове правільна адлюстроўвае асаблівасці і заканамернасці беларускай мовы. Яго засвоілі шырокія колы грамадскасці, замацавалі шматлікія выданні кніг і школьных дапаможнікаў. Таму якіх-небудзь грунтоўных падстаў для карэннай рэформы беларускага правапісу няма. Аднак асобныя правілы арфаграфіі з'яўляюцца недасканалымі і таму не могуць служыць цвёрдым крытэрыем для адзінага і паслядоўнага напісання. У сувязі з гэтым узнік арфаграфічны разнабой у друку, з'явілася дваякае напісанне ў пісьмовай практыцы і школьных падручніках. Усё гэта адмоўна адбіваецца на авалоданні роднай мовай у школе, не садзейнічае павышэнню культуры пісьма.

У мэтах паляпшэння існуючага беларускага правапісу і ў частковую змену пастановы СНК БССР ад 26 жніўня 1933 года № 1312 (З. З. БССР 1933 г. № 33, арт. 230; № 51, арт. 335) Савет Міністраў Беларускай ССР пастанаўляе:

1. Зацвердзіць «Праект удакладненняў і частковых змен беларускага правапісу», падрыхтаваны Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР (дадаецца).

2. Даручыць Акадэміі навук БССР скласці да 1 верасня 1957 года поўны звод правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, у якім прадугледзець больш дробныя неабходныя ўдакладненні асобных правіл правапісу.

3. Увесці ў дзеянне новы звод правіл беларускага правапісу з 1 студзеня 1958 года.

4. У школах і вышэйшых навучальных установах рэспублікі новы звод правіл беларускага правапісу ўвесці з 1 верасня 1958 года.

5. Даручыць Міністэрству асветы БССР распрацаваць адпаведную інструкцыю аб парадку ўвядзення ў школьную практыку новых правіл беларускай арфаграфіі.

*Старшыня*
*Савета Міністраў Беларускай ССР М. Аўхімовіч*

*Намеснік кіраўніка спраў*
*Савета Міністраў Беларускай ССР М. Жук*

*г. Мінск*

---



Зацверджаны
Пастановай Савета Міністраў БССР
ад 11 мая 1957 г. № 249

## ПРАЕКТ
## УДАКЛАДНЕННЯЎ І ЧАСТКОВЫХ ЗМЕН БЕЛАРУСКАГА ПРАВАПІСУ, ПАДРЫХТАВАНЫ ІНСТЫТУТАМ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА АКАДЭМІІ НАВУК БССР

Правапіс як сістэма арфаграфічных норм з'яўляецца важным сродкам павышэння культуры пісьмовай мовы. Яго правілы павінны забяспечваць аднастайнасць напісання, засцерагаць ад непажаданага разнабою ў пісьмовай практыцы. Гэтым запатрабаванням сучасны беларускі правапіс у асноўным адпавядае. Аднак асобныя яго правілы, як паказала практыка, не з'яўляюцца цвёрдым крытэрыем для адзінага і паслядоўнага напісання, яны прыводзяць да недапушчальнага арфаграфічнага разнабою ў друку, адмоўна адбіваюцца на авалоданні роднай мовай у школе.

У мэтах паляпшэння існуючага беларускага правапісу Інстытут мовазнаўства лічыць неабходным унесці ў яго наступныя ўдакладненні і змены.

### I. Правапіс ненаціскных *о*, *э*

а) Ненаціскное ***о*** перадаваць праз ***а*** незалежна ад паходжання слова: *гара́, нага́, арганіза́цыя, саве́т, бальшаві́к, камуні́зм, сацыялі́зм, пралетарыя́т, рэвалю́цыя; Мікала́й, Яка́ў, Бары́с, Шастако́віч, Шо́лахаў, Вінагра́даў, Баро́ўскі, Канапні́цкая, Ваўчо́к, Шапэ́н, Леані́дзе, Аванеся́н; Беласто́к, Валакала́мск, Сафі́я, Кака́нд;*

у тым ліку ў пачатку ўласных імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў: *Аста́п, Але́г, Акса́на, Ану́фрыевіч, Але́гавіч, Абло́маў, Адо́еўскі, Абно́рскі, Арджанікі́дзе, Арбе́лі, Ажэ́шка, Анарэ́, Аві́дзій, Атэ́ла; Ашмя́ны, Аро́л, Ака́, Ане́га, Ахо́цкае мо́ра, Ача́каў, Асве́нцім, Арыса́ва;*

на канцы нязменных слоў: *бру́та, не́та, інко́гніта, але́гра, лібрэ́та, дына́ма, фо́та;*

а таксама на канцы ўласных імён, прозвішчаў і геаграфічных назваў: *Бандарэ́нка, Бро́ўка, Даўжэ́нка, Ма́рка По́ла;*

*Лёзна, Маладзéчна, Грóдна, Арынóка, Сан-Францыска, Óсла, Кóнга, Глáзга, Чыкáга.*

Выключэнне: пасля галоснага канцавое ненаціскное **о** захоўваецца: *адáжыо, капрычыо, сальфéджыо, трыо; Антóніо, Мáо, Цáо, Сяо; Антáрыо, Більбáо, Мінданáо, Цындáо, Тóкіо;* але: *рáдыё.*

б) У імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах з славянскай лексічнай асновай, а таксама даўно запазычаных з неславянскіх моў ненаціскное **э** перадаваць праз **а**, а ненаціскное **е** ў першым складзе перад націскам — праз **я**: *Дзяніс, Дзянісавіч, Сяргéй, Сяргéевіч, Сяргó, Аляксáндр, Аляксáндравіч, Бядýля, Бялінскі, Вярстóўскі, Дзяржынскі, Някрáсаў, Пляхáнаў, Няхóда, Няёдлы, Жалтóўскі, Рашэ́тнікаў, Равýцкі, Чарнышэ́ўскі, Шаўчэ́нка, Шчадрын; Дзянісаўка, Нявá, Пячóра, Чарапавéц, Чарнарýчча, Шапятóўка;*

імёны, прозвішчы і геаграфічныя назвы, якія не падыходзяць пад гэта правіла, пісаць паводле правапісу іншамоўных слоў: *Венсáн, Гéрцэн, Цэдэнбáл, Шэкспір, Эсхіл, Эзóп; Какчэтáў, Нахічэвáнь, Неáпаль, Седáн, Ерэвáн, Еўрóпа, Егіпет, Эстóнія, Эльбрýс, Эльтóн.*

## II. Правапіс *д, т* і *дз, ц*

а) У словах іншамоўнага паходжання ***д, т*** вымаўляюцца мякка і на пісьме перадаюцца праз ***дз, ц*** перад наступнымі суфіксамі і злучэннямі суфіксальнага паходжання: ***-ін, -ір, -ёр, -еец, -ейск***, а таксама перад памяншальным суфіксам ***-ік***: *каранцін, плáціна, лацінскі, камандзір, камандзірóўка, мундзір, білецёр, акцёр, манцёр, гвардзéец, індзéец, гвардзéйскі, індзéйскі, білéцік, эпізóдзік;* але: *латынь.*

б) У імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах ***дз, ц*** або ***д, т*** пішуцца ў залежнасці ад беларускага літаратурнага вымаўлення: *Дзяніс, Ціхóн, Хрысціна, Цімірáзеў, Цёркін, Ціханаў, Дзюклó, Гарыбáльдзі, Тальяці, Ціта, Дзмітэ́рка, Вучэ́ціч; Целяхáны, Ціхвін, Барадзінó, Быцень, Уладзівастóк, Градзянка, Брацісла́ва, Закарпáцце, Цéрак, Цюмéнь, Цянь-Шáнь, Цібр, Цяньцзінь, Цюрынгія, Пóці, Таіці, Гаіці; Тэ́кля, Тэвасян, Тэкерэ́й, Атэ́ла, Дадэ́, Дэфó, дэ Бальзáк, Шаптыцкі; Дэтройт, Тэлáві.*

## III. Правапіс раздзяляльных апострафа і мяккага знака

Раздзельнае вымаўленне зычнага з наступным галосным на пісьме абазначаецца апострафам або мяккім знакам.

а) Апостраф пішацца:

пасля прыставак, якія канчаюцца на зычны, перад ***е, ё, ю, я*** і націскным ***і***: *аб'ява, ад'езд, аб'ядноцца, уз'яднанне, раз'юшаны, з'ёлкнуць, аб'інець, над'ільменскі;* у тым ліку і пасля іншамоўных прыставак: *ін'екцыя, кан'юнктура;*



у сярэдзіне слова пасля губных ***б, в, м, п, ф***, заднеязычных ***г, к, х*** і зацвярдзелых ***р, ж, ш, ч*** перад тымі ж галоснымі: *Аляб'еў, Барб'е, В'етнам, сям'я, куп'ё, п'яўка, п'ексы, саф'ян, Садоф'еў, Мантэг'ю, Лук'янаў, Х'юлет, бар'ер, надвор'е, Аж'е, Буш'е.*

б) Мяккі раздзяляльны знак пішацца:

пасля зычных ***л, н, с, ц, дз*** і непрыставачнага ***з*** перад ***е, ё, і, ю, я*** ў словах іншамоўнага паходжання: *вальера, Мальер, каньяк, Кавеньяк, Сеньі, канферансье, манрэльеф, пансье, ранцье, парцьеры, Цьер, мадзьяр, Дзьюі, Лавуазье, Карбюзье.*

в) У імёнах па бацьку, прозвішчах і геаграфічных назвах, утвораных ад імён на ***-ій (-ый)***, пасля зычных ***л, н, с, ц, дз, з*** перад суфіксам ***-еў*** пішацца мяккі знак, а пасля губных і зацвярдзелых — апостраф: *Васільеў, Васільевіч, Васільеўка, Васільеўскі востраў, Арсеньеў, Арсеньевіч, Афанасьеў, Афанасьевіч, Кандрацьеў, Кандрацьевіч, Аркадзьеў, Аркадзьевіч, Грыгор'еў, Грыгор'еўка, Юр'еў, Юр'евіч, Парфір'еў, Парфір'евіч, Пракоф'еў, Пракоф'евіч;*

пасля ж ***г, к, х*** і збегу зычных, акрамя ***нц***, перад суфіксам ***-еў*** пішацца ***і (ы)***: *Георгіеў, Георгіевіч, Акакіевіч, Яўціхіеў, Яўціхіевіч, Іраклієвіч, Яўлампіевіч, Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Ануфрыеўка, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч;* але: *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьеў, Кліменцьевіч* і інш.

## IV. Правапіс падоўжаных зычных

Пры падоўжаным вымаўленні зычны гук, які стаіць паміж галоснымі, на пісьме перадаецца праз падваенне яго: *разводдзе, збожжа, маззю, галлё, насенне, калоссе, смецце, ламачча, заціішша; Аўгіння, Аксіння, Наталля, Настасся, Аўдоцця; Краснаполле, Залессе, Закарпацце;* але: *Ільля, Ільіч, Ільічоўка, Ільін, Ільінскі, Ульянаўск, Ульянаў, Ульяна, Касьян,* а таксама вытворныя ад слова *ліць: лье, льецца, налью, разалью* і інш.

## V. Правапіс складаных слоў

1. а) Складаныя словы з націскам на першым складзе другой часткі пішуцца як простыя: *вадаспáд, палявóд, шаўкапрáд, гарбанóсы, чарнавóкі, прастадýшны, саракагрáдусны, разнастáйны, мнагабóр'е, зламысны, дабраякасны, недабраякасны, навабрáнец, флатавóдзец, малатабóец, канаплявóдства, саламарэ́зка, галавалóмка, скараспéлка, малакамéр, Дабралюбаў, Ламанóсаў, Сталéтаў, Навазыбкаў, Чарнарýчча.*

б) Калі ў другой частцы складанага слова націск падае не на першы склад, тады ў першай частцы праяўляецца пабочны націск і пад ім аднаўляецца этымалагічнае ***о***: *тóрфабрыкéт,*

*сóртаабмéн, дóмакіраўніцтва, вóдаразмеркавáнне, кóрмаздабывáнне, бóекамплéкт, прóстанарóдны, жывёлагадóўчы, стóпрацэ́нтны, мнóгастанóчнік, шырóкадасту́пны, свóеасаблівы, высóкаідэ́йны, тóнкасукóнны, Нóварасíйск, Гóрназавóдск.*

З а ў в а г а 1. У першай частцы некаторых слоў можа выразна праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі. У такім выпадку этымалагічнае *о* на пісьме адназўляецца: *азóтнакíслы, гóрнарýдны, збóжжаздáча, збóжжаўбóрка, дрóбнатвáры, дрóбнаўлáснiцкі, усхóдазнáўства, рабóтадáвец, пóпелаўлóўнік* і некаторыя іншыя.

З а ў в а г а 2. Першая частка складаных прыметнікаў пішацца так жа, як і першая частка назоўнікаў, ад якіх гэтыя прыметнікі ўтварыліся: *марфалóгія—марфалагíчны, манагрáфія — манаграфíчны, храналóгія — храналагíчны.*

З а ў в а г а 3. Частка *поў* пішацца з **о** толькі пад націскам, не пад націскам **о** пераходзіць у **а**: *пóўнач, пóўдзень; паўгóддзе, паўвóстраў, напаўадчынены, напаўмёртвы.*

в) Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная з гэтых частак пішацца як асобна ўзятае слова: *паравóзавагóнабудаўнíчы* і інш.

2. Ненаціскное *э* ў першай частцы складаных слоў захоўваецца без змены: *мэтазгóдна, рэдказýбы, шэравóкі.*

3. У складанаскарочаных словах і ў вытворных ад іх галосныя **о**, **а**, **е**, **я** ненаціскных частак пішуцца так, як яны пішуцца ў адпаведных поўных словах: *калгáс, калгáсны, калгáснік, саўгáс, гаркóм, гаркóмаўскі, кампáртыя, камсóд, саўнаркóм, камсамóл, камсамóлец, гарсавéт, камандáрм, гаранá, сацспабóрніцтва, конáрмія, ваенкóм, селькóр, мясцкóм, лясгáс, легпрóм.*

## VI. Правапіс склонавых канчаткаў назоўнікаў

Назоўнікі мужчынскага роду, якія абазначаюць хімічныя элементы і злучэнні, у родным склоне пісаць, як і назвы ўсіх рэчываў, з канчаткамі **-у**, **-ю**: *кісларóду, азóту, цынку, фасфарыту, аміяку, алюмінію, амонію, барыю* і інш.

## VII. Правапіс дзеясловаў

Дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу першага спражэння ў першай асобе множнага ліку ў адпаведнасці з літаратурнай нормай пісаць пад націскам з канчаткамі **-ом**, **-ём**, а не пад націскам — з канчаткамі **-ам**, **-ем**: *бярóм, сцеражóм, ідзём, нясём, кладзём; пíшам, мáжам, рэ́жам, чытáем, бýдуем, вывучáем.*

У другой асобе множнага ліку, калі націск падае на апошні склад, — з канчаткамі **-аце́**, **-яце́**: *берацé, сцеражацé, ідзяцé, несяцé, кладзяцé,* а не пад націскам — **-аце**, **-еце**: *рэ́жаце, пíшаце, бýдуеце, сéеце, чытáеце.*



## VIII. Правапіс лічэбнікаў

а) Лічэбнікі ***два***, ***дзве*** і ***абодва***, ***абедзве*** ў адпаведнасці з жывым вымаўленнем не ўніфікуюць родавых форм і маюць наступныя склонавыя канчаткі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | | як назоўны або родны | | |
| Т. | *двума* | *дзвюма* | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. | *двух* | *дзвюх* | *абодвух* | *абедзвюх* |

б) У колькасных састаўных лічэбніках скланенню падлягае кожнае слова:

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *трыццаць восем* | *шэсцьсот семдзесят дзевяць* |
| Р. | *трыццаці васьмі* | *шасцісот сямідзесяці дзевяці* |
| Д. | *трыццаці васьмі* | *шасцістам сямідзесяці дзевяці* |
| В. | | як назоўны |
| Т. | *трыццаццю васьмю* | *шасцюстамі сямюдзесяццю дзевяццю* |
| М. | *трыццаці васьмі* | *шасцістах сямідзесяці дзевяці* |

## IX. Іншыя змены ў правапісе

а) Часціцы ***б*** (***бы***), ***ж*** (***жа***) пішуцца без злучка: *прыйшла б, прачытаў бы, чаму ж, казаў жа, куды ж, як жа ж.*

б) У імёнах, прозвішчах і геаграфічных назвах, у якіх у беларускім вымаўленні пачатковае **у** развілося з **в**, пішацца ў пачатку **у**: *Уладзімір, Усевалад, Уладзіслаў, Усяслаў, Уладзівасток, Уладзікаўказ.*

---

## БЕЛАРУСКІ АЛФАВІТ

**Аа, Бб, Вв, Гг, Дд, Дж дж, Дз дз, Ее,**

**Ёё, Жж, Зз, Іі, Йй, Кк, Лл, Мм, Нн, Оо,**

**Пп, Рр, Сс, Тт, Уу, Ўў, Фф, Хх, Цц, Чч,**

**Шш, Ыы, Ьь, Ээ, Юю, Яя**

Заўвага. Апостраф (') у склад алфавіта не ўваходзіць і на размяшчэнне слоў у алфавітным парадку не ўплывае.



ЧАСТКА I

# АРФАГРАФІЯ

## ПРАВАПІС ГАЛОСНЫХ

### I. Галосныя пасля шыпячых, *р*, *ц* і *д*, *т*

§ 1. Пасля шыпячых (***ж***, ***дж***, ***ч***, ***ш***), ***р***, ***ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д***, ***т*** не пішуцца літары ***е***, ***ё***, ***і***, ***ю***, ***я***, а пішуцца ***э***, ***о***, ***ы***, ***у***, ***а***, напрыклад: *іржэўнік, жорсткі, жыта, жудасна, жаданне, ураджай, вячэра, пчолы, чорны, шчодрасць, шчыра, гушчар, шэраг, шолах, шоўк, шырокі, шустры, шафа, патрэба, бяроза, фабрыка, крук, радасць, рака, цэгла, цэх, цыліндр, цуд, дэлегат, дынама, кандыдат, пустэча, тэлефон, стымул.*

Літары ***е***, ***ё***, ***і***, ***ю***, ***я*** пасля гэтых зычных пішуцца толькі ў невялікай групе новаўтвораных слоў пасля прыставак і часцінак ***між-***, ***звыш-***, ***контр-*** (і ў некаторых складанаскарочаных словах—гл. § 137), напрыклад: *міжінстытуцкі, звышімперыялізм, контрігра* і інш.

### II. Прыстаўныя галосныя *і* і *а*

§ 2. Прыстаўныя галосныя ***і*** і ***а*** пішуцца:

1. У пачатку слова перад групай зычных, першаю ў якой з'яўляецца літара ***м***, напрыклад: *Поле ляжала справа, унізе. Там жа ўнізе імгліліся ў тумане прысады, старасвецкі гасцінец...* (Чорны). *Праз імшары, лясы і паляны на засаду ішлі партызаны* (Танк). *Імгла, як хусткай, абвязала ўвесь затон* (Танк). *І слухалі песню загоны і бор, імчаў яе вецер, адносіў віхор* (Купала). *Дробны дождж імгліць, сячэ па твары* (Танк). *Мой дом амшалай пушчы сховы...* (Купала). *Мы багну ўздымалі з адвечнай дрымоты, каналамі рэзалі нетры балотаў — і з тванню знікала туманаў імгла* (Броўка).

2. У пачатку слова перад групай зычных, першымі ў якой з'яўляюцца літары ***р***, ***л***, калі слова з такой групай зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці папярэдняга слова, якое канчаецца на зычную, напрыклад: *Іржуць коні, калёсы скрыпяць ад Дона да Буга* (Купала). *Часамі на цэлыя кіламетры рассцілалася дарога роўным, нібы выбеленым на сонцы, ільняным палатном* (Колас). *Няхай наша дружба*

*цвіце, каб сонцам ірдзелі пуціны* (Колас). *Як п'яўкі, смокчуць кроў з ног босых аржоння вострыя сукі* (Купала).

Калі ж слова з такой пачатковай групай зычных стаіць пасля слова, якое канчаецца на галосную, тады прыстаўныя літары ***і*** і ***а*** не пішуцца, напрыклад: *Не чакай, што ржа з гадамі паесць ланцугі...* (Купала). *Люблю я прыволле шырокіх палёў, зялёнае мора ржаных каласоў...* (Колас). *Заглядала ціш лясная на льняныя дзве касы...* (Колас).

Заўвага 1. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія канчаюцца на галосную, прыстаўныя літары перад ***р, л*** і ***м*** не пішуцца, напрыклад: *заржавець, заржаць, зардзецца, замглёны, замшэлы, памкнуцца, прымчацца, вокамгненна.*

Заўвага 2. Аб напісанні прыстаўной галоснай ***і*** пасля прыставак, якія канчаюцца на зычную, гл. § 3.

## III. Галосныя *ы* і *і* пасля прыставак

**§ 3.** Пры спалучэнні прыстаўкі, якая канчаецца на зычную, з коранем або другой прыстаўкай, якія пачынаюцца з ненаціскнога ***і***, замест ***і*** пішацца ***ы***, напрыклад: *сыграць, сыскаць, абымшэлы, зымшыць, абыржавець, абыржавелы,* а таксама пад націскам у словах *сы́спаду, спады́спаду.*

Аднак галосная ***і*** захоўваецца:

1. У словах з прыстаўкамі ***між-*** і ***звыш-***, напрыклад: *міжірыгацыйны, звышіндустрыяльны, звышімклівы.*

2. У словах з іншамоўнымі прыстаўкамі і часцінкамі ***пан-, суб-, транс-, контр-***, напрыклад: *панісламізм, субінспектар.*

## IV. Галосныя ў націскных складах

### Літары *о, ё*

**§ 4.** Літары ***о, ё*** пішуцца, як правіла, толькі пад націскам, напрыклад: *го́рад, ко́лас, мо́ва, до́ўга, зго́да, дапамо́га, ско́ра, скро́зь, аро́л, даро́га, фо́та, шо́лах, шо́ўк, плячо́; вёска, сёстры, лётчык, далёка, цвёрда, цёпла, чацвёрты, жыццё.*

Напісанне гэтых літар у ненаціскных складах дапускаецца ў невялікай групе іншамоўных слоў, некаторых складаных, складанаскарочаных словах і абрэвіятурах, у якіх адпаведна з агульнымі правіламі магчымы розныя спалучэнні літар (гл. §§ 6, 17, 18, 20—22 і 135).

### Літара *э*

**§ 5.** Літара *э* пішацца:

1. У пачатку слова ў словах ***эх*** і ***эй.***

2. Пасля шыпячых, ***р, ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д, т,*** напрыклад: *жэрдка, жэмчуг, чэрствы, шэры, нашэсце, шчэбень, рэдка, бярэзнік, цэлы, здэцца, сардэчны, халадэча, пустэча.*



3. Пасля прыстаўнога ***г***: *гэты, гэтакі, гэтак, гэтулькі, адгэтуль, дагэтуль, пагэтуль, гэй,* а таксама ў словах *сэрца, чвэртка.*

4. У словах іншамоўнага паходжання напісанне літары ***э*** вызначаецца наступнымі правіламі:

а) у пачатку слова ***э*** або ***е*** пішацца ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем: з аднаго боку — *эра, эўрыка, эпас, этыка, Эзель;* з другога боку — *егер, ерась;*

б) пасля шыпячых, ***р, ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д, т*** галосныя ***э, е*** перадаюцца праз ***э,*** напрыклад: *джэмпер, чэк, шэфы, прагрэс, рэбус, Сарэнта, цэгла, канцэрт, дэфіс, Улан-Удэ, тэкст, тэхніка.*

Пасля астатніх зычных звычайна пішацца ***е***. Літара ***э*** ўжываецца ў невялікай групе слоў, пераважна пасля губных зычных і ***з, н, с,*** напрыклад: *бэлька, бэз, бэра, бэта* (назва літары), *разбэсціць, пэўны, капэла, пэндзаль, пэр, мэдлік, мэр, сурвэтка, вэрхал, фэст, галіфэ, кафэ, зэдаль, камізэлька, маянэз, нэндза, турнэпс, пенснэ, турнэ, сэнс, сэр, асэсар* і інш.

Заўвага 1. Напісанне літары *э* пасля галосных вызначаецца слоўнікам.

Заўвага 2. Аб магчымых чарґаваннях галосных у націскных складах гл. §§ 29—33.

## V. Галосныя ў ненаціскных складах

### Галосны *о*

**§ 6.** Незалежна ад паходжання слова гук ***о*** ў ненаціскных складах перадаецца на пісьме праз ***а***, напрыклад: *гара, вада, савет, бальшавік, камунізм, сацыялізм, пралетарыят, рэвалюцыя, арганізацыя, колас, холад, абапал, узгорак, лета, балота, Бандарэнка, Броўка, Коханава, Кунцава, Гамер, Сакрат;*

у тым ліку ў пачатку ўласных імён: *Астап, Алег, Аксана, Ануфрыевіч, Алегавіч, Анарэ, Атэла, Адоеўскі, Арджанікідзе, Арбелі, Ажэшка, Ашмяны, Ака, Анега, Арол, Ахоцкае мора, Асвенцім, Арысава;*

на канцы нязменных слоў: *хутка, позна, дынама, брута, нета, сола, інкогніта, эмбарга, крэда, алегра, лібрэта, Гродна, Лёзна, Маладзечна, Чыкага, Конга, Арынока, Глазга, Ціта.*

Толькі ў невялікай групе беларускіх слоў спалучэнні ***ро, ло*** не пад націскам пераходзяць у ***ры, лы***, напрыклад: *кроў — крыві — крывавы, дровы — дрывотня, крошка — крышыць, бровы — брыво, гром — грымоты — грымець, брод — брысці, скрогат—скрыгатаць, глотка—глытаць, блохі—блыха.*

Аднак ***о*** захоўваецца:

1. Пасля папярэдняй галоснай літары ў канцавым адкрытым складзе ў словах іншамоўнага паходжання, напрыклад: *Більбао, Мінданао, Цындао, Мао, Цао, Сяо, Ватэрлоо.*

Заўвага. Аб правілах перадачы ***о*** ў іншамоўных канцавых злучэннях ***іо*** і ***йо*** гл. §§ 23 і 24.

2. У некаторых вузканавуковых тэрмінах, асабліва ў тых выпадках, калі з літарамі **о**, **е** звязваецца сэнсавае адрозненне, напрыклад у хіміі: *орсін* і *арсін*, *оксо* і *окса* і інш.

Напісанне гэтых слоў вызначаецца слоўнікам.

**Галосныя** ***э, е, ё***

**§ 7.** Галосны ***э*** ва ўсіх ненаціскных складах, за выключэннем складаных слоў, абазначаецца на пісьме літарай ***а***, напрыклад: *жамчужына, жазло, жарало, шаптаць, шасцярня, чарга, чарніць, зачапіць, чарада, вучань, шчабятаць, рака, крамлёўскі, цана, цапы.*

Заўвага. Аб перадачы на пісьме гука ***э*** ў словах іншамоўнага паходжання і ў першай частцы складаных слоў гл. §§ 11, 12 і 19.

§ 8. Галосныя ***е***, ***ё*** ў першым складзе перад націскам абазначаюцца на пісьме літарай ***я***, напрыклад: *землі—зямля, сем'і — сям'я, сёлы — сяло, сёстры — сястра, вёслы — вясло, вёска — вясковы, лён — лянок, мёд — мядок, дзень — дзянёк, зелень — зялёны, лес — лясы, снег — снягі, вецер — вятры, сцены — сцяна.*

Але ў словах *дзевяць — дзевяты, дзесяць — дзесяты, семнаццаць — семнаццаты, васемнаццаць — васемнаццаты* і вытворных ад іх пішацца ***е***.

**§ 9.** Галосныя ***е***, ***ё*** абазначаюцца на пісьме літарай ***я*** таксама ў ненаціскных канчатках наступных часцін мовы:

1. У назоўніках жаночага роду першага скланення ў творным склоне адз. ліку, напрыклад: *песняй (-яю), хваляй (-яю), капальняй (-яю), сячкарняй (-яю).*

2. У невялікай групе назоўнікаў мужчынскага, ніякага і жаночага роду ў родным склоне мн. ліку, напрыклад: *суседзяў, пралетарыяў, герояў, суддзяў, заданняў, пытанняў, здарэнняў, узгор'яў, пачуццяў, жыццяў, студняў, капальняў, роляў, хваляў, верфяў, трэляў.*

3. У якасных і адносных прыметніках і парадкавых лічэбніках ніякага роду ў назоўным і вінавальным склонах адз. ліку, напрыклад: *сіняе неба, асенняе надвор'е; трэцяе здарэнне.*

4. У якасных і адносных прыметніках, парадкавых лічэбніках і дзеепрыметніках у назоўным склоне мн. ліку, напрыклад: *раннія пасевы, стромкія хвоі, родныя сёстры, зялёныя палі, шырокія дарогі, густыя лясы; трэція класы, трыццатыя гады; вісячыя лямпачкі, чытаныя кнігі.*

5. У якасных і адносных прыметніках і парадкавых лічэбніках мужчынскага, ніякага і жаночага роду ў родным і давальным склонах адз. ліку, напрыклад: *ранняга—ранняй (-яе), учарашняга — учарашняй (-яе), сённяшняга — сённяшняй (-яе), трэцяму—трэцяй (-яе).*

6. У якасных і адносных прыметніках і парадкавых лічэбніках жаночага роду ў творным і месным склонах адз. ліку, напрыклад: *зімняй (-яю) дарогай, зімняй дарозе; позняй (-яю) парой, позняй пары; трэцяй (-яю) групай, трэцяй групе.*



Заўвага. У ненаціскных канчатках займеннікаў, якія скланяюцца па тыпу прыметнікаў, на месцы галосных ***е***, ***ё*** пішацца літара ***я*** ў тых жа склонавых формах, у якіх літара ***я*** пішацца ў прыметніках, напрыклад: а) у наз. і він. скл. адз. ліку ніяк. роду — *іхняе;* б) у наз. скл. мн. ліку — *іхнія, каторыя, якія, гэтыя, гэтакія, тыя, такія, самыя, усякія, усялякія, кожныя, іншыя, нейкія, нечыя, некаторыя;* в) у родн. і дав. скл. адз. ліку ўсіх трох родаў — *іхняга, іхняй (-яе), іхняму, іхняй;* г) у тв. і месн. скл. адз. ліку жан. роду — *іхняй (-яю), іхняй.*

**§ 10.** У астатніх ненаціскных складах ***е*** заўсёды захоўваецца, напрыклад: *сенажаць, селянін, земляны, зеляніна, вестуны, леснікі, векавечны, верацяно, нерухомы, безупынны, возера, весела, восем, заедзь, высветліць, выехаць, вецер, восень, цемень, поле, узгор'е, здарэнне, лісце, каменне, сенажацей, радасцей, пытаннем, здарэннем.*

**§ 11.** Правапіс галосных ***э***, ***е*** ў словах іншамоўнага паходжання ў ненаціскных складах асновы вызначаецца наступнымі правіламі:

1. У пачатку слова ***э***, ***е*** перадаюцца на пісьме ў адпаведнасці з беларускім літаратурным вымаўленнем, напрыклад: з аднаго боку — *эканомія, экзамен, экватар, этажэрка, элемент;* з другога боку — *Еўропа, Егіпет.* Прычым, калі ў пачатку слова пішацца літара ***э***, тады гэта літара пішацца таксама пасля прыставак і ў першай частцы складанага слова, напрыклад: *сэканоміць, праэкзаменаваць, трохэлементны, квінтэсенцыя.*

2. Пасля шыпячых, ***р***, ***ц*** (не з ***т*** мяккага) і ***д***, ***т*** галосныя ***е***, ***э*** абазначаюцца на пісьме літарай ***э***, напрыклад: *жэтон, Жэнева, Жэрар, жэлацін, плунжэр, чэкмень, рэспубліка, рэформа, Рэмарк, рэклама, рэактар, рэвізія, агрэгат, рэжым, рэкорд, рэестр, рэвалюцыя, цэнтралізм, карцэр, Цэдэнбал, дэталь, гардэроб, Дэтройт, Дэфо, дэлегат, дэманстрацыя, грэйдэр, лідэр, ордэн, тэорыя, тэатр, тэлеграф, тэлефон, Тэвасян, ветэран, катэт, катэр.*

Пасля астатніх зычных пішацца ***е***, акрамя слоў і форм з ненаціскным ***э***, утвораных ад слоў *сэнс і запэўняць.*

Заўвага. Перадача на пісьме іншамоўных ***э***, ***е*** пасля галосных вызначаецца арфаграфічным слоўнікам.

**§ 12.** Ва ўласных імёнах са славянскай лексічнай асновай і ў даўно запазычаных словах з неславянскіх моў напісанне ненаціскных іншамоўных ***э***, ***е*** падпарадкоўваецца агульным правілам акання — пасля зацвярдзелых[1] і цвёрдых зычных галосная ***э*** ва ўсіх ненаціскных складах абазначаецца на пісьме літарай ***а***: *шаўро, шаўрон, рамонт, рамеснік, адрас, ад-*

[1] Зацвярдзелымі зычнымі ў беларускай мове з'яўляюцца: ***ж, дж, ч, ш, р*** (са старажытнага ***р*** мяккага) і ***ц*** (не з ***т*** мяккага).

*расат, сакратар, хедар, літара, літаратура, літарны, характар,
бухгалтар, майстар, сакрэт, Беразіно, Чарапавец, Жамчужні-
каў, Чарнышэўскі, Шаўчэнка* і інш.; а пасля мяккіх зычных
галосная ***е*** абазначаецца літарай ***я*** ў першым складзе
перад націскам і літарай ***е*** ў астатніх ненаціскных складах:
*дзяжу́рства, Бялы́нічы, каляндáр, яфрэ́йтар, Лемяшэ́вічы, Ня-
вá, Пячэ́нга, Аляксáндр, Сярго́, Бялі́нскі, Няхо́да, Нядлы*
і інш., у тым ліку ў пачатку слова: *Ялёц, Яршоў, Яфім* і інш.
Але заўсёды захоўваецца ***е*** ў першым складзе перад на-
ціскам пасля заднеязычных ***г, к, х,*** напрыклад: *герой, Гера-
сім, кераміка, Кетлінская, Хемніцэр.*

Заўвага. Ва ўласных імёнах, якія не падыходзяць пад гэтыя пра-
вілы, галосныя ***э, е*** захоўваюцца, напрыклад: *Венсан, Герцэн, Тэтмаер,
Цэдэнбал, Шэкспір, Эўрыпід, Эсхіл, Эзоп; Качэтаў, Нахічэвань, Неапаль,
Седан, Ерэван, Эстонія, Эльбрус, Эльтон.*

**§ 13.** ***Не*** і ***без***, калі яны стаяць асобна, заўсёды пішуцца
праз ***е***, напрыклад: *не быў, не браў, не ідзе, без меры, без
жартаў, не спыніць, без прычыны, не без вынікаў, не без ра-
боты.*

**§ 14.** Пры напісанні разам ***не*** і ***без*** становяцца част-
каю асновы і падпарадкоўваюцца агульным правілам напісан-
ня галоснай ***е*** ў беларускіх словах, напрыклад: *няхай, ня-
стомна, няштатны, бязмежны, бязлюдны, бясконца, непісьмен-
ны, безупынны, безапеляцыйны, бескарысны, беспаваротны.*

### Літара *я*

**§ 15.** Каранное ***я*** пішацца нязменна, напрыклад: *ядро, яра-
вы, вязаць, яскрава, мяккаваты, цягавіты, цяжкавата, святка-
ваць, месяц, пояс, памяць, дробязь, дзевяць, дзесяць, тысяча,
дзеянне.*

Заўвага 1. Аб напісанні літар ***е, ё, я*** ў складаных, складанаска-
рочаных словах і некаторых словах іншамоўнага паходжання гл. §§ 16—
18 і 21—25.

Заўвага 2. Аб магчымых чаргаваннях галосных ***е*** і ***я*** гл. § 32.

## VI. Галосныя ў складаных словах

**§ 16.** Складаныя словы з націскам на першым складзе дру-
гой часткі пішуцца як простыя, напрыклад: *агняцвéт, вада-
спáд, дабрадзéй, ледарэ́з, скарахо́д, салявáр, санцапёк, смала-
ку́р, чарназём, шкларэ́з, геагрáфія, заало́гія, метадало́гія, та-
пагрáфія, агнястрэ́льны, баяздо́льны, вадатру́бны, велікаду́ш-
ны, вастравéрхі, галавало́мны, даўгавéчны, дабрая́касны, зла-
мы́сны, канаплявóдчы, караткахво́сты, краязнáўчы, малака-
го́нны, жыццярáдасны, мараxо́дны, навамо́дны, разнастáйны,
танкано́гі, чарнаво́кі, чырванакры́лы, шыракалі́сты, галавало́м-
ка, лабагрэ́йка, чарнабу́рка, ардэнано́сец, малатабо́ец, мараxó-
дзец, навабрáнец, палкаво́дзец, флатаво́дзец, бавaўнаво́дства,
вярблюдаво́дства, землярóбства, пчалаво́дства, бамбасхо́вішча,*



*вадасхо́вішча, зернясхо́вішча, пладасхо́вішча, даўгале́цце, мна-
гаво́ддзе, раўнапрáўе, палітэ́хнікум, палікліні́ка, кантрамáрка.*

Заўвага. Першая частка складаных прыметнікаў пішацца так, як
пішацца першая частка назоўнікаў, ад якіх гэтыя прыметнікі ўтварыліся:
*геагрáфія—геаграфі́чны, арфагрáфія—арфаграфі́чны, манагрáфія—мана-
графі́чны, тапагрáфія—тапаграфі́чны.*

**§ 17.** Калі ў другой частцы складанага слова націск падае
не на першы склад, то ў першай частцы праяўляецца пабочны
націск і пад ім аднаўляецца ***о (ё)***. Галосныя ў ненаціскных
складах кожнай часткі падпарадкоўваюцца агульным правілам
правапісу галосных (гл. §§ 6—8, 10, 11), напрыклад: *асно́ва-
палажэ́нне, арэ́хападо́бны, амёбападо́бны, баво́ўнапрадзе́нне,
во́гнетрывáлы, во́даразмеркавáльнік, ваго́нарамо́нтны, во́стра-
камбінацы́йны, высо́каідэ́йны, верталётабудавáнне, гало́ўнака-
мáндуючы, го́рнарабо́чы, гео́лагаразве́дка, зо́латаздабы́ча, ко́р-
маздабывáнне, ко́негадо́ўля, ко́нтратáка, ко́нтррэвалю́цыя, кіс-
ло́таўтварáючы, каро́ткатэрміно́вы, лёгкаатлеты́чны, лёдаўтва-
рэ́нне, мало́чнатавáрны, мато́рабудавáнне, по́ўнагало́ссе, по́лі-
метáлы, ро́даначáльнік, сярні́ставадаро́дны, сі́ласапагру́зчык,
снóпавязáлка, со́лепрамысло́васць, свóеасаблі́вы, то́нкавалак-
ні́сты, то́рфабрыке́т, чо́рнавало́сы, чырво́наарме́ец, жывёлаад-
ко́рмачны, хро́наметрáж, хло́рпікры́н, Го́лабаро́дзька, Ко́сма-
дзям'я́нскі.*

**§ 18.** У першай частцы некаторых складаных слоў можа
выразна праяўляцца пабочны націск і тады, калі асноўны на-
ціск падае на першы склад другой часткі. У такім выпадку
пад пабочным націскам у гэтых словах пішацца ***о (ё)***, на-
прыклад: *мало́чнакі́слы, азо́тнакі́слы, фо́сфарнакі́слы, збо́жжа-
здáча, манго́лазнáўства, манго́лаве́д, усхо́дазнáўства, рабо́та-
дáвец, рабо́таздо́льнасць, мато́разбо́рачны, но́вавы́найдзены,
ко́ксагáзавы, кало́нлі́чба, іго́лкаску́рыя, фо́ндасхо́вішча, во́-
семсо́т* і некаторыя іншыя. Ва ўсіх невыразных выпадках на-
пісанне вызначаецца слоўнікам.

Захоўваюць у першай частцы ***о*** таксама словы на: ***фота-***
(*фотакáртка, фотако́пія, фотазды́мак, фотарэ́туш, фотасу́вязь,
фотакáмера, фотавы́стаўка, фотаплёнка, фотасі́нтэз, фототэ́х-
ніка* і г. д.; але: *фатаграфія* і вытворныя ад яго); ***мота-*** (*мо-
тапо́езд, мотало́дка, мотаспо́рт, мотакро́с, мотаго́нкі, мотакá-
да* і г. д.; але: *матаво́з, матацы́кл* і вытворныя); ***што-*** (*што-
дзённа, штотыднёва, штоме́сячна, штого́д, штоко́львек* і г. д.).

Аднаўляецца ***о (ё)*** у першай частцы і тых складаных
слоў, другая частка якіх пачынаецца на ***ў*** (нескладовае): *ма-
ро́заўсто́йлівы, то́рфаўбо́рачны, во́гнеўсто́йлівы, збо́жжаўбо́рка*
і г. д.; але: *калаўро́т.*

Заўвага 1. У складаных словах, першай часткай якіх з'яўляецца
слова ***кіно***, пабочны націск праяўляецца на першым складзе: *кінакар-
ціна, кінаапарáт, кінаэкрáн, кінафестывáль, кіначасо́піс, кінарэклáма,
кінаакцёр* і г. д.

З а ў в а г а 2. Слова ***радыё***, стаўшы першай часткай складаных слоў, не мяняе свайго напісання, напрыклад: *радыёхваля, радыёпрыёмнік, радыёкропка, радыёантэна, радыёперадача, радыёграма, радыёзонд, радыёкамітэт* і г. д.

§ 19. Ненаціскное *э* ў першай частцы складаных слоў захоўваецца без змены, напрыклад: *мэтазго́дна, рэдказу́бы, шэраво́кі, арэхаво́дства, крэдытаздо́льнасць, тэлеба́чанне, шэсцьсо́т;* але: *шасна́ццаць.*

§ 20. У складаных словах, утвораных ад лічэбніка ў форме роднага склону і якога-небудзь іншага слова, першая частка пішацца так, як пішацца яна ў родным склоне лічэбніка, будучы асобным словам, напрыклад: *трохдзённы, чатырохто́мны, шасціство́льны, шасцісо́ты, сямі́годка, васьмігадо́вы, васьмісо́ты, дзевяціґра́дусны, дзесяцікла́снік, саракаго́ддзе, саракапяціто́нны, двухсотметро́вы.*

З а ў в а г а 1. Лічэбнікі ***сто*** і ***дзевяноста*** ў якасці першай часткі складаных слоў захоўваюць сваё напісанне, напрыклад: *стодзённы, стотысячны, дзевяностагадо́вы, дзевяностаты́сячны;* але: *стаго́ддзе.*

З а ў в а г а 2. Складаныя словы, у якіх першай часткай з'яўляецца лічэбнік ***адна***, не маюць пабочнага націску і пішуцца, як простыя словы, напрыклад: *аднагадо́вы, адначасо́ва, адназна́чны, аднакапы́тны, аднаразо́вы, аднапавярхо́вы* і інш.

З а ў в а г а 3. Частка ***поў*** пішацца з ***о*** толькі пад націскам, не пад націскам ***о*** пераходзіць у ***а***: *по́ўнач, по́ўдзень; паўго́ддзе, паўво́страў, напаўадчы́нены, напаўме́ртвы.*

§ 21. Калі складаныя словы маюць у сваім саставе больш за дзве часткі, то кожная частка пішацца як асобна ўзятае слова. Напрыклад, напісанне слова *паравозавагонарамонтны* можна праверыць праз напісанне слоў: *паравоз, вагон, рамонт; авіяматорабудаванне*—праз *авія, матор, будаванне; аэрафотапрыбор* — праз *аэра, фота, прыбор.*

§ 22. Злучальнымі галоснымі ў складаных словах могуць быць пры мяккай аснове першай часткі літары ***е***, ***я***, пры цвёрдай — ***а***, ***о***; прычым літара ***о*** можа быць толькі пад націскам *(куро́дым, сыро́ватка);* ***е*** ў першым складзе перад націскам перадаецца праз ***я***, калі складанае слова па напісанню разглядаецца як простае *(кулямёт, салякóп).*

З а ў в а г а. Ва ўсіх не прадугледжаных правіламі правапісу складаных слоў выпадках напісанне вызначаецца слоўнікам.

## VII. Галосныя ў іншамоўных гукавых злучэннях

### Злучэнні *іо, йо* (з *io, jo, yo*)

§ 23. Калі злучэнні ***іо***, ***йо*** вымаўляюцца (у беларускай мове) як два склады, тады яны на пісьме абазначаюцца:

1. Паміж зычнымі — літарамі ***іё*** (***ыё***) пад націскам і ***ія*** (***ыя***) не пад націскам, напрыклад: *біёлаг, біёграф, дамініён, Ліён, аксіёма, бібліёграф, Галакціён, Гесіёд, патрыёт, рацыён, радыёла, стадыён, бастыён; біяло́гія, бібліятэ́ка, геліятро́п, піяне́р, ажыята́ж, перыяды́чны, патрыяты́зм, акцыяне́рны, нацыяна́льны, нацыяна́льнасць, рацыяналіза́тар.*



У пачатку слова — літарамі ***іо*** пад націскам і ***іа*** не пад націскам, напрыклад: *іон, іонны, іог, Іосіф; Іанічнае мора, іанійцы, іанізацыя, Іакагама, Іаркшыр, іаркшырскі, Іашкар-Ала, Іаан.*

2. У канцавым адкрытым складзе злучэнні ***іо***, ***йо*** абазначаюцца літарамі ***іо*** (***ыо***), напрыклад: *Антоніо, Токіо, Сільвіо, адажыо, сальфеджыо, ажыо, капрычыо, трыо, Рыо, Рыо-дэ-Жанейра, Рыо-Негра, рацыо;* але: *радыё.*

З а ў в а г а. У словах, якія ў беларускай мове набываюць значэнне і форму жаночага роду, канцавыя злучэнні ***іо***, ***йо*** перадаюцца на пісьме літарамі ***ія*** (***ыя***), напрыклад: *камісія, дыскусія, агрэсія, дырэкцыя, дэманстрацыя, дэкларацыя, ілюстрацыя, інструкцыя, кантрыбуцыя, канвенцыя, нацыя, кааперацыя, абстракцыя, ліквідацыя, мабілізацыя, аблігацыя.*

§ 24. Калі злучэнні ***іо***, ***йо*** вымаўляюцца (у беларускай мове) як адзін склад, тады на пісьме яны перадаюцца:

1. Пасля галосных, як правіла, праз ***ё*** пад націскам і ***я*** не пад націскам, напрыклад: *раён, раённы, маёр, Маёраў, Лаёла, маянэз, маяран, маярат, раяніраванне.*

Аднак у невялікай групе слоў, напісанне якіх вызначаецца ў слоўнікавым парадку, злучэнне ***йо*** захоўваецца, напрыклад: *Гюйо́, Нью-Йо́рк, Агáйо* і інш.

2. У пачатку слова — праз ***ё***: *ёд, ёдзісты, ёт* (гук), *ёта* (літара), *ётацыя, ёдаформ, ёднаваты, ётаваны.*

3. Пасля зычных ***л***, ***с***, ***ц*** (мяккага), ***дз*** і непрыставачных ***н*** і ***з*** — праз ***ьё*** пад націскам і ***ья*** не пад націскам, пасля астатніх зычных — праз ***'ё*** пад націскам і ***'я*** не пад націскам, напрыклад: *мільён, більён, трыльён, Шыльён, мільянер, сур'ёзны, кур'ёз.*

### Злучэнні *іе, ые* (з *ie, hie, je, ye*)

§ 25. Злучэнне ***іе*** абазначаецца на пісьме літарамі ***іе*** (***ые***), напрыклад: *гігіена, кліент, аўдыенцыя, арыентацыя, абітурыент, кліентура, іерархія, іена, іерогліф, Іерусалім, іерыхонскі.*

§ 26. Злучэнне ***йе*** заўсёды вымаўляецца (у беларускай мове) як адзін склад і на пісьме перадаецца:

1. У пачатку слова і пасля галосных—праз ***е***: *езуіт, праект, канвеер, траекторыя, Феербах, Маерава, фае.*

2. Пасля зычных ***л***, ***с***, ***ц*** (мяккага), ***дз*** і непрыставачных ***н*** і ***з***— праз ***ье***, пасля астатніх зычных — праз ***'е***, напрыклад: *рэльеф, ранцье, парцьеры, канферансье, Гацье, Лавуазье, Жусье, Шэнье, Кардыльеры; п'еса, аб'ект, суб'ект, прэм'ера, Аж'е, Буш'е, бар'ер, ар'ергард, Куцюр'е.*

### Злучэнні *іа, йа* (з *ia, ja, ya*)

§ 27. Злучэнне ***іа*** звычайна абазначаецца на пісьме літарамі ***ія*** (***ыя***), напрыклад: *авіяцыя, ліяна, геніяльны, Іліяда, энтузіязм, фартэпіяна, піяніст, копія, аўтаномія, анархія, хімія, сацыялізм, сацыяльны, варыянт, матэрыял, матэрыялізм,*

арыя, артэрыя, аварыя, індустрыя, алегорыя, дыяметр, дыяпазон, дыяфрагма, амністыя.*

Калі ж злучэнне **іа** вымаўляецца (у беларускай мове) як адзін склад, тады яно перадаецца праз **я**, а пры раздзельным вымаўленні з папярэдняй зычнай — праз **'я**, напрыклад: *ямб, ямбічны, д'ябал.*

§ 28. Злучэнне **йа** на пісьме перадаецца:

1. Пасля галосных і ў пачатку слова—праз **я**, напрыклад: *раяль, плеяда, саквояж, лаяльны, раяліст, Савоя, Малая, Мая, ярус, яхта, ярд, яхант, ятаган, якабінец.*

2. Пасля зычных **л**, **с**, **ц** (мяккага). **дз** і непрыставачных **н** і **з** — праз **ья**, пасля астатніх зычных—праз **'я**, напрыклад: *мільярд, мільярдны, кальян, мадзьяр, альянс, маньяк, мільярдэр, саф'ян.*

## VIII. Чаргаванне галосных у некаторых каранях слоў

§ 29. Трэба адрозніваць галосныя **а** і **ы** ў каранях ***плав(ў)*** — ***плыв(ў)***. Корань ***плав(ў)*** пішацца ў словах, якія ўтвораны ад дзеяслова ***плаваць***: *сплаўляць, плаванне, уплаў* і інш.; корань ***плыв(ў)*** пішацца ў словах, якія ўтвораны ад дзеяслова ***плыць***: *плывец, плыўчыха, плывучасць, плыўкасць, плыўкі, плывучы, плывун, плынь* і інш.

§ 30. Чаргаванне **а** і **о** адзначаецца ў наступных дзеясловах: *каціць —качу — коціш — коціць — коцім — коціце — коцяць, закаціць — закачу — закоціш — закоцім* і г. д.; *знайсці — знайду — знойдзеш — знойдзе* і г. д.; *падарыць — падару — падорыш — падорыць* і г. д.; *скакаць — скочыць, праскакаць — праскочыць* і г. д.

§ 31. У некаторых словах сустракаецца чаргаванне **а** і **о** з **э**, напрыклад: *трасца — трос — трэсці, затрос — затрэсці* і г. д.

§ 32. Чаргаванне галосных **е** і **я** адзначаецца ў наступных дзеясловах і назоўніках: *агледзець (агледзіны) — агляд; перагледзець (перагледжаны) — перагляд* і г. д.; *заéчы (заéчына) — заяц.*

§ 33. Чаргаванне галосных **і** і **е** (у першым складзе перад націскам — **я**) адбываецца пераважна ў складах з санорнымі ў наступных дзеясловах: *сціраць — сцерці, выціраць — выцерці* і г. д.; *паміраць—памерці, выміраць—вымерці, заміраць—замерці* і г. д.; *раздзіраць — раздзерці, задзіраць — задзерці; прыпіраць — прыперці, запіраць — заперці; світаць — свяціць; выбіраць — выберу, забіраць — забяру; прыбіраць — прыбяру; рассцілаць — рассцялю*, а таксама *адліга — адлегчы.*

## IX. Ненаціскныя галосныя ў суфіксах

### Суфіксы назоўнікаў, прыметнікаў і дзеепрыметнікаў

§ 34. Трэба адрозніваць правапіс суфіксаў назоўнікаў ***-ак-*** і ***-ік-*** (***-нік-***), ***-ык-*** (***-чык-***). Каб правільна напісаць гэтыя суфіксы, трэба мець на ўвазе, што пры скланенні назоўніка з суфіксам ***-ак-*** галосная выпадае, а ў астатніх суфіксах галосная захоўваецца ва ўсіх склонавых формах, напрыклад: *сшытак — сшытка, пасынак — пасынка, выдатак — выдатку, пасак — паска, каласочак — каласочка, замочак — замочка;* але: *столік — століка, возік — возіка, падарожнік — падарожніка, каморнік — каморніка, дождждык — дожджыку, вожык—вожыка, хлопчык — хлопчыка, вагончык — вагончыка.*



§ 35. Ад памяншальна-ласкальнага суфікса ***-ічк-*** (***-ычк-***) трэба адрозніваць суфікс ***-ечк-*** (***-ачк-***). Суфікс ***-ічк-*** (***-ычк-***) пішацца ў назоўніках жаночага роду, якія ўтварыліся ад слоў з суфіксам ***-іц-*** (***-ыц-***): *лесвіца — лесвічка, мыльніца — мыльнічка.* У астатніх выпадках пішацца суфікс ***-ечк-*** (***-ачк-***): *дзядзька — дзядзечка, Соня — Сонечка, рэчка — рэчачка, братка — братачка, Наташа — Наташачка.*

§ 36. Ад суфікса ***-ец-*** (***-ац-***) трэба адрозніваць суфікс ***-іц-*** (***-ыц-***). Першы з іх (з беглай галоснай) пішацца ў назоўніках мужчынскага роду, другі — у назоўніках жаночага роду, напрыклад: *партыец — партыйца, ленінец — ленінца, камсамолец — камсамольца, ленінградзец — ленінградца, чарнаморац—чарнаморца;* але: *конніца, пясочніца, лесвіца, старыца, Рэчыца, Быстрыца.*

§ 37. У ласкальных прыметніках на ***-нькі*** і суадносных з імі формах прыслоўяў перад **н** пішацца **е**, а пасля зацвярдзелых зычных — **а**, напрыклад: *ціхенькі, ціхенька, паціхеньку, беленькі, беленька, родненькі, мякенькі, добранькі, добранька, харошанькі, свежанькі.*

§ 38. Трэба адрозніваць напісанне і ўжыванне суфіксаў ***-ян-*** і ***-ен-*** у дзеепрыметніках залежнага стану прошлага часу.

1. Суфікс ***-ян-*** пішацца толькі ў тых дзеепрыметніках, якія ўтвораны ад неазначальнай формы дзеясловаў на ***-яць***, напрыклад: *сеяны, веяны, абляяны, змуляны.*

2. Суфікс ***-ен-*** пішацца ў дзеепрыметніках, утвораных ад неазначальнай формы дзеясловаў на ***-іць, -ці***, у аснове якіх не адбываецца чаргавання свісцячых з шыпячымі, напрыклад: *адчынены, выбелены, супакоены, накормлены, куплены, скрыўлены, запылены, дазволены, зроблены, пазнаёмлены, асілены, заклеены, палены, схілены, прастрэлены* (ад *прастрэліць*); *звезены, прынесены, растрэсены, заведзены, спрадзены, аплецены.*

Акрамя гэтага, напісанне суфікса ***-ен-*** дапускаецца ў некаторых дзеепрыметніках, утвораных ад дзеясловаў неазначальнай формы на ***-нуць***, напрыклад: *апранены* і інш. Напісанне гэтых дзеепрыметнікаў вызначаецца арфаграфічным слоўнікам.

Заўвага. Ад дзеясловаў ***церці, дзерці, перці*** дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца пры дапамозе суфікса ***-т-***, напрыклад: *церці—цёрты, выцерці—выцерты, зацерці—зацёрты* і г. д.; *задзерці—задзёрты, надзерці—надзёрты* і г. д.; *падперці—падпёрты* і г. д.

§ 39. У дзеепрыметніках цяперашняга часу пішуцца суфіксы:

1. *-уч-* (*-юч-*) (незалежнага стану), *-ем-* (залежнага стану), калі дзеясловы, ад якіх утварыліся дзеепрыметнікі, адносяцца да І спражэння (гл. § 50), напрыклад: *пішучы, будуючы, згружаючы, заўважаючы; асвятляемы, перамагаемы, чакаемы.*

2. *-ач-* (*-яч-*) (незалежнага стану), *-ім-* (*-ым-*) (залежнага стану), калі дзеясловы, ад якіх утварыліся дзеепрыметнікі, адносяцца да II спражэння (гл. § 50), напрыклад: *гаворачы, любячы, узыходзячы, возячы.*

Заўвага. Дзеепрыметнікі цяперашняга часу носяць кніжны характар і ў сучаснай літаратурнай мове ўжываюцца рэдка.

### Суфіксы дзеясловаў

§ 40. Неабходна адрозніваць суфіксы дзеясловаў *-ава-* (*-ява-*) і *-ва-*, *-іва-* (*-ыва-*).

1. Суфікс *-ава-* (*-ява-*) пішацца ў неазначальнай форме і форме прошлага часу тых дзеясловаў, якія ў першай асобе адз. ліку канчаюцца на *-ую* (*-юю*), напрыклад: *галасаваць* (*галасаваў, галасавала, галасавалі*)—*галасую; начаваць* (*начаваў* і г. д.) — *начую; кіраваць* (*кіраваў* і г. д.) — *кірую; гараваць* (*гараваў* і г. д.) — *гарую; маляваць* (*маляваў* і г. д.)—*малюю; камандаваць* (*камандаваў* і г. д.) — *камандую; пакутаваць* (*пакутаваў* і г. д.) — *пакутую; даследаваць* (*даследаваў* і г. д.) — *даследую.*

2. Калі ж у першай асобе адз. ліку дзеясловы канчаюцца на *-ваю*, тады ў неазначальнай форме і форме прошлага часу пішацца звычайна суфікс *-ва-*, напрыклад: *выконваю — выконваць, падлічваю — падлічваць, выбельваю — выбельваць, адказваю — адказваць, выменьваю — выменьваць, вымерваю — вымерваць, выпраменьваю — выпраменьваць, загадваю — загадваць, перамолваю — перамолваць.*

Аднак у нешматлікіх выпадках, калі перад *-ва-* з'яўляецца група зычных, у якой апошнім будзе *л*, *н* або *р*, то тады замест *-ва-* пішацца суфікс *-іва-* (*-ыва-*), напрыклад: *падкрэсліваю — падкрэсліваць, падтрымліваю — падтрымліваць, зачэрніваю — зачэрніваць, адыгрываю — адыгрываць, праветрываю — праветрываць, запэўніваю — запэўніваць.*

Заўвага. Калі неазначальная форма дзеяслова закончанага трывання канчаецца на *-іць* з папярэдняй галоснай, то ў незакончаным трыванні перад суфіксам *-ва-* замест *і* пішацца *й*: *утаіць — утойваць, супакоіць—супакойваць, засвоіць—засвойваць, узброіць—узбройваць.*

## X. Галосныя ў некаторых ненаціскных канчатках назоўнікаў

§ 41. Неабходна адрозніваць напісанне канчаткаў *-а* (*-я*) і *-у* (*-ю*) у неадушаўлёных назоўніках мужчынскага роду ў родным склоне адз. ліку.



1. Канчатак *-у* (*-ю*) пішацца:

а) У назоўніках, якія абазначаюць разумовыя паняцці, грамадскія фармацыі, навуковыя тэорыі, грамадскія і навуковыя плыні, розныя адчуванні, дзеянні, працэсы, стан, уласцівасці, напрыклад: *розуму, аб'ёму, поспеху, побыту, настрою, патрыятызму, уздыму, капіталізму, феадалізму, матэрыялізму, рэалізму, дарвінізму, болю, жалю, смутку, гневу, смеху, страху, руху, спуску, бегу, ходу, лёту, шуму, крыку, гаму, сну, спакою, адпачынку.*

Выключэнне складаюць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм,* якія па традыцыі пішуцца з канчаткам *а.*

б) У назоўніках, якія абазначаюць рэчывы, матэрыял, напрыклад: *мёду, цукру, квасу, воску, пораху, жвіру, соку, чаю, сыру, лёду, гіпсу, бензіну, дзёгцю, клею, маргарыну, соладу, цэменту, пылу, пуху, крэму, торфу, вугалю, хрэну, крухмалу, спірту, дыму, мармуру, асфальту, паркалю, аксаміту, ячменю, гароху, вінаграду;*

у тым ліку ў назвах хімічных элементаў і злучэнняў, напрыклад: *кіслароду, азоту, цынку, алюмінію, амонію, барыю, стронцыю, фасфарыту;*

ва ўсіх вытворных ласкальных або памяншальных формах на *-к* ад гэтай групы слоў, напрыклад: *пясочку, цукрыку, гарошку.*

Але: *хлеба,* а таксама *аўса.*

в) У словах са значэннем зборнасці, напрыклад: *лесу, гаю, саду, парку, народу, натоўпу, хору, інвентару, тавару, гурту, пралетарыяту, абозу, эпасу, хвойніку, ельніку.*

г) У назоўніках, якія абазначаюць з'явы прыроды, напрыклад: *ветру, віхру, грому, граду, марозу, сухавею, світанку, змроку.*

д) У большасці слоў са значэннем месца, прасторы, якія не маюць пэўнай формы і размеру, напрыклад: *стэпу, краю, свету, раю, шляху, праходу, кроку, нізу, верху, усходу, захаду.*

е) У пераважнай большасці назоўнікаў, якія ўваходзяць у склад устойлівых выразаў, напрыклад: *з году ў год, год ад году, без году тыдзень, няма і пачуту, з краю ў край, адбою няма, даць дыхту, даць маху, не даваць праходу, ні роду ні племені, не засталося і следу, не даваць спуску, да ўпаду.*

Заўвага. Трэба мець на ўвазе, што адзін і той жа назоўнік, выступаючы ў розных значэннях, можа мець канчатак *-у* (*-ю*) і канчатак *-а* (*-я*), напрыклад: *Стол зроблен з дубу (ясеню). Мы прыпыніліся каля дуба (ясеня). Сабралася многа народу. Гісторыя беларускага народа.*

2. Ва ўсіх астатніх катэгорыях неадушаўлёных назоўнікаў пішацца канчатак *-а* (*-я*).

## XI. Галосныя ў некаторых канчатках прыметнікаў і займеннікаў

§ 42. Якасныя і адносныя прыметнікі ў родным склоне адз. ліку жаночага роду пішуцца з канчаткамі *-ай* (*-ае*), *-яй* (*-яе*)

не пад націскам і ***-ой*** (***-ое***) пад націскам, напрыклад: *дружнай (-ае) сям'і, шырокай (-ае) дарогі, крынічнай (-ае) вады, мураванай (-ае) сцяны, летняй (-яе) раніцы, маладой (-ое) травы, стальной (-ое) апоры.*

Паводле гэтага правіла пішуцца ў родным склоне адз. ліку жаночага роду займеннікі, якія скланяюцца па тыпу прыметнікаў.

§ 43. У канчатках роднага склону адз. ліку жаночага роду ад прыналежных прыметнікаў пішацца не пад націскам ***-ай*** і пад націскам ***-ой***: *рыбаковай хаты, сестрыной кнігі.*

§ 44. Неазначальны займеннік ***нечы*** мае наступныя склонавыя формы:

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | *Мужч. род* | *Ніякі род* | *Жан. род* | |
| Н. | *нечы* | *нечае* | *нечая* | *нечыя* |
| Р. | *нечага* | | *нечай (-ае)* | *нечых* |
| Д. | *нечаму* | | *нечай* | *нечым* |
| В. | як назоўны або родны | | *нечую* | як назоўны або родны |
| Т. | *нечым* | | *нечай (-аю)* | *нечымі* |
| М. | *(аб) нечым* | | *(аб) нечай* | *(аб) нечых* |

§ 45. Займеннікі ***наш***, ***ваш*** у назоўным склоне адз. ліку ніякага і жаночага роду пішуцца з канчаткам ***-а***, а ў мн. ліку — з канчаткам ***-ы***.

§ 46. Указальны займеннік ***гэты*** ў назоўным склоне мае наступныя формы: у адз. ліку ніякага і жаночага роду — ***гэта*** і ў мн. ліку для ўсіх родаў — ***гэтыя***.

## XII. Галосныя ў некаторых канчатках лічэбнікаў

§ 47. Лічэбнікі ***два, дзве, абодва, абедзве*** ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем не ўніфікуюць родавых форм і маюць наступныя склонавыя канчаткі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | як назоўны або родны | | | |
| Т. | *двума* | *дзвюма* | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. | *двух* | *дзвюх* | *абодвух* | *абедзвюх* |

§ 48. У колькасных састаўных лічэбніках скланенню падлягае кожнае слова, напрыклад:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *трыццаць восем* | *шэсцьсот семдзесят дзевяць* | | |
| Р. | *трыццаці васьмі* | *шасцісот сямідзесяці дзевяці* | | |
| Д. | *трыццаці васьмі* | *шасцістам сямідзесяці дзевяці* | | |
| В. | як назоўны | | | |
| Т. | *трыццаццю васьмю* | *шасцюстамі сямюдзесяццю дзевяццю* | | |
| М. | *трыццаці васьмі* | *шасцістах сямідзесяці дзевяці* | | |



§ 49. Парадкавыя лічэбнікі жаночага роду ў родным склоне адз. ліку пішуцца з канчаткамі ***-ай*** (***-ае***), ***-яй*** (***-яе***) не пад націскам і ***-ой*** (***-ое***) пад націскам, напрыклад: *шостай (шостае) старонкі, трэцяй (трэцяе) брыгады, другой (другое) групы.*

## XIII. Галосныя ў ненаціскных асабовых канчатках дзеясловаў

§ 50. Дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу з ненаціскнымі асабовымі канчаткамі (акрамя першай асобы адз. ліку) размяркоўваюцца па спражэннях наступным чынам:

1. Дзеясловы, якія ў неазначальнай форме канчаюцца на ***-іць*** (***-ыць***), а таксама дзеясловы ***вярцець, гнаць*** і ***ненавідзець*** адносяцца да II спражэння. Гэтыя дзеясловы пішуцца з канчаткамі ***-іш*** (***-ыш***), ***-іць*** (***-ыць***), ***-ім*** (***-ым***), ***-іце*** (***-ыце***), ***-аць*** (***-яць***).

Заўвага. Дзеяслоў ***пасвіць*** захоўвае канчаткі II спражэння толькі ў трэцяй асобе мн. ліку.

2. Усе астатнія дзеясловы адносяцца да I спражэння і пішуцца з канчаткамі ***-еш*** (***-аш***), ***-е*** (***-а***), ***-ем*** (***-ам***), ***-еце*** (***-аце***), ***-уць*** (***-юць***).

Заўвага 1. Неазначальныя формы дзеясловаў II спражэння на ***іць*** (***-ыць***) неабходна адрозніваць ад неазначальных форм дзеясловаў на ***-ць*** з папярэднімі карэннымі галоснымі ***і*** і ***ы*** тыпу *піць, біць, віць, мыць, ліць, выць, шыць, крыць, рыць, брыць,* якія адносяцца да I спражэння.

Заўвага 2. Дзеясловы з прыстаўкамі спрагаюцца па тыпу тых непрыставачных дзеясловаў, ад якіх яны ўтвораны, напрыклад: *вынесці, вынесеш; высечы, высечаш* (параўн.: *несці, нясеш; сячы, сячэш*)—I спражэння; *выспацца, выспішся; вылежаць, вылежыш* (параўн.: *спаць, спіш; ляжаць, ляжыш*)—II спражэння.

§ 51. Дзеясловы абвеснага ладу цяперашняга часу першага спражэння ў першай асобе мн. ліку пішуцца з канчаткам ***-ем*** (***-ам***) не пад націскам і ***-ём*** (***-ом***) пад націскам: *чыта́ем, буду́ем, мярку́ем, мужне́ем, мацу́ем, ме́раем, вывуча́ем, пі́шам, вя́жам, рэ́жам; ідзём, нясём, кладзём, расцём, плывём, бяро́м, сцеражо́м.*

У другой асобе мн. ліку, калі націск падае на апошні склад, пішуцца канчаткі ***-яце́*** (***-аце́***), а не пад націскам ***-еце*** (***-аце***): *ідзяце́, несяце́, кладзяце́, бераце́, сцеражаце́, печаце́; се́еце, працу́еце, змо́жаце, пі́шаце.*

§ 52. Рознаспрагальныя дзеясловы ***ем*** (***есці***), ***дам*** (***даць***) маюць наступныя асабовыя формы:

| Адзіночны лік | | Множны лік | |
|---|---|---|---|
| *ем* | *дам* | *ядзім* | *дадзім* |
| *ясі* | *дасі* | *ясце* | *дасце* |
| *есць* | *дасць* | *ядуць* | *дадуць* |

## XIV. Ненацiскныя часціцы ***не*** і ***ні***

**§ 53.** Неабходна адрозніваць напісанне ненацiскной часціцы ***не*** ад ненацiскной часціцы ***ні***. Гэтыя часціцы адрозніваюцца як па значэнню, так і па ўжыванню.

1. Часціца ***не*** ўжываецца для адмаўлення, напрыклад: *Я не заходзіў да яго. Я заходзіў не да яго. Не я заходзіў да яго.*

Акрамя гэтага, часціца ***не*** ўжываецца:

а) У першай і ў другой частках састаўнога дзеяслоўнага выказніка для выражэння сцвярджальнага значэння, напрыклад: *не мог не прачытаць* (г. зн. прачытаў), *нельга не адзначыць* (г. зн. трэба адзначыць). *Не, не пабачыць я не мог мясцін знаёмых і дарог, дзе дні прайшлі мае* (Кірэенка). *Партызану ніколі не забыць вас, шумлівыя палескія лясы* (Краўчанка).

Сцвярджальнае значэнне надаецца сказу таксама пры ўжыванні ***не*** перад назоўнікам з прыназоўнікам ***без***, напрыклад: *прачытаў кнігу не без цікавасці* (г. зн. прачытаў з цікавасцю), *не без дапамогі* (г. зн. з дапамогай).

б) У пытальных і клічных сказах з займеннікамі, прыслоўямі і часціцамі, утвараючы з імі ўстойлівыя словазлучэнні: *як не, хто не, хто толькі не, чаго не, чаго толькі не, дзе не, дзе толькі не, каб не* і інш., якія выражаюць неабходнасць дзеяння, абагульненне, пахвалу, перасцярогу. Да гэтай групы прымыкаюць пытальныя сказы са спалучэннем *ці не*. Напрыклад: *Як не паважаць яго! Дзе ён толькі не пабываў! Чым не хлопец? Ці ж не праўда гэта?*

в) У спалучэнні са злучнікам ***пакуль*** у даданых сказах часу, якія абазначаюць момант спынення дзеяння, выражанага выказнікам галоўнага сказа, напрыклад: *Касі, пакуль не ападзе раса. Куй жалеза, пакуль не астыне яно!* (Купала). *Даспелы ліст, зрываючыся з галінкі ад лёгкага подыху ветру, трапятаўся, як матылёк, пакуль не клаўся ў ружовую верасовую пасцель* (Паслядовіч). *Мы глядзелі яму ўслед, аж пакуль ён не схаваўся за прыдарожнымі хмызнякамі* (Чорны).

г) Ва ўстойлівых словазлучэннях *ледзь не, чуць не, траха не, зусім не, далёка не, нiколькі не*, якія абазначаюць прыблізнасць або ўзмоцненае адмаўленне, напрыклад: *аддыхаў ледзь не дзве гадзіны, хмары засцілалі чуць не ўсё неба, зусім не дрэнна пакуль што, далёка не так, ніколькі не менш.*

д) У злучальных злучніках *не толькі—але (і); не толькі—а (і); не то—не то; не то што—але (і); не то што—а (і); не столькі—колькі* і інш., напрыклад: *У калгасным садзе было ўжо не толькі зелена, але і сям-там пачыналі расцвітаць жоўтыя кветкі* (Кулакоўскі). *А трэба сказаць, Васіль быў рыбак не толькі заўзяты, а нават, як кажуць, заядлы* (Якімовіч). *...Не то яна плача, не то так праціраe балючыя вочы* (Крапіва).



2. Часціца ***ні*** ўжываецца для ўзмацнення адмоўя, напрыклад: *Жарты і самы шчыры смех не змаўкалі ні на хвіліну* (Колас). *Хоць бы каго ўбачыць. Але на вуліцах ні душы* (Пестрак).

Аднак трэба мець на ўвазе, што пры пералічэнні паўторная часціца ***ні*** выступае ў значэнні злучніка, напрыклад: *Ні далеч, ні час не заслоняць мне родных бароў* (Колас). *Знай, смелых не чэпіць ні крыўда, ні цьма!* (Купала). *Не пашкадавала яна са сваім звяном ні працы, ні часу, каб выканаць узятае абавязацельства* (Крапіва).

Акрамя гэтага, часціца ***ні*** ўжываецца:

а) Перад выказнікам у даданых сказах для ўзмацнення сцвярджальнага значэння, напрыклад: *У нас кругом лес, куды ні глянь* (Чорны). *Што ні кажы, наш край багаты!* (Колас). *Як ні гне мароз, ні гладзіць, але нічога не парадзіць* (Колас).

У даданых сказах гэтага тыпу часціца ***ні*** прымыкае да адноснага слова або да злучніка, і таму даданыя сказы пачынаюцца спалучэннямі: *хто ні, хто б ні, што ні, што б ні, як ні, як бы ні, колькі ні, колькі б ні, куды ні, куды б ні, дзе ні, дзе б ні, які ні, які б ні, чый ні, чый бы ні, калі ні, калі б ні* і інш. Спалучэнні гэтай групы ўвайшлі ў склад некаторых устойлівых узмацняльных зваротаў: *з кім бы то ні было, што б там ні было* і інш.

б) У няпоўных сказах, у якіх прапушчан выказнік з адмаўленнем, напрыклад: *Кругом ні душы* (прапушчан выказнік «няма»). *Ні з месца!* (прапушчан выказнік «не сыходзіць»).

в) У адмоўных займенніках: *ніхто, нікога* і г. д.; *нішто, нічога* і г. д.; *ніякі, ніякага* і г. д.; *нічый, нічыйго* і г. д. і прыслоўях: *нізашто, ніколі, нідзе, нікуды, ніадкуль, ніколькі* і інш.

г) Ва ўстойлівых антанімічных зваротах, напрыклад: *ні ўзад ні ўперад, ні жывы ні мёртвы, ні даць ні ўзяць, ні з сяго ні з таго, ні так ні гэтак, ні адтуль ні адсюль, ні стаць ні сесці, ні села ні пала, ні рыба ні мяса, ні складу ні ладу, ні сёе ні тое, ні праехаць ні прайсці, ні к сялу ні к гораду, ні богу свечка ні чорту галавешка* і інш.

# ПРАВАПІС ЗЫЧНЫХ

## I. Агульныя правілы напісання зычных

**§ 54.** Пераход звонкага зычнага (акрамя прыставачнага *з*) у глухі перад наступным глухім зычным і, наадварот, глухога ў звонкі перад наступным звонкім, а таксама аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова на пісьме не адзначаецца: *рыбка* (рыба), *кладка* (кладак), *гарадскі* (гарады), *даследчы* (даследаваць), *блізка* (блізасць), *казка* (казаць), *ножка* (нажны), *дзядзька* (дзядзя); *просьба* (прасіць), *касьба* (касіць), *косьбіт* (насіць), *малацьба* (малаціць); *грыб* (грыба), *хлеб*

(хлебны), *дзед* (дзеда), *воз* (воза), *мазь* (мазі), *рог* (рога), *бег* (беглы), *нож* (нажа), *маж* (мажаш), *еж* (ежа), *дождж* (дажджу).

Правапіс зычных, якія нельга праверыць шляхам змены слова, вызначаецца ў слоўнікавым парадку: *оптам, футбол, баскетбол, сапфір.*

Заўвага. У словах *натхненне, затхлы, тхнуць, тхор* літара ***т*** пішацца традыцыйна, нягледзячы на наяўнасць слоў *дыхаць, дыхнуць.*

§ 55. У прыстаўках ***з-*** (***із-***), ***уз-***, ***раз-*** (***роз-***), ***без-*** (***бяз-***), ***цераз-*** перад глухімі замест ***з*** пішацца ***с***: *спроба, ссыпаць, сцадзіць, схапіць, спадыспаду, усхваляваць, раскідаць, расфасаваць, расход, роспіс, россып, беспрерастанку, бяспечны, бясспрэчны, церасталосіца.*

Перад звонкімі і санорнымі зычнымі прыставачнае ***з*** захоўваецца, напрыклад: *збудаваць, здабыча, зварот, знайсці, разгон, бездакорнасць;* але: *снарад.*

Заўвага 1. Калі аснова пачынаецца галосным ***а, о, у, э*** або ***і*** ненаціскным, тады прыстаўка ***з-*** перадаецца праз ***с-***, прычым ***і*** пасля прыстаўкі пераходзіць у ***ы***: *сарганізаваць, сагітаваць, сэканоміць, сыграць;* але: *засяродзіцца, засяроджаны, зымправізаваць, зымшыць.*

Заўвага 2. У словах, утвораных ад дзеяслова ***ісці***, прыстаўка ***з-*** або ***с-*** пішацца ў залежнасці ад лексічнага значэння слова: *сышоў, сыходзіць, сыходзячы* (з ганку); але: *выходзіць* (з меркавання), *выходны* (пункт погляду), *зыходзячы* (націск).

### II. Зычныя *д, т* і *дз, ц*

§ 56. ***Д*** перад ***е, ё, я, ю, і*** пераходзіць у мяккае ***дз***, а ***т***— у мяккае ***ц***: *горад — у горадзе, народ — у народзе, сад — у садзе, іду — ідзеш, варта — на варце, выток — выцякаць.*

§ 57. ***Д*** пераходзіць у ***дз***, а ***т*** у ***ц*** і перад мяккім ***в***: *два— дзве, двухсот — дзвесце, батва — бацвінне, мёртвы — мярцвяк, руцвяны, цвёрды, дзверы;* але прыставачнае ***д*** і суфіксальнае ***т*** перад мяккім ***в*** захоўваюць сваю цвёрдасць: *адвезці, адведаць, у таварыстве, аб прыродазнаўстве, у грамадстве.*

***Т*** захоўвае сваю цвёрдасць перад мяккім ***в*** таксама ў аддзеяслоўных назоўніках і ў словах, вытворных ад іх: *брытва—брытве, брытвенны, клятва—клятве, клятвенны, пітво—у пітве, бітва — у бітве.* Цвёрдасць ***д*** і ***т*** захоўваецца перад мяккім ***в*** і ў паасобных словах, правапіс якіх вызначаецца ў слоўнікавым парадку, напрыклад: *мардва — мардве, братва— братве; літвін, літвінка.*

§ 58. У словах іншамоўнага паходжання (акрамя імён уласных) ***д*** і ***т***, як правіла, не змякчаюцца: *дэлегат, медыцына, матэрыял, дэманстрацыя, універсітэт, тэхніка, апладысменты.*

Аднак перад суфіксамі і злучэннямі суфіксальнага паходжання ***-ін-***, ***-ір-***, ***-ёр-***, ***-еец-***, ***-ейск-***, а таксама перад памяншальным суфіксам ***-ік-*** у словах іншамоўнага паходжання ***д*** і ***т*** вымаўляюцца мякка і на пісьме перадаюцца праз



***дз, ц***: *каранцін, плáціна, лацінскі, камандзір, камандзіроўка, мундзір, білецёр, акцёр, манцёр, гвардзеец, індзеец, гвардзейскі, індзейскі, білецік, эпізодзік;* але: *латынь.*

Акрамя таго, ***д, т*** вымаўляюцца мякка і на пісьме перадаюцца праз ***дз, ц*** у некаторых словах, правапіс якіх вызначаецца ў слоўнікавым парадку: *дзюна, дзюшэс, бардзюр, эцюд, цір, цюль, цітр, нацюрморт, уверцюра, накцюрн, арцішок* і інш.

§ 59. У імёнах уласных ***дз, ц*** або ***д, т*** пішуцца ў залежнасці ад беларускага літаратурнага вымаўлення: *Дзяніс, Дзюкло, Дзмітэрка, Гарыбальдзі, Дзясна, Дзвіна, Барадзіно, Уладзівасток, Градзянка, Плоўдзіў, Ціхон, Хрысціна, Цёркін, Ціханаў, Ціміразеў, Ціта, Вучэціч, Целяханы, Ціхвін, Быцень, Закарпацце, Церак, Цюмень, Цянь-Шань, Цяньцзінь, Цюрынгія, Поці, Таіці, Гаіці; Тэкля, Тэвасян, Тэкерэй, Тэльман, Атэла, Тэлаві, Шаптыцкі, Юманітэ, Дадэ, Дэфо, дэ Бальзак, Дэтройт, Літвінаў, Мардвінаў.*

Заўвага. Ва ўсіх няпэўных выпадках напісанне вызначаецца па адпаведных даведніках.

### III. Падоўжаныя зычныя

§ 60. Пры падоўжаным вымаўленні зычныя гукі ***ж, з, дз, л, н, с, ц, ч, ш***, якія стаяць паміж галоснымі, на пісьме перадаюцца праз падваенне іх (падоўжанае вымаўленне ***дз*** на пісьме перадаецца праз ***ддз***): *збожжа, маззю, галлё, насенне, калоссе, смецце, ламачча, зацішша, разводдзе, Аўгіння, Аксіння, Наталля, Аўдоцця, Краснаполле, Залессе, Закарпацце;* але: *Ілья, Ільіч, Ільічоўка, Ільін, Ільінскі, Ульяна, Ульянаўск, Касьян,* а таксама вытворныя ад слова ***ліць: лье, льецца***, *налью, разалью* і інш.

§ 61. Зычны ***н*** вымаўляецца падоўжана і на пісьме перадаецца праз ***нн*** у суфіксе ***-енн-*** (***-энн-***), пры дапамозе якога ад асноў назоўнікаў утвараюцца прыметнікі з павелічальным значэннем: *здаравенны, страшэнны,* а таксама ў аманімічным папярэдняму суфіксе ***-енн-*** (***-энн-***), пры дапамозе якога ад асноў назоўнікаў утвараюцца прыметнікі з якасна-адносным значэннем: *абедзенны, свяшчэнны, форменны, вогненны.*

§ 62. Словы іншамоўнага паходжання ў беларускай мове пішуцца без падваення карэнных зычных, акрамя паасобных слоў, дзе захоўваецца падоўжанае вымаўленне карэннага зычнага: *ванна, манна, бонна, панна, Мекка, мецца, дурра* (расліна) і інш.

Правапіс такіх слоў вызначаецца ў слоўнікавым парадку.

### IV. Некаторыя злучэнні зычных

§ 63. У злучэннях ***зд, ст*** зычныя ***д, т*** перад наступнымі ***н*** ці ***л*** не вымаўляюцца і на пісьме не перадаюцца: *позна,*

праязны, выязны, бязлітасны, пачэсны, шаснаццаць, ненавісны, існаваць, скарасны, колькасны, абласны, радасны, вусны, капусны, жаласлівы, паслаць, шчаслівы, карыслівы, помслівы.

Заўвага. Злучэнне **стн** у прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса *-н-* ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання з канцавым **ст**, захоўваецца без змен: *баластны, фарпостны, аванпостны, кампостны, кантрастны.*

§ **64.** Пры ўтварэнні дзеясловаў з суфіксам *-ну-* ў групах зычных **скн**, **згн**, **стн** гукі **к**, **г**, **т** выпадаюць і на пісьме не перадаюцца: *блiснуць, бразнуць, свiснуць.*

§ **65.** Спрашчэнні ў групах зычных **рдц**, **рдн**, **слн** адзначаюцца толькі ў наступных словах: *сэрца, міласэрны, наўмысны, непамысны* і вытворных ад іх, напрыклад: *сэрцайка, міласэрнасць, Наўмыснік.*

§ **66.** Злучэнне **дт** на канцы слоў іншамоўнага паходжання перадаецца праз **т**: *фарштат, Гумбальт, Кранштат.*

## V. Зычныя на стыку марфалагічных частак слова

§ **67.** Калі прыстаўка канчаецца той жа зычнай, якой пачынаецца ўтвараючая аснова, на пісьме захоўваецца падвойнае напісанне гэтай зычнай: *паддаць, рассыпаць, рассадзіць, абяззброіць, бяссонны.*

Выключэнне: *расада, расол, расольнік.*

Напісанне зычных на стыку прыстаўкі і ўтвараючай асновы ў словах іншамоўнага паходжання вызначаецца ў слоўнікавым парадку: *аннігіляцыя, іннервацыя, сюррэалізм, аддукцыя* і інш.; але: *ірэальны, іміграцыя, акамадацыя, карэляцыя, аперцэпцыя, дысідэнт, ірэдэнтызм, імартэль* і інш.

Заўвага. Падвойнае напісанне зычнай на стыку кораня і прыстаўкі ў словах іншамоўнага паходжання звычайна захоўваецца ў тых выпадках, калі 1) слова без прыстаўкі ўжываецца самастойна або корань яго выдзяляецца ў радзе т. зв. «звязаных асноў» і 2) гэта прыстаўка з тым жа значэннем ужываецца не ў адным, а ў некалькіх словах, напрыклад: *іннервацыя,* бо ёсць *нервацыя* і ёсць *інакуляцыя, інкарпарацыя* і інш.; *аддукцыя,* бо ёсць *індукцыя, дэдукцыя* і інш. і ёсць *аддуктар, адэкватны* і інш. Але: *дысідэнт,* бо няма *сідэнт; іміграцыя,* бо прыстаўка *ім-* (як варыянт прыстаўкі *ін-*) ужываецца толькі перад **м**; па гэтай жа прычыне адна зычная пішацца і ў словах *ірэальны, акумулятар, аперцэпцыя, карэляцыя* і інш.

§ **68.** Калі прыстаўка канчаецца зычнай **с**, а ўтвараючая аснова пачынаецца зычнай **ч**, тады злучэнне **сч** перадаецца нязменна: *расчыніць, счапіць, расчапіць* (не блытаць з *расшчапіць, прышчапіць, сашчапіць,* дзе ўтвараючая аснова пачынаецца з **шч**), *усчаць;* але ў словах *рошчына, шчасце, ушчуваць, нішчымны* і ў вытворных ад іх (*рошчынны, шчаслівы, шчасны, няшчасны, Шчасліўцаў, Шчасны, Шчаслівенка, нішчымніца* і інш.) на месцы **сч** пішацца **шч**.

§ **69.** Калі ўтвараючая аснова слова канчаецца зычнай **н**, а суфікс пачынаецца з **н**, на пісьме захоўваецца падвойнае



напісанне **н**: *сасоннік, дзённік, карэнны, каменны, ваенны, шматступенны, раменны, вясенні, асенні, пераменны, пераменнасць, конны, коннік, насенны, насеннік.*

Калі ж аснова слова канчаецца на **нн**, то ў словах з суфіксальным **н** трэцяя аднолькавая зычная не пішацца: *манна—манная, ванна—ванная.*

§ **70.** Падвойнае **н** пішацца ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў на *-мя*. і ў словах, вытворных ад гэтых прыметнікаў: *племя—племянны—пляменнік, імя — іменны — займеннік, стрэмя—страмянны, цемя—цемянны;* але: *полымя—палымяны.*

§ **71.** Калі ўтвараючая аснова слова канчаецца на **к**, **т**, **ц**, **ч**, а суфікс пачынаецца зычнай **с**, тады злучэнні **кс**, **тс**, **цс**, **чс** на пісьме перадаюцца праз **ц**: *мастацкі, мастацтва* (мастак), *гарадоцкі* (Гарадок), *прылуцкі* (Прылукі), *савецкі* (савет), *кравецкі* (кравец), *ткацкі* (ткач), *грэцкая мука* (грэчка), *калькуцкі* (Калькута), *суэцкі* (Суэц), *майнцкі* (Майнц), *ніццкі* (Ніцца), *парыцкі* (Парычы), *пухавіцкі* (Пухавічы); але: *грэчаскі* (Грэцыя), хоць *грэцкі арэх.*

Заўвага. У геаграфічных назвах неславянскага паходжання (і вытворных ад іх словах) злучэнне канцавой зычнай асновы **к** з суфіксальным **с** перадаецца нязменна: *узбекскі, оскскі, лакскі, таджыкскі, окскі.*

§ **72.** Калі ўтвараючая аснова слова канчаецца на **с**, **ж**, **ш**, ці **г**, **х**, якія чаргуюцца з **ж**, **ш**, а суфікс пачынаецца зычнай **с**, тады злучэнні **сс**, **жс**, **шс** на пісьме перадаюцца праз адно **с**: *беларускі* (беларус), *таварыскі, таварыства* (таварыш), *мноства* (множ-—ад мног-), *птаства* (*пташ-*—ад птах-).

§ **73.** У геаграфічных назвах (і вытворных ад іх словах) канцавыя зычныя ўтвараючай асновы **з**, **ж**, **ш**, **г**, **х** з суфіксальным **с** не зліваюцца ў адно **с**, а захоўваюцца: *каўказскі, абхазскі, веліжскі, суражскі, нясвіжскі, латышскі, выбаргскі, казахскі.*

Перад суфіксальным **с** у некаторых выпадках могуць адбывацца чаргаванні **г — ж**, **х — ш**: *волжскі* (Волга), *чэшскі* (чэх), *старадарожскі* (Старыя Дарогі).

§ **74.** Калі ўтвараючая аснова слова канчаецца зычнай **д**, а суфікс пачынаецца зычнай **с**, тады злучэнне **дс** на пісьме перадаецца нязменна: *гарадскі, грамадскі, грамадства, параходства, ленінградскі, Бродскі, Выгодскі.*

§ **75.** У назоўніках, утвораных ад прыметнікаў на *-цкі* пры дапамозе суфікса *-ін* (*а*), у выніку чаргавання зычных і асіміляцыі суфіксальнае **цк** пераходзіць у **чч** і так перадаецца на пісьме: *Полаччына* (полацкі), *Турэччына* (турэцкі), *Нямеччына* (нямецкі), *Беласточчына* (беластоцкі), *Случчына* (слуцкі).

Калі ж прыметнік на *-цкі* ўтвараецца ад назоўніка з канцавым зычным **т**, тады ў назоўніках, утвораных ад такіх прыметнікаў на *-цкі*, перад суфіксам *-ін*(*а*) пішацца **тч**: *брэсцкі* (Брэст)—*Брэстчына, брацкі* (брат)—*братчына, салдацкі*

(салдат)—*салдатчына, старасвецкі* (стары свет)—*старасветчына* і інш.

§ **76.** Падвойнае **ц** пішацца ў зваротнай форме інфінітываў і ў зваротнай форме дзеясловаў трэцяй асобы адз. і мн. ліку: *змагацца, купацца, вучыцца, пішацца, пячэцца, мыецца, будуюцца, просяцца*. Калі ж перад **-ць** у дзеясловах трэцяй асобы маецца зычная, то ў зваротнай форме гэтых дзеясловаў пішацца адно **ц**: *здасца, наесца.*

§ **77.** Падвойнае **ц** пішацца ў лічэбніках: *адзінаццаць, дванаццаць, трынаццаць, чатырнаццаць, пятнаццаць, шаснаццаць, семнаццаць, васемнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць, трыццаць.*

§ **78.** На пісьме неабходна адрозніваць суфіксы з пачатковым **ч** (**-чык-**, **-чыц**(*а*), **-чын-**) ад суфіксаў з пачатковым **шч** (**-шчык-**, **-шчыц**(*а*), **-шчын-**).

1. Суфіксы з пачатковым **ч** пішуцца:

а) Калі ўтвараючая аснова канчаецца на пярэднеязычныя **д**, **т**, **з**, **с**, **ж**, **ч**: *дакладчык, складчына, перакладчык, загадчык, лётчык, пераплётчык, мінамётчык, возчык, грузчык, перапісчык, перабежчык*. Калі ж перад канцавымі **д** або **т** утвараючай асновы стаіць **л**, **м**, **н** або **й**, тады замест пачатковага суфіксальнага **ч** пішацца **шч**: *брыльянтшчык, рамонтшчык, флейтшчык.*

б) Калі ўтвараючая аснова канчаецца зычнымі **к** або **ц**, прычым апошнія перад суфіксальным **ч** пераходзяць у **т**: *картатэка—картатэччык.*

2. Суфіксы з пачатковым **шч** пішуцца ў тым выпадку, калі ўтвараючая аснова канчаецца на губныя **б**, **п**, **ф** і **в** (якое чаргуецца з **ў**) або санорныя **м**, **н**, **р**, **л**(**ь**) і **й**: *бетоншчык, зборшчык, перакупшчык, забойшчык, пайшчыца, закройшчыца, мадэльшчык, здзельшчына.*

## VI. Прыстаўныя зычныя

§ **79.** Прыстаўное **в** пішацца:

1. Перад пачатковым карэнным **у**:

а) у беспрыставачных словах, дзе пачатковае карэннае **у** пад націскам: *вýгал, вýгаль, вýда, вýзел, вýліца, вус, вýсны, вýха, вýчань;*

б) у вытворных ад іх словах, дзе **у** пасля прыстаўкі: *абвýглены, навýдзіць, завýлак, навýка;*

в) у астатніх вытворных словах (і формах), дзе **у** не пад націскам: *вудзільна, вусáты, вучы́цца, навучáнне, вушакí, завушніцы, вушэ́й, вушáмі* і інш.

2. У сярэдзіне наступных слоў перад **у**: *павук, цівун* і ў словах, вытворных ад іх: *павуцінне, павучок* і інш., а таксама ў некаторых уласных імёнах, напрыклад: *Навум, Матэвуш, Навуменка, Матэвушаў, Тадэвуш.*



3. Перад пачатковым карэнным націскным **о**: *вóзера, вóка, вóкны, вóльха, вóсень, вóспа, вóстры, вось, вóйкаць, вóхкаць* (хоць *ох! óхаць*), *завóчны, пападвóканню, увóсень, увóгуле, павóхкаць;* але: *óптам, óкаць, óкаючая* (гаворка), *наóгул.*

Калі ж націск сыходзіць з **о** і на месцы **о** становіцца **а**, прыстаўное **в** не пішацца: *вóкны—акóнны, вóльха—альхóвы, вóсень—асéнні*, акрамя слоў *вóка, вóстры*, якія захоўваюць прыстаўное **в** ва ўсіх формах незалежна ад націску: *вóка—вачэ́й—вачáмі—у вачý, вóстры—вастры́ць—навастры́ць.*

4. Перад націскным **о** ў прыстаўках **о-**, **об-**, **од-** (**от-**): *вóкісел, вóклік, вóкрык, вóпыт, вóтруб'е, вóддаль, навóддаль, навóддалек, вóбмаль, вóбад, вóбземлю, вóбласць, вóблачны, вóбмацкам, навóбмацак, вóбраз* (царк. *абрáз*), *вóбцас, вóдбліск, вóдгалас, вóдгук, вóдпаведзь, вóдсвет, вóдступ, навóтліў, навóдшыбе*, а таксама ў слове *вóкал* (*вакóл*) і ў вытворных ад яго незалежна ад націску: *вакóліца, вакóлічны, навóкал, навакóлле* і інш.

5. У сярэдзіне некаторых слоў перад націскным **о**: *нівóдзін, Лявóн, Радзівóн, Ларывóн.*

§ **80.** Прыстаўное **в** не пішацца:

1. Перад пачатковым карэнным **у** (націскным ці ненаціскным) у словах іншамоўнага паходжання і ўласных імёнах: *ýнікум, ýнія, ýрна, універсітэ́т, Ульяна, Ульяна́ў, Ула, Умань, Уздзенскі раён, Уздá, Урáл, Узбекістáн, Украíна.*

2. Перад **у** прыставачным і перад **у**, якое развілося з **в**: *увага, увязка, угнаенне, удвух, удзел, удзельнік, умацаванне, умова, урад, ураджай, участак; узбураны, узгорак, узмор'е, узрушаны, улада, унук, учора, уюн, уюцца.*

3. Перад пачатковым карэнным націскным **о** ў словах іншамоўнага паходжання і ўласных імёнах (акрамя тых выпадкаў, калі беларускае слова — агульная назва выступае як імя ўласнае): *ода, омуль, онікс, опера, опіум, оптыка, опус, орган, оргія, ордэн, ордэр, осмас, осмій, ост, охра, Ольга, Осіп, Осіпаў, Осіпчык, Ом, Осла, Оксфард, Омск, Опса, Орша;* але: *Возера* (назва вёскі), *Вогненная Зямля.*

§ **81.** Прыстаўное **г** пішацца ў займенніках *гэты, гэтакі, гэтулькі* і ў прыслоўях *гэтак, гэтаксама, дагэтуль, адгэтуль, пагэтуль.*

З прыстаўным **г** могуць пісацца некаторыя выклічнікі: *гэй! го! га!* (хоць ужываюцца і напісанні без **г**: *эй! о! а!*). У словах іншамоўнага паходжання перад **і** прыстаўное **г**, за выключэннем слова *гісторыя*, не пішацца: *іронія, істэрыя, інтэрвал.*

## VII. У (складовае) і ў (нескладовае)

§ **82. У** не скарачаецца:

1. У п а ч а т к у с л о в а, калі гэтым словам пачынаецца сказ або калі яно стаіць пасля знакаў прыпынку; п а с л я

слова, якое канчаецца на зычную ці нескладовыя *ў* і *й*, а таксама ў сярэдзіне і ў канцы слова пасля зычных: *У сонечным прадвесні звіняць, як срэбра, песні* (Колас). *Наш зрок—узлёт зарніцы* (Колас). *Песня-радасць запануе, у прасторы паплыве* (Колас). *Уцякай, мароз-дзядуля!* (Колас). *Святло з усходу* (Глебка). *Да нас у госці май прыходзіць, як не прыходзіў у вяках* (Купала).

2. У пачатку слова ў імёнах уласных: *рака Урал, на Украіне, каля Уфы, Громава Ульяна, Марыя Ульянава, Маякоўскі Уладзімір.*

3. У пачатку слоў іншамоўнага паходжання, а таксама ў сярэдзіне іх пасля галосных перад зычнымі, калі **у** ўтварае самастойны склад: *праменні ультрафіялетавыя, дзяржаўны універсітэт, прэзідыум, кансіліум, радыус, раунд, страус, клоун, соус* і інш. Калі ж **у** ў сярэдзіне слова самастойнага склада не ўтварае, тады яно скарачаецца: *аўдыторыя, аўдыенцыя, паўперызацыя, браўнінг, маўзер.*

§ 83. **У** скарачаецца:

1. У пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца на галосную і паміж гэтымі словамі няма знакаў прыпынку: *Згодна ў полі ўздоўж дарогі каляінкі ўюцца* (Колас). *Вершы на ўкраінскай мове.* Гэта ж правіла адносіцца і да прыназоўніка **у**: *Раніца ў нядзельку* (Колас). *Жыта ў полі.*

2. У сярэдзіне слова, дзе **ў** (нескладовае) развілося з **в** або **л**, пасля галосных перад зычнымі або літарамі **е**, **ё**, **я**, **ю**, **і** пры раздзельным іх вымаўленні з папярэдняй зычнай: *аўторак, галоўка, роўны, саўгас, каўполк, заўтра, здароўе, саўю, салаўі, рэўю, Салаўёў, Аліўе, воўк, поўны, маўчаць.*

3. У канцы слова пасля галосных, дзе **ў** (нескладовае) развілося з **в** або **л**: *свякроў, зноў, сказаў, стварыў.*

Заўвага. У вершах для захавання рытму часам пішацца **ў** (нескладовае) там, дзе згодна з беларускім правапісам павінна быць **у** (складовае), і, наадварот, **у** (складовае) на месцы **ў** (нескладовага): *Чуць-чуць дрогне і прыльецца чырвань на ўсходзе — гэта неба ўсміхнецца людзям і прыродзе* (Колас). *Ужо вясна-красна настала, белы снег з палёў сагнала* (Крапіва).

§ 84. У імёнах уласных, у якіх у беларускім вымаўленні пачатковае **у** развілося з **в**, пішацца ў пачатку **у**: *Уладзімір, Усевалад, Уладзіслаў, Усяслаў, Уладзівасток, Уладзікаўказ, Уладамірскі.*

## VIII. *І* (складовае) і *й* (нескладовае) пасля прыставак

§ 85. **Й** (нескладовае) пішацца пасля прыставак, што канчаюцца на галосную (**на-**, **па-**, **за-** і інш., а таксама **ува-**), у словах, корань якіх пачынаецца ненаціскным непрыстаўным **і**: *зайсці, знайсці, прыйсці, пайшоў, выйду, выйграць, зайграць, пераймаць, перайначыць, увайсці, выйшаў, прыйшоў;* але: *заіскрыцца, заікацца.*



Заўвага 1. У словах, вытворных ад дзеяслова *ісці*, з прыстаўкамі, якія канчаюцца на зычную (**аб-**, **ад-**, **над-**, **пад-**, **раз-**, **уз-** і інш.), **й** (нескладовае) не пішацца: *адыход, абышоў, абыходзіць, надыходзіць, узышоўшы, абысці, надысці, разысціся*[1].

Заўвага 2. У вершах для захавання рытму іншы раз пішацца **й** (нескладовае) у пачатку слова на месцы **і** (складовага), калі папярэдняе слова канчаецца галоснай, і, наадварот, **і** (складовае) на месцы **й** (нескладовага), напрыклад: *Жартуе дзядзька тут з малымі ды йдзе ўжо ў хату разам з імі* (Колас). *Ну, то хоць на развітанне паіграй, Сымонка, мне, каб мінута расставання нам казала аб вясне* (Колас).

# ПРАВАПІС МЯККАГА ЗНАКА І АПОСТРАФА

## І. Змякчальны мяккі знак

§ 86. Мяккі знак пішацца пасля зычных **з**, **л**, **н**, **с**, **ц** (з мяккага **т**), **дз** (з мяккага **д**):

1. Для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага на канцы слова: *мядзведзь, дзень, соль, вось, чытаць, пісаць, стань, кінь, лезь, шэсць, дзесяць, штось, дзесь, кудысь, чагось, вішань, кухань, соцень, боень, песень.*

2. Для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад цвёрдым зычным: *дзядзька, бацька, касьба, барацьба, пісьмо, Вязьма, Кузьма, восьмы, цьма.*

3. Для абазначэння на пісьме мяккасці зычнага перад наступным мяккім зычным тады, калі пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) гэты мяккі зычны становіцца цвёрдым, а папярэдні зычны захоўвае сваю мяккасць: *барацьбе, барацьбіт* (барацьба), *пісьменнік* (пісьмо), *васьмі, васьмю* (восьмы), *цьмяны* (цьма). Калі ж пры змене формы таго ж слова (або пры замене яго другім словам таго ж кораня) мяккасць папярэдняга зычнага не захоўваецца, то мяккасць гэтага зычнага мяккім знакам на пісьме не адзначаецца: *дзве — два, шэсць — шосты, звінець— звон.*

4. Для абазначэння на пісьме мяккасці зычных у дзеясловах загаднага ладу:

а) перад канчаткам першай асобы мн. ліку **-ма**: *кіньма, сядзьма, станьма;*

б) перад канчаткам другой асобы мн. ліку **-це**: *будзьце, кіньце, сядзьце, станьце, намыльце;*

в) перад зваротнай часціцай **-ся**: *кінься, звесься.*

5. Для абазначэння на пісьме мяккасці зычных у назоўніках перад канчаткам творнага склону мн. ліку **-мі**: *коньмі, людзьмі, грудзьмі, дзецьмі.*

---

[1] Словы, утвораныя ад кораня **-ход-** (**-хад-**), з прыстаўкамі, якія канчаюцца на зычную, пішуцца з **ы** або без **ы** пасля прыстаўкі ў залежнасці ад іх лексічнага значэння, напрыклад: *усходзячы на ганак;* але: *узыходзячы націск; абходзіць вакол дома;* але: *гэта мяне мала абыходзіць* (у значэнні «кранае», «датычыцца»).

6. У складаных лічэбніках *пяцьдзесят, шэсцьдзесят, пяцьсот, шэсцьсот, дзевяцьсот.*

7. У часціцы **-сьці,** якая ўваходзіць у склад слова: *штосьці, чагосьці, кудысьці, дзесьці, чамусьці, якісьці.*

8. У слове *ледзьве.*

§ 87. Мяккі знак таксама пішацца:

1. Для абазначэння на пісьме мяккасці **л** перад зычнымі: *пальцы, кольцы, відэльцы, сальца, вальцы, колькі, толькі, гульні, вельмі, камсамольцы, Альф'еры, Мангальф'е, дар'яльскі* (Дар'ял), *ліверпульскі* (Ліверпул), *венесуэльскі* (Венесуэла), *лепельскі* (Лепель), *лільскі* (Ліль), *бразільскі* (Бразілія).

Заўвага. Паміж двума мяккімі **л** літара **ь** не пішацца: *вяселле, гулліві.*

2. Для абазначэння на пісьме мяккасці **н**:

а) перад суфіксам **-к-**, а таксама перад суфіксам **-чык-** (калі слова без суфікса **-чык-** канчаецца мяккім знакам): *песенька, вішанька, Ванька, нянька* (і *няньчыць*); *каменьчык* (камень), *праменьчык* (прамень), *карэньчык* (корань), *агеньчык* (агонь);

б) перад суфіксам **-ск-** у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назваў месяцаў, якія канчаюцца мяккім **н**: *студзеньскі, чэрвеньскі, ліпеньскі, жнівеньскі, снежаньскі; Чэрвеньскі раён, Ліпеньская школа;*

в) у суфіксе **-еньк-** (**-эньк-**, **-аньк-**): *маленькі, даражэнькі, прыгожанькі.*

§ 88. Мяккі знак не пішацца:

1. Пасля шыпячых (**ж**, **дж**, **ч**, **ш**), **р**, **ц** (не з **т** мяккага) і **д**, **т**, а таксама пасля губных (**б**, **п**, **м**, **в**, **ф**).

2. Пасля **з**, **с**, **ц**, **дз** перад мяккімі зычнымі, калі пры змене формы таго ж слова або пры замене яго другім словам таго ж кораня нельга паставіць гэтыя **з**, **с**, **ц**, **дз** перад цвёрдым зычным: *песня—песні—песнямі, звер — зверам — звяроў, свет—свяціць—асвятленне, дзверы—дзвярэй, чацвер—чацвяргом, чацвёрты — чацвярціна — чацверыком, цвёрды — сцвярджаць; схіліцца, скінуць, ёсць, Дзвіна, Дзмітрый;* але: *носьбіт.*

3. Пры падаўжэнні зычных: *насенне, ралля, галлё, калоссе,* а таксама *ззяць.*

4. У прыметніках з суфіксам **-ск-**, утвораных ад назоўнікаў на **-нь**: *конскі* (конь), *астраханскі* (Астрахань), *любанскі* (Любань), *плзенскі* (Плзень).

Заўвага. У прыметніках, утвораных ад кітайскіх назваў на **-нь**, мяккі знак захоўваецца: *чаньчуньскі, аньшаньскі, уханьскі, цяньшаньскі* (але *Сямёнаў-Цян-Шанскі*) і інш.

### II. Раздзяляльныя апостраф і мяккі знак

§ 89. Апостраф пішацца пры раздзельным вымаўленні зычных з наступным галосным:

1. Пасля прыставак, якія канчаюцца на зычную, перад **е**, **ё**, **ю**, **я** і націскным **і**: *аб'ява, ад'езд, аб'яднацца, уз'яднане, раз'юшаны, пад'ёмны, аб'інець, над'ільменскі, між'ярусны;* у тым ліку і пасля іншамоўных прыставак: *ін'екцыя, кан'юнктура, ад'юнкт, ад'ютант.*



2. У сярэдзіне слова пасля губных **б**, **в**, **м**, **п**, **ф**, заднеязычных **г**, **к**, **х**, шыпячых **ж**, **дж**, **ч**, **ш**, зубных **д**, **т** і **р** перад літарамі **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і**: *Аляб'еў, Барб'е, В'етнам, інтэрв'ю, сям'я, куп'ё, п'яўка, п'ексы, куп'істы, саф'ян, д'ябал, Садоф'еў, Пракоф'еў, Пракоф'евіч, Мантэг'ю, Лук'янаў, Х'юлет, бар'ер, надвор'е, Мар'іна Горка, Куцюр'е, Грыгор'еў, Грыгор'еўка, Юр'еў, Юр'евіч, Парфір'еў, Парфір'евіч, Аж'е, Буш'е, Д'еп, Камп'ен.*

Заўвага. Пасля **ў** (нескладовага) перад літарамі **е, ё, ю, я, і** апостраф не пішацца: *саўю, абаўецца, салаўі* (гл. § 83, п. 2).

§ 90. Мяккі раздзяляльны знак пішацца пасля зычных **л**, **с**, **ц** (з мяккага **т**), **дз** і непрыставачных **н** і **з** перад **е**, **ё**, **ю**, **я**, **і** ў словах іншамоўнага паходжання, напрыклад: *вальера, рэльеф, Мальер, марсельеза, мільён, мільярд, трыльён, медальён, батальён, міньён, каньён, каньяк, Кавеньяк, Сеньі, канферансье, манпансье, ранцье, парцьеры, Цьер, мадзьяр, Дзьюі, Лавуазье, Карбюзье.*

§ 91. Ва ўласных імёнах (у прыватнасці, у імёнах па бацьку, прозвішчах і геаграфічных назвах), утвораных ад імён на **-ій** (**-ый**), пасля зычных **л**, **с**, **ц**, **дз**, **н**, **з** перад суфіксальным **-еў-** (**-ев-**) пішацца мяккі знак: *Васільеў, Васільевіч, Васільеўка, Васільеўскі востраў, Арсеньеў, Арсеньевіч, Афанасьеў, Афанасьевіч, Кандрацьеў, Кандрацьевіч, Аркадзьеў, Аркадзьевіч;*

пасля ж **г**, **к**, **х** і збегу зычных, акрамя **нц**, перад суфіксальным **-еў-** (**-ев-**) пішацца **і** (**ы**): *Георгіеў, Георгіевіч, Акакіевіч, Яўціхіеў, Яўціхіевіч, Іраклієвіч, Яўлампіевіч, Ануфрыеў, Ануфрыевіч, Ануфрыеўка, Дзмітрыеў, Дзмітрыевіч;* але: *Вікенцьеў, Вікенцьевіч, Лаўрэнцьеў, Лаўрэнцьевіч, Кліменцьеў, Кліменцьевіч* і інш.

## АБ НАПІСАННІ РАЗАМ І ПРАЗ ЗЛУЧОК (ДЭФІС)

### I. Агульныя правілы

§ 92. Пішуцца разам:

1. Усе складанаскарочаныя словы: *саўгас, калгас, партком, камсамол, аўтатрактарны.*

2. Словы з прыстаўкамі (уключаючы **звыш-**, **пасля-**, **анты-**, **а-**, **архі-**, **інфра-**, **ультра-** і інш.), а таксама з састаўнымі часцінкамі **пан-**, **квазі-**, **псеўда-** і інш.: *прыгарад, найвышэй, заморскі, звышпланавы, падраздзел, перавыбары, пасляваенны, антымілітарысцкі, алагічны, архірэакцыйны, інфрачырвоны, ультрафіялетавы, міжнародны, квазінавуковы, панісламізм, псеўдамарксісцкі.*

Калі прыстаўка далучаецца да імя ўласнага, яна пішацца праз злучок: *Анты-Дзюрынг, пан-Еўропа.*

3. Складаныя назоўнікі, прыметнікі і прыслоўі, першай часткай якіх з'яўляецца лічэбнік, напісаны літарамі: *пяцігодка, трохпавярховы, дваццаціпяцітонны, паўтарагадовы, стократ, стогадовы, дзевяностагадовы.*

Напісанне разам і праз злучок складаных слоў іншамоўнага паходжання вызначаецца ў слоўнікавым парадку.

**§ 93.** Пішуцца праз злучок:

1. Лексічныя ўтварэнні, якія з'яўляюцца:

а) Паўтарэннем таго ж самага слова: *сіні-сіні, чуць-чуць, ледзь-ледзь, горача-горача, хадзілі-хадзілі і не знайшлі* (значэнне мнагакратнасці дзеяння), *хто-хто* (у такіх сказах, як: *Хто-хто, а ён гэта добра ведаў).*

б) Паўтарэннем таго ж слова або той жа асновы, але з рознымі канчаткамі, суфіксамі або прыстаўкамі ***па-***, ***ні-***, ***не-***, а таксама ***на-*** (калі на прыстаўку ***на-*** падае націск): *ра́да-радзю́сенька, век-вяко́м, час-часо́м, адзін-адны́м, дау́ным-дау́но́, раз-по́раз (раз-по́разу), як-ні́як, дзе-нідзе́, калі-нікалі́, каму́-нікаму́, хто-ніхто́, крыж-на́крыж, сам-на́сам;* але: *адзін на адзін, вока на вока.*

Заўвага. Пішуцца асобна фразеалагічныя адзінствы, якія маюць значэнне прыслоўяў і ўтварыліся шляхам паўтарэння той жа асновы з прыназоўнікамі ***ад, за, пры, к, у,*** а таксама з прыназоўнікамі ***з... на, з... у***, з парнымі злучнікамі ***то—то, ці—ці, ні—ні***: *час ад часу, год ад году, раз за разам, нос к носу, з мінуты на мінуту, з часу на час, з дня на дзень, з году ў год, то там то сям, ні туды ні сюды, ні свет ні зара, ні за што ні пра што, дзень пры дні, вока ў вока, цюцелька ў цюцельку, нос у нос, раз у раз, след у след, крок у крок, душа ў душу, рука ў руку, нага ў нагу, дзень у дзень, ноч у ноч,* а таксама *гады ў рады.*

в) Спалучэннем двух блізкіх па значэнню слоў: *ціха-глуха, паіць-карміць, жыў-быў, жыць-пажываць, крыкнуў-свіснуў, рукі-ногі, шыта-крыта, шыварат-навыварат, бокам-скокам, далей-болей, сёй-той, сёе-тое, сяму-таму, сям-там, сяды-тады, сяк-так.*

Заўвага. Два аднолькавыя назоўнікі ва ўзмацняльным значэнні, адзін з якіх стаіць у назоўным, а другі ў творным склоне, пішуцца асобна: *дурань дурнем, пень пнём.*

2. Графічныя літарныя скарачэнні складаных прыметнікаў, якія пішуцца разам, для адрознення іх ад скарочана напісаных словазлучэнняў з прыметніка і назоўніка: *ст.-р.—старажытнарускі, ст.-сл.—стараславянскі, с.-г.—сельскагаспадарчы;* але: *с. г.—сельская гаспадарка.*

Злучок захоўваецца ў графічных літарных скарачэннях слоў, якія пішуцца праз злучок: *с.-д.—сацыял-дэмакрат* і *сацыял-дэмакратычны, к.-г.—кілават-гадзіна, Ж.-Ж. Русо—Жан-Жак Русо, П.-Ж. Беранжэ—П'ер-Жан Беранжэ.*

3. Складаныя словы, першай часткай якіх з'яўляецца лічэбнік, напісаны лічбамі: *10-літровы, 30-кіламетровы, 24-гадовы, 40-годдзе.*



4. Спецыяльныя тэрміны і назвы, у тым ліку і абрэвіятуры, у склад якіх уваходзіць асобная літара алфавіта або лічэбнік, які стаіць на другім месцы і напісаны лічбамі, напрыклад: *К-мезоны* (ка-мезоны), *α-часціцы* (альфа-часціцы), *β-фільтр* (бэта-фільтр), *γ-метад* (гама-метад), *δ-функцыя* (дэльта-функцыя), *ЗІЛ-110, М-1;* калі ж пасля напісанага лічбамі лічэбніка стаіць літара алфавіта, тады паміж лічэбнікам і гэтай літарай злучок не ставіцца: *10 б* (клас), *4000 М* (аўтапагрузчык з каўшом), *ТУ-104 А* (марка самалёта), *С-100 А* (марка трактара).

## II. Назоўнікі

**§ 94.** Пішуцца разам:

1. Складаныя назоўнікі, утвораныя з дапамогай злучальных галосных, а таксама ўсе ўтварэнні з ***аэра-***, ***авія-***, ***аўта-***, ***вела-***, ***мота-***, ***кіна-***, ***фота-***, ***хрома-***, ***хлор-***, ***стэрэа-***, ***метэа-***, ***электра-***, ***гідра-***, ***агра-***, ***зоа-***, ***бія-***, ***грос-***, ***гоф-***, ***мікра-***, ***макра-***, ***неа-***, напрыклад: *землеробства, вадасховішча, конесаўгас, торфакампост, аэрафлот, авіябаза, аўтапарк, велагонкі, мотаспорт, кіначасопіс, фотавыстаўка, храмасфера, хларапласт, стэрэакіно, метэастанцыя, электразварка, гідратурбіна, аграбіялогія, заатэхнік, біястанцыя, гросмайстар, гофмаршал, мікраклімат, макрарэльеф, неадарвінізм.*

2. Назвы гарадоў, у якіх другой часткай з'яўляецца ***-град, -гарад***, напрыклад: *Ленінград, Кіравaград, Белгарад, Слаўгарад.*

3. Складаныя назоўнікі з дзеяслоўнай першай часткай на ***-і***, ***-ы***, напрыклад: *пакаціполе, дзяржыдрэва, Пілінога.*

**§ 95.** Пішуцца праз злучок:

1. Назоўнікі, якія складаюцца з двух самастойных назоўнікаў, але не звязаных паміж сабою злучальнай галоснай, і маюць значэнне аднаго слова, напрыклад:

а) *генерал-лейтэнант, прэм'ер-міністр, жар-птушка, сон-трава, мюль-машына* (пры скланенні змяняецца толькі другі назоўнік);

б) *хата-чытальня, самалёт-знішчальнік, рабочы-спецыяліст, Масква-рака, вагон-рэстаран, баба-яга* (пры скланенні змяняюцца абодва назоўнікі).

2. Састаўныя назвы палітычных партый і напрамкаў, а таксама іх прыхільнікаў, напрыклад: *сацыял-дэмакратыя, анарха-сіндыкалізм, нацыянал-ліберал.*

3. Складаныя адзінкі вымярэння, напрыклад: *кілават-гадзіна, тона-кіламетр, чалавека-дзень;* але: *працадзень.*

4. Іншамоўныя назвы прамежных кірункаў свету: *норд-ост, норд-вест, зюйд-ост, зюйд-вест.*

5. Злучэнні слоў, якія маюць значэнне назоўнікаў, калі ў склад такіх злучэнняў уваходзіць прыназоўнік, напры-

клад: *Растоў-на-Доне, Камсамольск-на-Амуры, Камень-на-Обі, Франкфурт-на-Майне.*

6. Састаўныя прозвішчы і імёны, утвораныя з двух асабовых найменняў, напрыклад: *Бялыніцкі-Біруля, Мамін-Сібірак, Бонч-Бруевіч, Дунін-Марцінкевіч, Жаліо-Кюры, Жан-Жак Русо, П'ер-Жан Беранжэ, Джорж-Гардон Байран.*

7. Іншамоўныя састаўныя прозвішчы з першай часткай ***Мак-***, ***Сан-***, ***Сен-***, ***Сент-***, напрыклад: *Мак-Магон, Сан-Мартын, Сен-Санс, Сент-Бёў.*

Падобнае напісанне маюць цюркскія, арабскія і іншыя ўласныя імёны людзей з пачатковай або канцавой часткай ***хан, шах, паша, бей, задэ, аглы, кызы*** і інш., напрыклад: *Чынгіз-хан, Надзір-шах, Асман-паша, Ізмаіл-бей, Турсун-задэ, Кёр-аглы, Зейнал-кызы, Шах-Фазіль.*

Заўвага 1. Састаўныя імёны з першай часткай ***дон-, ван-*** пішуцца праз злучок толькі ў тых выпадках, калі другая, асноўная частка імя ў беларускай мове асобна не ўжываецца, напрыклад: *Дон-Жуан, Дон-Кіхот, Ван-Дэйк.* Але калі слова ***дон*** ужываецца ў значэнні «пан», яно пішацца асобна, напрыклад: *дон Базіліо, дон Гомес, дон Педра.*

Заўвага 2. Артыклі і часціцы, якія ўваходзяць у склад іншамоўных прозвішчаў, як правіла, пішуцца асобна, напрыклад: *Барклай дэ Толі, Бадуэн дэ Куртэнэ, Леанарда да Вінчы, Ван дэр Мейлен, фон дэр Гольц, ле Шапелье, фон Бісмарк, ла Мот.*

Некаторыя іншамоўныя прозвішчы з артыклямі пішуцца ў адно слова, напрыклад: *Дэліль, Дэкарт, Лагарп, Лафантэн.*

Заўвага 3. Кітайскія імёны (яны стаяць пасля прозвішчаў) пішуцца праз злучок, калі складаюцца з дзвюх частак: *Мао Цзэ-дун, Чжоў Энь-лай, Го Мо-жо, Люй Шу-сян.*

8. Геаграфічныя назвы, якія складаюцца:

а) з двух назоўнікаў, напрыклад: *Арэхава-Зуева, Камянец-Падольск, Буда-Кашалёва, Сэрца-Камень, Цецюхэ-Прыстань, Пераяслаў-Хмяльніцкі;*

б) з назоўніка і прыметніка, напрыклад: *Магілёў-Падольскі, Гусь-Хрустальны;*

в) са злучэння артыкля ці часціцы са знамянальнай часцінай мовы, напрыклад: *Ла-Валета, Ле-Крэза, Дэ-Кастры.*

Заўвага. Асобна пішуцца геаграфічныя назвы, якія складаюцца:

а) з прыметніка і назоўніка, напрыклад: *Белая Царква, Вышні Валачок, Старыя Дарогі, Астрашыцкі Гарадок;*

б) з лічэбніка і назоўніка, напрыклад: *Сем Братоў, Дзве Хаты;*

в) з імя і прозвішча, імя і імя па бацьку, напрыклад: *пасёлак Леў Талстой, станцыя Ерафей Паўлавіч.*

9. Назвы населеных пунктаў, у склад якіх у якасці першай часткі ўваходзяць ***усць-***, ***верх-***, а таксама некаторыя назвы населеных пунктаў з першай часткай ***нова-***, ***стара-***, ***верхне-***, ***ніжне-***, ***соль-*** і пад., напрыклад: *Усць-Каменагорск, Верх-Ірмень, Нова-Барысаў, Стара-Віленская* (вуліца), *Верхне-Рэйнская нізіна, Ніжне-Калымск, Соль-Ілецк;* але: *Новасібірск, Старабельск, Верхнекалымск, Ніжняудзінск, Сольвычагодск.*



10. Састаўныя геаграфічныя назвы, утвораныя з назваў частак дадзенага геаграфічнага аб'екта, напрыклад: *Бурат-Манголія, Эльзас-Латарынгія;* але: *Чэхаславакія.*

11. Іншамоўныя словазлучэнні, якія з'яўляюцца ўласнымі імёнамі, назвамі нежывых прадметаў, напрыклад: *Па-дэ-Кале, Булонь-сюр-Мэр, Бет-Пак-Дала, Алма-Ата, Кзыл-Арда, Куэнь-Лунь, Буэнас-Айрэс.*

Заўвага. Гэта правіла не распаўсюджваецца на іншамоўныя назвы літаратурных твораў, газет, часопісаў, прадпрыемстваў і пад., якія часцей за ўсё пішуцца асобна, напрыклад: *«Стандард Ойл», «Нью-Йорк таймс»;* але: *«Аш-Шааб», «Аль-Гумхурыя».*

12. Частка ***паў-*** з уласнымі назвамі, напрыклад: *паў-Масквы, паў-Беларусі.*

Заўвага. З іншымі назоўнікамі ***паў-*** пішацца разам, напрыклад: *паўметра, паўгода, паўяблыка, паўакна, паўкруг.*

13. Словы, першай састаўной часткай якіх з'яўляюцца іншамоўныя элементы ***обер-***, ***унтэр-***, ***лейб-***, ***штаб-***, ***віцэ-***, ***экс-***, напрыклад: *обер-майстар, унтэр-афіцэр, лейб-медык, штаб-кватэра, віцэ-прэзідэнт, экс-чэмпіён,* а таксама *контр-адмірал,* дзе ***контр-*** не ў значэнні «проці».

14. Назоўнікі з аднаслоўным прыдаткам, напрыклад: *хлапчук-гарэза, конь-скакун, дзед-мароз.*

Заўвага 1. Пры адваротным становішчы назоўніка і аднаслоўнага прыдатка злучок не пішацца, напрыклад: *красуня дзяўчына.*

Заўвага 2. Калі назоўнік мае свой злучок, то паміж гэтым састаўным назоўнікам і прыдаткам злучок не пішацца, напрыклад: *сацыял-дэмакраты меншавікі.*

Заўвага 3. Злучок не пішацца таксама:

а) у злучэнні агульнага назоўніка з уласнай назвай, напрыклад: *горад Мінск, рака Свіслач;*

б) у злучэннях назоўнікаў, з якіх першы азначае родавае паняцце, а другі відавое, напрыклад: *расліна чабор, кветка настурцыя;*

в) пасля слоў *грамадзянін, таварыш, пан* і г. д. у злучэнні з назоўнікам, напрыклад: *грамадзянін суддзя, таварыш дырэктар, пан пасол.*

15. Графічныя скарачэнні назоўнікаў, якія складаюцца з пачатку і канца слова, напрыклад: *б-ка* (бібліятэка), *т-ва* (таварыства), *а-вы* (астравы), *д-р* (доктар).

16. Злучок пішацца пасля першай часткі складанага назоўніка пры злучэнні двух складаных назоўнікаў з аднолькавай другой часткай, калі ў першым з назоўнікаў гэта агульная частка не даецца, напрыклад: *шарыка- і ролікападшыпнікі* (замест *шарыкападшыпнікі і ролікападшыпнікі*), *пара-, электра- і цеплавозы* (замест *паравозы, электравозы і цеплавозы*).

## III. Прыметнікі

**§ 96.** Пішуцца разам складаныя прыметнікі:

1. Утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія пішуцца ў адно слова, напрыклад: *водаправодны* (водаправод), *новасібірскі* (Новасібірск).

2. Утвораныя са злучэння слоў, падпарадкаваных адно другому, напрыклад: *народнагаспадарчы* (народная гаспадарка),

*агульнанародны* (агульны для народа), *чарнаморскі* (Чорнае мора), *правабярэжны* (правы бераг).

Сюды ж адносяцца і прыметнікі, што абазначаюць адзінае паняцце і ўтвораны з прыслоўя і прыметніка, напрыклад: *глыбокапаважаны, вечназялёны, доўгатрывалы.*

Заўвага. Складаныя прыметнікі, у састаў якіх уваходзяць прыслоўі, не трэба блытаць са словазлучэннямі, якія складаюцца з прыслоўяў і прыметнікаў, напрыклад: *дыяметральна процілеглы, яскрава вызначаны, чыста беларускі.*

3. Словы, якія ўжываюцца ў якасці тэрмінаў і ўтвораны з дзвюх або трох асноў, напрыклад: *старажытнаверхненямецкая* (мова), *паравозавагонарамонтны* (завод), *індаеўрапейская* (мова).

**§ 97.** Пішуцца праз злучок складаныя прыметнікі:

1. Утвораныя ад складаных назоўнікаў, якія маюць злучок, напрыклад: *дызель-маторны* (дызель-матор), *сацыял-дэмакратычны* (сацыял-дэмакрат), *буда-кашалёўскі* (Буда-Кашалёва), *аму-дар'інскі* (Аму-Дар'я), *іль-дэ-франскі* (Іль-дэ-Франс); але: *масквярэцкі.*

2. Утвораныя ад імён і прозвішчаў, напрыклад: *леў-талстоўскі, рамэн-раланаўскі.*

Заўвага. Прыметнікі, утвораныя ад уласных імён са злучком, пры наяўнасці прыстаўкі пішуцца без злучка, у адно слова, напрыклад: *прыамудар'інскі, заісыккульскі.*

3. Утвораныя з дзвюх ці больш асноў і якія абазначаюць:

а) раўнапраўныя паняцці, напрыклад: *партыйна-камсамольскі, рабоча-сялянскі, руска-беларускі;*

б) якасць з дадатковым адценнем, напрыклад: *горка-салёны;*

в) адценні колераў, напрыклад: *чырвона-малінавы, блакітна-сіні, шэра-карычневы, малочна-белы.*

4. Якія ўваходзяць у састаў геаграфічных назваў і пачынаюцца з ***усходне-, заходне-, паўднёва-, паўночна-***, напрыклад: *Паўночна-Казахстанская вобласць, Паўднёва-Афрыканскі Саюз.*

Заўвага. Усе астатнія прыметнікі, якія ўтвораны з дзвюх ці больш асноў і не падыходзяць ні пад адно з прыведзеных правіл, пішуцца праз злучок, напрыклад: *палітыка-масавы, літаратурна-мастацкі, народна-дэмакратычны.*

## IV. Лічэбнікі

**§ 98.** Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя парадкавыя лічэбнікі на ***-тысячны, -мільёнцы, -мільярдны*** і г. д., калі першая іх частка напісана лічбамі: *600-мільённы, 8¼-тысячны.*

2. Парадкавыя лічэбнікі, калі яны напісаны лічбамі з граматычным канчаткам: *1-га, 15-ы, 154-га, 17-ая, 21-ай.*

3. Лічэбнікі, якія абазначаюць прыблізнасць, незалежна ад таго, напісаны яны лічбамі ці літарамі: *2-3 аркушы, праз 3-4 дні, хлопчык васьмі-дзевяці год, прайшоў год-другі* (у сэнсе *першы-другі*), *праз 20-25 год.*

Заўвага. Пры абазначэнні прыблізнасці паміж састаўнымі колькаснымі лічэбнікамі замест злучка можа ўжывацца працяжнік: *праз трыццаць пяць—трыццаць сем год.*

**§ 99.** Пішуцца разам ва ўсіх склонах:

1. Колькасныя лічэбнікі, апошнім элементам якіх з'яўляецца ***-дзесят, -сце, -ста, -сот***: *пяцьдзесят, пяцідзесяцію, шэсцьдзесят, дзвесце, двухсот, трыста, трохсот, восемсот, васьмісот, васьмюстамі;* але: *дзве тысячы, пяць мільёнаў, тры мільярды, чатыры септыльёны* і г. д.

2. Парадкавыя лічэбнікі, апошнім элементам якіх з'яўляецца ***-дзесяты, -соты, -тысячны, -мільённы, -мільярдны*** і г. д., калі першая частка іх напісана літарамі: *пяцідзесяты, трохсоты, дзевяцітысячны, дваццаціпяцітысячны, стовасьмідзесяціпяцімільённы;* але: *трыццаць чацвёрты, тысяча восемсот семнаццаты, тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят сёмы.*

Заўвага. Першую састаўную частку складаных парадкавых лічэбнікаў, у састаў якіх уваходзяць дробныя абазначэнні «з паловай», «з чвэрткай» і пад., лепш за ўсё пісаць лічбамі, напрыклад: *12½-мільённае насельніцтва.*

## V. Прыслоўі

**§ 100.** Пішуцца разам:

1. Прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння прыназоўнікаў з прыслоўямі: *напотым, назаўтра, назаўсёды, назаўжды, назусім, намала, намнога, наколькі, настолькі, нашмат, напаверх, насупраць, напоперак, удвайне, утройчы, заўчора, залетась, задарам (задарма), паслязаўтра, замала, замнога, задоўга* і пад.

Ад такіх прыслоўяў трэба адрозніваць спалучэнні прыназоўнікаў з нязменнымі словамі, якія ўжываюцца ў даных выпадках у значэнні назоўнікаў і з прыназоўнікамі пішуцца асобна: *падняць на ўра, адкласці на паслязаўтра, рабіць за дзякуй, да заўтра, бралася на відно; ад цямна, ад відна, ад рана, ад малку, з цямна, да відна, да цямна.*

2. Прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў ***у*** і ***на*** з рознымі склонавымі формамі зборных і колькасных лічэбнікаў: *удвая, утрая, удваіх, утраіх, усемярых, удвух, удзвюх, утрох, учатырох* і г. д.; *надвае, натрае;* але: *у адно*, а таксама *па двое, па трое* і пад.

3. Прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі кароткіх прыметнікаў: *дабяла, дачыста, дасуха, дасыта, здалёк, звысоку, зрэдку, спярша, справа, злева, зноў, сослепу, змоладу, змалку, злёгку, бязмала, поблізу, папросту, паціху, падоўгу, пароўну, улева, управа, навечна, надоўга, насуха, зажыва, зацемна* і пад., а таксама *заадно.*

4. Прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі поўных прыметнікаў і займеннікаў: *насмелую, ушчыльную, урассыпную, упустую, збольшага, здаўных, нашто, навошта, нізашто, потым, надта, зусім, ваўсю, затым.*

Заўвага 1. Неабходна адрозніваць прыслоўі *нашто, нізашто, зусім, затым* ад спалучэнняў займеннікаў з прыназоўнікамі: *на што, ні за што, з усім, за тым*, напрыклад: *нашто* ты гэта робіш? (*нашто* ў сэнсе «з якой мэтай») — ён не ведаў, *на што* пакласці свае рэчы; *нізашто* не скажу (*нізашто* ў сэнсе «ні пры якіх умовах», «ні ў якім разе») — працаваў *ні за што* цэлы дзень (*ні за што*—«дарэмна»); *зусім* здаровы—*з усім* калектывам; падумай, а *затым* скажаш—ён стаяў *за тым* дубам.

Заўвага 2. Пішуцца асобна прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўніка *у* і склонавай формы поўнага прыметніка, які пачынаецца з галоснай (акрамя *о* і *у*). - *у адкрытую.*

Аб прыслоўях, якія пачынаюцца з ***па-*** і пішуцца праз злучок, гл. § 102.

5. Прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння прыназоўнікаў з рознымі склонавымі формамі назоўнікаў.

Да такіх прыслоўяў адносяцца:

а) словы з рознымі прыслоўнымі значэннямі, што маюць у сваім саставе такія іменныя формы, якія ў сучаснай літаратурнай мове не ўжываюцца: *беспярастанку, дашчэнту, досыць, замуж* (ад старой формы він. скл.), *запанібрата, знячэўку, знянацку, наапашкі, навобмацак, наогул, напагатове, напавал, напалам, наперакор, напераваз, напрост, напярэймы, нарасхват, нараспеў, нарасхліст, насторч, насцеж, наўздагад, наўздагон, наўздзіў, наўзрыд, наўпрост, наўскос, наўцёк, неўдагад, неўзабаве, неўпапад, неўспадзеў, няўцям, паасобку, поблізу, спакон, уваччу, угрунь, удаўжкі (удоўж), удубальт, уплаў, упокат, употай, упярэмежку, упярэмешку, усутыч* і пад.;

б) словы з рознымі прыслоўнымі значэннямі, калі паміж прыназоўнікам (прыстаўкай) і назоўнікам, з якіх утварылася прыслоўе, не можа быць без змены сэнсу ўстаўлена азначэнне (прыметнік, займеннік, лічэбнік) або да назоўніка не можа быць пастаўлена склонавае пытанне: *апаўдні, апоўначы, даволі, дадому, замужам, зроду, наадварот, наадрэз, накрыж, напоказ, напалавіну, напалову, наперамену, напракат, напралом, напрыклад, насілу, насмерць* (стаяць; але: *не на жыццё, а на смерць*), *насустрэчу, наўдачу, павек, паволі, падрад, падчас, пакрысе, паняволі, увосень, убрад, уголас, удзень, углыб, улад, улёт, упершыню, уранні, ураздроб, усур'ёз* і пад.;

в) словы з шырокім прасторавым і часавым значэннем, якія маюць у сваім саставе назоўнікі *верх, ніз, перад, зад, бок, гара, высь, даль, век, пачатак, раз, ноч, вечар, ранак* і некаторыя іншыя, нягледзячы на магчымасць пастаноўкі перад некаторымі з іх азначэння: *даверху, зверху, наверх, уверх, уверсе; данізу, знізу* (але: *з верху да нізу, з нізу да верху*), *наніз, уніз, унізе; наперад, наперадзе, паперад, уперад, уперадзе; ззаду, назад, узад, узадзе; збоку, набок, убок, убаку; дагары, згары, угару, угары; увысь; удаль; навек, навекі; спачатку, упачатку; адразу, зразу, ураз; уночы, поначы; звечара* (але: *з вечара да ранку*); *надвечар, падвечар, увечар, увечары; зранку* (але: *з ранку да вечара*), *уранку; скраю.* Аднак пры наяўнасці паясняльных слоў да адпаведных назоўнікаў указаныя словы пішуцца асобна: *на верх гары, на ніз шахты, у высь заволачную, у даль мора, на векі вечныя, у пачатку дарогі, з пачатку года.*

6. Прыслоўі *таксама, гэтаксама, штодзень, штотыдня, штогод (штогоду), штоночы* і пад.

**§ 101.** Не ўсякае спалучэнне назоўніка з прыназоўнікам, якое з'яўляецца акалічнасцю і па значэнню блізкае да прыслоўя, пішацца разам.

1. Пішуцца асобна блізкія па значэнню да прыслоўяў спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі:

а) калі паміж прыназоўнікам і назоўнікам можна ўставіць азначэнне: *у момант* (у адзін момант), *у тупік* (папаў у такі тупік, што...), *да астатку* (да самага астатку);

б) калі назоўнік у пэўным (адным) значэнні захаваў хаця б некаторыя склонавыя формы з прыназоўнікамі (за выключэннем назоўнікаў, пералічаных у п. 5, «в» § 100): *пад пахі, пад паху, пад пахамі; па часе, да часу, з часам, у час; праз меру, у меру, па меры; на памяць, на памяці, па памяці; на руку, не з рукі; да душы, па душы; у пару, да пары, не ў пару; на карачкі, на карачках; за мяжой, за мяжу, з-за мяжы; за граніцай, за граніцу, з-за граніцы.*

2. Асобна пішуцца таксама:

а) наступныя блізкія па значэнню да прыслоўяў спалучэнні назоўнікаў з прыназоўнікамі:

***без***: *без упынку, без агляд кі, без разбору, без толку, без канца;* але: *бясконца;*

***да***: *да зарэзу, да адвалу, да ўпаду, да смерці;*

***на***: *на бягу, на ляту, на хаду, на скаку, на відавоку, на віду, на смак, на слых, на вока, на грэх, на дзіва, на славу, на смех, на гвалт, на злосць, на жаль;*

***з***: *з налёту, з разбегу, з разгону, з размаху, з наскоку, з ходу, з гарачкі;*

б) спалучэнні адмоўяў ***не*** і ***ні*** з прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў: *не ў меру, не ў пару, не ў лад, не пад сілу, не да смаку, не да твару, ні на ёту, ні за грош, не да спеху;*

в) назоўнікі ў месным склоне мн. ліку з прыназоўнікамі ***у*** і ***на***, якія маюць значэнне месцазнаходжання, часу, стану (фізічнага і душэўнага): *у галавах, у нагах, у вяках;*

г) спалучэнні назоўнікаў, якія пачынаюцца галоснай (акрамя ***о*** і ***у***), з прыназоўнікам ***у***: *у абхват, у абдымку, у абмен, у абрэз, у адзіночку, у абцяжку* і пад.;

д) выразы *ўсё роўна, усё адно, як бачыш, як след* і пад.; але: *якраз*.

Заўвага 1. Калі сустрэнуцца цяжкасці пры напісанні прыслоўяў, утвораных шляхам спалучэння прыназоўнікаў з назоўнікамі, трэба звяртацца да арфаграфічнага слоўніка.

Заўвага 2. Ад прыслоўяў, што пішуцца разам, неабходна адрозніваць аднолькавыя па вымаўленню спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі, якія пішуцца асобна: ***на вылет** самалёта, **на паказ** кінафільма, **на пракат** чорных металаў, ставіць нагу **ў след** прайшоўшага, спаслацца **на прыклад**, разлічваць **на сілу*** і пад.

**§ 102.** Пішуцца праз злучок словы *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і г. д., а таксама ўтвораныя ад прыметнікаў і займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з ***па-*** і канчаюцца на ***-ку, -і*** (*-ы*), ***-аму*** (*-яму*), ***-ому*** (*-ему, -йму*): *па-гаспадарску, па-ленінску, па-руску, па-латыні, па-бацькоўску, па-чалавечы, па-воўчы, па-добраму, па-ранейшаму, па-даўняму, па-веснавому, па-старому, па-свойму* і пад.

Заўвага. Прыслоўі, якія ўтварыліся з прыназоўніка ***па-*** і кароткай формы прыметніка, пішуцца разам (гл. § 100, п. 3).

**§ 103.** У прыслоўях з прыстаўкай ***па-***, утвораных ад складаных прыметнікаў, якія пішуцца праз злучок, злучок ставіцца толькі пасля ***па-***: *па-сацыялдэмакратычнаму*.

Заўвага. Пішацца праз злучок прыслоўе *на-гара* (тэхнічны тэрмін).

## VI. Прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, выклічнікі

**§ 104.** Пішуцца разам:

1. Наступныя прыназоўнікі, якія ўтварыліся шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *замест, наконт, накшталт, звыш*.

2. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца і ў якасці прыслоўяў, утвораных шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *зверху, наперадзе, наперакор, насустрэчу (насустрач), уперад, уперадзе, услед (глядзець услед цягніку;* параўн. у Купалы: *густа сцелюцца ўслед снапочкі)*.

3. Злучнікі, якія ўтварыліся шляхам зліцця прыназоўнікаў з займеннікамі ці словамі ***колькі, столькі***: *затое, прычым, прытым, паколькі, пастолькі*, у адрозненне ад спалучэнняў прыназоўнікаў з адпаведнымі займеннікамі ці неазначальна-колькаснымі словамі: *паволі, **затое** грунтоўна;* але: *яму вынеслі падзяку **за тое**, што ён добра працаваў; ён згадзіўся прыйсці, **паколькі** няёмка было адмовіцца;* але: *на лесапільню прыходзіла **па столькі** чалавек, **па колькі** патрабавалася.*

4. Злучнікі *ажно, альбо (або), нібы, нібыта, каб.*

Заўвага. Пішуцца асобна састаўныя злучнікі *таму што, так што, хіба што, як толькі, як быццам, перш чым, гэта значыць, ці бо, то*



*бок*, а таксама словазлучэнні, якія ўжываюцца ў функцыі пабочных слоў: *можа быць, так сказаць, тым чынам* і пад.

5. Злучнік ***ды*** са злучнікам ***і*** (пераважна ў далучальным значэнні), утвараючы складаны злучнік ***дый***: *кінуў, рынуў дый пайшоў*.

Заўвага. Складаны злучнік ***дый***, які ўжываецца пераважна для выражэння нечаканасці, неабходна адрозніваць ад састаўнога злучніка ***ды і***: *Мы бачылі, што скончыць пачатую справу яму было ўжо не пад сілу, **ды і** сам ён гэта нарэшце добра зразумеў.*

6. Займеннікі і прыслоўі:

а) з часціцамі ***-сь, -ся, -сьці***: *чымся, дзесь, хтось, кудысьці, якісьці, якомусьці;*

б) з часціцай ***а-***: *аніхто, анідзе, аніяк;* з часціцай ***а-*** разам пішацца і адмоўе ***ні***: *ані*.

**§ 105.** Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя прыназоўнікі ***з-за, з-пад, з-над, з-паміж, па-над, з-па-над, па-за***.

2. Складаныя выклічнікі, падзыўныя і гукапераймальныя словы: *о-го-го, ой-ой-ой, о-ё-ёй, а-я-яй, дзю-дзю-дзю, ха-ха-ха, дзын-дзын-дзын, ку-ку, трах-тарарах!* і пад.

3. Словы з часціцамі ***абы-, -небудзь, -колечы, -то***: *абы-хто, абы-што, абы-як, абы-які, абы-дзе, абы-адкуль, хто-небудзь, дзе-небудзь, куды-небудзь, як-колечы, ён-то, сказаць-то сказаў*.

Заўвага 1. Займеннікі *абы-хто* і *абы-што* пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца асобна (праз тры словы): *абы ў каго, абы да каго, абы з чым.* Займеннік *абы-які* пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішацца праз тры словы: *абы з якімі*, або праз два: *з абы-якімі.* Словы, вытворныя ад прыслоўя *абы-як*, з часціцай ***абы*** пішуцца разам: *абыякавы, абыякава, неабыякава, абыякавасць, абыякаваты, абыякавата* і пад.

Заўвага 2. Часціца ***-такі*** пішацца праз злучок у саставе слоў ***усё-такі*** і ***так-такі***, а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *Прыйшоў-такі сёння.* Ва ўсіх астатніх выпадках часціца ***такі*** пішацца асобна: *Ён такі думае прыйсці. Ён усё ж такі думае прыйсці.*

асобна

**§ 106.** Пішуцца праз злучок

Папраўка

На стар. 53 § 106 трэба чытаць:

Пішуцца асобна:

*прыйшла б, ка-*
нне складаюць
ад цэлых слоў,

я, як ***от, моў,***
учэннях, як *па-*
*ба што* і пад.

(гл. § 104, заувага да п. 4).

## VII. Правапіс *не* і *ні*

**§ 107.** ***Не*** пішацца разам:

1. Ва ўсіх выпадках, калі без адмоўнай часціцы ***не*** слова не ўжываецца, напрыклад: *непагадзь, невук, невуцтва, непаседа, непрацііўленства, нявестка, нядзеля, нястача, нядоімка,*

д) выразы *ўсё роўна, усё адно, як бачыш, як след* і пад.; але: *якраз.*

З а ў в а г а 1. Калі сустрэнуцца цяжкасці пры напісанні прыслоўяў, утвораных шляхам спалучэння прыназоўнікаў з назоўнікамі, трэба звяртацца да арфаграфічнага слоўніка.

З а ў в а г а 2. Ад прыслоўяў, што пішуцца разам, неабходна адрозніваць аднолькавыя па вымаўленню спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі, якія пішуцца асобна: ***на вылет*** *самалёта,* ***на паказ*** *кінафільма,* ***на пракат*** *чорных металаў, ставіць нагу* ***ў след*** *прайшоўшага, спаслацца* ***на прыклад****, разлічваць* ***на сілу*** і пад.

**§ 102.** Пішуцца праз злучок словы *па-першае, па-другое, па-трэцяе* і г. д., а таксама ўтвораныя ад прыметнікаў і займеннікаў прыслоўі, якія пачынаюцца з ***па-*** і канчаюцца на ***-ку***, ***-і*** (***-ы***), ***-аму*** (***-яму***), ***-ому*** (***-ему***, ***-йму***): *па-гаспадарску, па-ленінску, па-руску, па-латыні, па-бацькоўску, па-чалавечы, па-воўчы, па-добраму, па-ранейшаму, па-даўняму, па-веснавому, па-старому, па-свойму* і пад.

З а ў в а г а. Прыслоўі, якія ўтварыліся з прыназоўніка *па-* і кароткай формы прыметніка, пішуцца разам (гл. § 100, п. 3).

**§ 103.** У прыслоўях з прыстаўкай ***па-***, утвораных ад складаных прыметнікаў, якія пішуцца праз злучок, злучок ставіцца толькі пасля ***па-***: *па-сацыялдэмакратычнаму.*

З а ў в а г а. Пішацца праз злучок прыслоўе *на-гара* (тэхнічны тэрмін).

## VI. Прыназоўнікі, злучнікі, часціцы, выклічнікі

**§ 104.** Пішуцца разам:

1. Наступныя прыназоўнікі, якія ўтварыліся шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *замест, наконт, накшталт, звыш.*

2. Прыназоўнікі, якія ўжываюцца і ў якасці прыслоўяў, утвораных шляхам зліцця прыназоўнікаў з назоўнікамі: *зверху, наперадзе, наперакор, насустрэчу (насустрач), уперад, уперадзе, услед (глядзець услед* [illegible] *густа сцелюцца ў*[illegible]

3. Злучнікі, як[illegible] з займеннікамі ці[illegible] *прытым, паколькі,*[illegible] прыназоўнікаў з а[illegible] колькаснымі слова[illegible] *неслі падзяку* ***за*** [illegible] *ён згадзіўся прыйсці,* ***пакольк***[illegible] *было адмовіцца;* але: *на лесапільню прыходзіла* ***па столькі*** *чалавек,* ***па колькі*** *патрабавалася.*

4. Злучнікі *ажно, альбо (або), нібы, нібыта, каб.*

З а ў в а г а. Пішуцца асобна састаўныя злучнікі *таму што, так што, хіба што, як толькі, як быццам, перш чым, гэта значыць, ці бо, то*



*бок,* а таксама словазлучэнні, якія ўжываюцца ў функцыі пабочных слоў: *можа быць, так сказаць, такім чынам* і пад.

5. Злучнік ***ды*** са злучнікам ***і*** (пераважна ў далучальным значэнні), утвараючы складаны злучнік ***дый****: кінуў, рынуў дый пайшоў.*

З а ў в а г а. Складаны злучнік ***дый***, які ўжываецца пераважна для выражэння нечаканасці, неабходна адрозніваць ад састаўнога злучніка ***ды і****: Мы бачылі, што скончыць пачатую справу яму было ўжо не пад сілу,* ***ды і*** *сам ён гэта нарэшце добра зразумеў.*

6. Займеннікі і прыслоўі:

а) з часціцамі ***-сь***, ***-ся***, ***-сьці***: *чымся, дзесь, хтось, кудысьці, якісьці, якомусьці;*

б) з часціцай ***а-***: *аніхто, анідзе, аніяк;* з часціцай ***а-*** разам пішацца і адмоўе ***ні***: *ані.*

**§ 105.** Пішуцца праз злучок:

1. Складаныя прыназоўнікі ***з-за, з-пад, з-над, з-паміж, па-над, з-па-над, па-за.***

2. Складаныя выклічнікі, падзыўныя і гукапераймальныя словы: *о-го-го, ой-ой-ой, о-ё-ёй, а-я-яй, дзю-дзю-дзю, ха-ха-ха, дзын-дзын-дзын, ку-ку, трах-тарарах!* і пад.

3. Словы з часціцамі ***абы-***, ***-небудзь***, ***-колечы***, ***-то***: *абы-хто, абы-што, абы-як, абы-які, абы-дзе, абы-адкуль, хто-небудзь, дзе-небудзь, куды-небудзь, як-колечы, ён-то, сказаць-то сказаў.*

З а ў в а г а 1. Займеннікі *абы-хто* і *абы-што* пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішуцца асобна (праз тры словы): *абы ў каго, абы да каго, абы з чым.* Займеннік *абы-які* пры спалучэнні з прыназоўнікамі пішацца праз тры словы: *абы з якімі,* або праз два: *з абы-якімі.* Словы, вытворныя ад прыслоўя *абы-як,* з часціцай ***абы*** пішуцца разам: *абыякавы, абыякава, неабыякава, абыякавасць, абыякаваты, абыякавата* і пад.

З а ў в а г а 2. Часціца ***-такі*** пішацца праз злучок у саставе слоў ***усё-такі*** і ***так-такі***, а таксама ў тых выпадках, калі яна стаіць пасля дзеяслова: *Прыйшоў-такі сёння.* Ва ўсіх астатніх выпадках часціца ***такі*** пішацца асобна: *Ён такі думае прыйсці. Ён усё ж такі думае прыйсці.*

**§ 106.** Пішуцца ~~праз злучок~~: асобна

1. Часціцы ***бы*** (***б***), ***жа*** (***ж***): *прыйшоў бы, прыйшла б, казаў жа, чаму ж, хто ж бы, як жа ж.* Выключэнне складаюць выпадкі, калі гэтыя часціцы ўваходзяць у склад цэлых слоў, напрыклад: *нібы, каб* (гл. § 104, п. 4).

2. Усе астатнія часціцы, уключаючы такія, як ***от***, ***моў***, ***маўляў*** і інш., а таксама ***што*** ў такіх спалучэннях, як *пакуль што, амаль што, толькі што, сама што, хіба што* і пад. (гл. § 104, заўвага да п. 4).

## VII. Правапіс *не* і *ні*

**§ 107.** ***Не*** пішацца разам:

1. Ва ўсіх выпадках, калі без адмоўнай часціцы ***не*** слова не ўжываецца, напрыклад: *непагадзь, невук, невуцтва, непаседа, непрацўленства, нявестка, нядзеля, нястача, нядоімка,*

*недахоп, недаўлік, недалетак, ненавісны, нездаровіцца, ненавідзець, непакоіць, няволіць, няможацца, неадольны, незлічоны, непамерны, нечуваны, нябось, неўзабаве, неабходна, неабсяжна.*

2. З назоўнікамі, калі адмоўе надае слову новае, процілеглае значэнне, напрыклад: *няпраўда, непрыяцель, няшчасце.*

3. З назоўнікамі, калі адмоўе прыдае слову, якое не мае гэтай часціцы, значэнне супрацьпастаўлення, адмаўлення: *нятэрмін, неспецыяліст, нелінгвіст, немарксіст* і пад., напрыклад: *розніца паміж тэрмінамі і нятэрмінамі, кніга прызначана ў асноўным для неспецыялістаў, нелінгвісту гэтыя тэрміны могуць быць незнаёмы.*

4. З прыметнікамі і адпрыметнікавымі прыслоўямі на **-о** (**-а**) і **-е,** калі спалучэнне іх з ***не*** служыць не для адмаўлення якога-небудзь паняцця, а для выражэння новага, процілеглага паняцця: *неабгрунтаваны* (г. зн. беспадстаўны), *невысокі* (г. зн. нізкі), *нешырокі* (г. зн. вузкі), *недалёкі* (г. зн. блізкі), *неспакойны* (г. зн. хвалюецца), *невялікі* (г. зн. малы,) *нелегальна* (г. зн. падпольна, скрыта), *нямнога* (г. зн. мала), *няліщне* (г. зн. якраз у меру, дастаткова) і пад., а таксама *няйначай* (г. зн. абавязкова).

5. З дзеепрыметнікамі, пры якіх адсутнічаюць паясняльныя словы ці супрацьпастаўленне: *неасушаныя* (балоты), *нержавеючая* (сталь), *незасеянае* (поле), *нечаканы* (прыход), *неспрыючае* (надвор'е); але: *не засеянае вясною поле, не асушаныя да гэтага часу балоты, не спрыючае для ўборкі ўраджаю надвор'е.*

З а ў в а г а. Пры наяўнасці паясняльных слоў, якія абазначаюць ступень якасці, ***не*** з дзеепрыметнікамі пішацца разам (у такіх выпадках дзеепрыметнікі з ***не*** блізкія да прыметнікаў): *выключна неабдуманы ўчынак, зусім незнаёмы чалавек;* але: *зусім не знаёмы нікому з прысутных чалавек* (***не*** пішацца асобна таму, што пры дзеепрыметніку ёсць паясняльныя словы *нікому з прысутных).*

6. З займеннікамі, калі на часціцу ***не*** па́дае націск і паміж ***не*** і займеннікам няма прыназоўніка: *не́хта, не́шта, не́кага, не́чага, не́йкі,* а таксама *некато́ры;* але: *не́ к каму, не́ к чаму, не́ з кім, не́ за шта, не́ ў кага.*

З займеннікавымі прыслоўямі, калі на часціцу ***не*** па́дае націск: *не́адкуль, не́калі, не́калькі, не́куды, не́дзе, не́як.*

7. У прыслоўях *нехаця, нельга;* у выконваючым функцыю прыназоўніка спалучэнні *нягледзячы на;* у часціцах *няўжо, няхай, -небудзь.*

З а ў в а г а. Напісанне прыслоўяў і выконваючых функцыю прыслоўяў канструкцый, у склад якіх уваходзяць адмоўе, прыназоўнік і назоўнік ці прыметнік *(няўцям, неўзабаве, незадоўга, непадалёку, не пад сілу, не ў меру),* вызначаецца правіламі, выкладзенымі ў § 100, п. 5 і § 101.

8. У дзеяслоўнай прыстаўцы ***неда-***, якая абазначае неадпаведнасць патрэбнай норме: *недалічваць* (мець менш, чым



патрэбна), *недаацэньваць* (ацэньваць ніжэй, чым належыць), *недаважваць* (адважваць менш, чым патрабуецца), *недаглядзець* (недастаткова, дрэнна глядзець), *недавыканаць* (выканаць менш патрэбнай нормы), *недамерваць* (адмерваць менш, чым трэба).

З а ў в а г а. Ад дзеясловаў з прыстаўкай ***неда-*** трэба адрозніваць дзеясловы з прыстаўкай ***да-,*** якія маюць перад сабой адмоўе ***не*** і абазначаюць не даведзенае да канца дзеянне: *не дапісаць пісьмо, не дачытаць апавяданне, не даехаць дадому, не дагледзець фільм.*

## § 108. *Не* пішацца асобна:

1. Пры дзеясловах, у тым ліку і пры дзеепрыслоўных формах: *не бачыў, не ведаў, не глядзець, не пішучы, не здаўшы, не перапрацаваўшы, не зважаючы, не гледзячы.*

З а ў в а г а. Аб напісанні разам *нягледзячы* і дзеясловаў з прыстаўкай ***неда-*** гл. § 107, пп. 7 і 8.

2. Пры дзеепрыметніках:

а) у кароткай форме: *апавяданне не прачытана, жыта не звезена, стол не накрыт;*

б) у поўнай форме, калі пры дзеепрыметніку ёсць паясняльныя словы (гл. § 107, п. 5), а таксама тады, калі пры дзеепрыметніку ёсць або падразумяваецца супрацьпастаўленне: *На стале ляжала не скончанае, а толькі пачатае пісьмо.*

3. Пры назоўніках, прыметніках і прыслоўях, калі ёсць або падразумяваецца супрацьпастаўленне: *не прыяцель, а вораг; не іначай, а толькі так; ляцеў ён не доўга і не коратка; прынясу, але не сёння.*

З а ў в а г а. Неабходна звярнуць увагу на некаторыя выпадкі напісання асобна часціцы ***не***. Часціца ***не*** пішацца асобна: а) калі пры прыметніку, дзеепрыметніку ці прыслоўі ў якасці паясняльнага слова стаіць займеннік або займеннікавае прыслоўе, якія пачынаюцца з ***ні***: *нікому (ні для каго) не цікавы даклад, ніколі не востраная піла;* б) калі ***не*** ўваходзіць у склад узмацняльных адмоўяў *далёка не, зусім не, нічуць не, нікольkі не* і пад., якія стаяць перад назоўнікам, прыметнікам ці прыслоўем: *далёка не мілагучны голас, нічуць не горшы ўраджай, нікольki не менш сабралі з поля.*

4. Пры займенніках і займеннікавых прыслоўях, калі на часціцу ***не*** націск не па́дае: *не я, не такі, не там, не інакш.*

З а ў в а г а. Філасофскі тэрмін ***не-я*** пішацца праз злучок.

5. Пры ўзмацняльных прыслоўях, а таксама пры прыназоўніках і злучніках: *не вельмі, не зусім, не ад..., не ў..., не то... не то.*

Асобна пішацца выраз ***не раз***: *Не раз прыходзілася яму хадзіць праз гэты лес.*

6. Пры нязменных словах, якія не ўтвораны ад прыметнікаў і выступаюць у сказе ў якасці выказніка: ***не трэба, не варта, не супраць, не шкада;*** але: ***нельга.***

7. Пры ўсіх словах, якія пішуцца праз злучок: ***не літаратурна-мастацкія часопісы, зроблена не па-мойму.***

§ **109.** ***Ні*** пішацца разам:

1. У займенніках, калі часціца ***ні*** не аддзелена ад займенніка прыназоўнікам: *ніхто, нішто, нікога, нічога, ніякі, нічый, ніякаму, нічыйго;* але *ні ў кóга, ні з я́кім, ні да чóга* і пад.

2. У прыслоўях *ніколі, нідзе, нікуды, ніадкуль, ніяк, нізашто, ніколькі, нічуць, нізвання,* а таксама ў вытворных словах: *нічыйны, ніякавы, ніякава, ніякаваты, ніякавата, ніякавасць* і інш.

3. У злучніках і часціцах *нібы, нібыта.*

§ **110.** Ва ўсіх астатніх выпадках часціца ***ні*** пішацца асобна.

Аб ужыванні часціцы ***ні*** гл. § 53, п. 2.

Заўвага. Неабходна адрозніваць звароты *не хто іншы, як..., не што іншае, як...* ад зваротаў *ніхто іншы не..., нішто іншае не...,* напрыклад: *прыйшоў не хто іншы, як наш знаёмы;* але: *ніхто іншы не мог так зрабіць; гэта было не што іншае, як трывога;* але: *нішто іншае мяне не магло так спалохаць.*

§ **111.** Словы з адмоўем ***няма*** пішуцца асобна: *няма дажджу, няма каго, няма нічога, няма куды, няма дзе;* але ***немаведама:*** *немаведама хто, немаведама калі.*

## УЖЫВАННЕ ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ

§ **112.** З вялікай літары пішацца першае слова тэксту, а таксама першае слова пасля кропкі, клічніка, пытальніка і шматкроп'я, якія стаяць у канцы сказа, напрыклад: *Дзень добры, Масква, наша доля і воля! З табою жыць радасна людзям. Цябе не забудуць народы ніколі, як песні ніхто не забудзе* (Купала). *Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса, у палясоўшчыках што быў? На Пуцявішчы, ля Парнаса, ён там ля лазні блізка жыў* («Тарас на Парнасе»). *А цягнік усё ішоў... І трывожны сігнал, і масты, і засады мінуў ён даўно* (Глебка). *І застылі цені у маёй святліцы, засынаю... Сніцца роднае сяло* (Трус).

Заўвага 1. У вершах па традыцыі з вялікай літары можа пісацца першае слова кожнага радка незалежна ад папярэдніх знакаў прыпынку.

Заўвага 2. Пасля шматкроп'я, якое стаіць у сярэдзіне сказа і абазначае перапынак або замінку ў гутарцы, першае слова пішацца з малой літары, напрыклад: *Гэта вы ўжо, Іван Іванавіч, таго... дарэмна сябе ганіце* (Багдановіч). *А што вы скажаце на крытыка, Іван Ант... выбачайце, Мацвеевіч* (Бядуля).

Заўвага 3. З малой літары пішацца і першае слова пасля пытальніка, клічніка, шматкроп'я, калі гэтыя знакі прыпынку стаяць пасля простай мовы, за якой ідуць словы аўтара, што паказваюць, каму належыць простая мова, напрыклад: *«Ты ж гэта што мне даеш?»—ў абурэнні запытаў дзед Талаш, палажыўшы на далонь папяровую марку* (Колас). *«Надзя! Надзейка!..»—кліча жалейка* (Броўка). *«А тут было б зусім нядрэнна, калі б...»—прамовіў Віктар млявым голасам* (Маўр).

§ **113.** З вялікай літары пішацца першае слова пасля выклічніка або звароткa, якімі пачынаецца сказ і пасля якіх стаіць клічнік, напрыклад: *А-я-яй! Хто ж бы гэта мог падумаць! Гэтакі, здаецца, чалавек!..* (Крапіва). *Сястра! Калі я не



даканчу пісьмо, ты дапішаш і сям'і і сябрам з Беларусі прывет перашлеш* (Танк).

Заўвага. Калі ж выклічнік стаіць у сярэдзіне сказа, тады першае слова пасля клічніка пішацца з малой літары, напрыклад: *І ляцім жа, браткі, э-эх! ляцім!.. Даганяй—не дагоніш..* (Лынькоў).

§ **114.** З вялікай літары пішацца першае слова пасля двукроп'я ў наступных выпадках:

1. Калі гэта пачатак простай мовы, напрыклад: *Маці пыталася часамі: «Дзе ты ўсё ходзіш, Міша?»* (Крапіва).

2. Калі гэта пачатак цытаты, якая з'яўляецца самастойным сказам, напрыклад: *Звяртаючы ўвагу маладых пісьменнікаў на неабходнасць глыбокага вывучэння мовы, Аляксей Максімавіч Горкі гаварыў: «Сапраўдная прыгажосць мовы, што дзейнічае як сіла, ствараецца дакладнасцю, яснасцю, гучнасцю слоў, якія афармляюць малюнкі, характары, ідэі кнігі».*

Заўвага. Калі ж цытата ўваходзіць у сказ як яго арганічная частка, тады яна пачынаецца з малой літары, напрыклад: *Уладзімір Ільіч Ленін пісаў пра Горкага, што ён «моцна звязаў сябе сваімі вялікімі мастацкімі творамі з рабочым рухам Расіі і ўсяго свету».*

3. Калі гэта пачатак асобных рубрык тэксту, якія заканчваюцца кропкай, напрыклад:

*Галоўныя правілы тактыкі ўзброенага паўстання Ленін звёў да наступных пяці:*

1) *Ніколі не іграць з паўстаннем, а, пачынаючы яго, ведаць цвёрда, што трэба ісці да канца.*

2) *Неабходна сабраць вялікую перавагу сіл у рашаючым месцы ў рашаючы момант, бо інакш непрыяцель, які валодае лепшай падрыхтоўкай і арганізацыяй, знішчыць паўстанцаў.*

3) *Паколькі паўстанне пачата, трэба дзейнічаць з найвялікшай рашучасцю і абавязкова, безумоўна, пераходзіць у наступленне. «Абарона ёсць смерць узброенага паўстання».*

4) *Трэба захапіць знянацку непрыяцеля, улавіць момант, пакуль яго войскі раскіданы.*

5) *Трэба дабівацца штодзённа хоць маленькіх поспехаў (можна сказаць: штогадзінна, калі справа ідзе аб адным горадзе), падтрымліваючы, у што б там ні стала, «маральную перавагу».*

Заўвага. Калі ж рубрыкі тэксту заканчваюцца кропкай з коскай, тады першае слова кожнай рубрыкі пішацца з малой літары, напрыклад:

*Клапоцячыся аб далейшым развіцці савецкай літаратуры, ЦК ВКП(б) у 1932 годзе прыняў пастанову:*

*1) ліквідаваць асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў (ВОАПП, РАПП);*

*2) аб'яднаць усіх пісьменнікаў, якія падтрымліваюць платформу савецкай улады і імкнуцца ўдзельнічаць у сацыялістычным будаўніцтве, у адзін Саюз савецкіх пісьменнікаў з камуністычнай фракцыяй у ім;*

*3) правесці аналагічныя змяненні па лініі іншых відаў мастацтва;*

*4) даручыць Аргбюро распрацаваць практычныя меры па правядзенню гэтага рашэння.*

§ **115.** З вялікай літары пішацца пачатковае слова пастаноў, пратаколаў, рэзалюцый пасля ўступнай часткі, напрыклад: *Вярхоўны Савет БССР пастанаўляе: Зацвердзіць прадстаўлены праект народнагаспадарчага плана...*

§ **116.** З вялікай літары пішуцца разнастайныя рэмаркі, калі яны ўстаўляюцца пасля закончанага сказа, напрыклад: Скіба. *То гэта я не на тую дарогу трапіў, мусіць?* (Знімае шапку і выцірае пот рукавом гімнасцёркі.) *Кваску б глынуць, у роце перасохла* (Крапіва). *Шчаслівых перамог, свабодны мой народзе! Шчаслівай долі на загонах тваіх родных, спелых!* (З верша Янкі Купалы.) *«Ідэі камунізма—гэта самыя перадавыя ідэі нашага часу, яны жывуць там, дзе жыве народ. Знішчыць гэтыя ідэі нельга, як нельга знішчыць народ».* (Бурныя апладысменты.)

Заўвага. У драматычных творах рэмаркі, якія стаяць перад словамі дзеючай асобы або ўключаюцца ў сярэдзіну іх у такім месцы, дзе нельга паставіць кропку, пішуцца з малой літары, напрыклад: Гарлахвацкі (стукае кулаком па стале). *Я не дазволю!* (Крапіва). Тумілович. *А калі з мірнымі намерамі, тады прапаную раззброіцца* (бярэ з рук Насці сякеру) *і сесці за круглы стол* (Крапіва).

§ **117.** З вялікай літары пішуцца імёны, імёны па бацьку, прозвішчы, псеўданімы, мянушкі, напрыклад: *Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала), Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч (Якуб Колас), Мацей Бурачок, Кузьма Чорны, Максім Горкі, Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў, Талаш, Мікіта Батоўкін, Кастусь Каліноўскі, Сямён Полацкі, Бацька Мінай, Іван Грозны, Луі Арагон, Рычард Львінае Сэрца.*

Заўвага 1. У кітайскіх імёнах (яны стаяць пасля прозвішчаў і часцей за ўсё складаюцца з дзвюх частак) з вялікай літары пішацца толькі першая частка, другая ж частка пачынаецца з малой літары і далучаецца да першай пры дапамозе злучка, напрыклад: *Сун* (прозвішча) *Ят-сен* (імя), *Мао* (прозвішча) *Цзэ-дун* (імя), *Цзін* (прозвішча) *Нань-сян* (імя).

У прозвішчах і імёнах карэйцаў, в'етнамцаў, бірманцаў і інданезійцаў усе часткі пішуцца з вялікай літары і злучок паміж імі не ставіцца, напрыклад: *Хо Шы Мін, У Ну, Аунг Сан, Пэн Нам Ун, Такін Кодэ Хмеінг.*

Заўвага 2. Артыклі і часціцы пры замежных прозвішчах і імёнах пішуцца з малой літары, напрыклад: *ван Бетховен, Бадуэн дэ Куртэнэ, Лопэ дэ Вэга, дэ ла Барт, д'Арк, д'Аламбер, д'Арсенваль, фон Берліхінген, фон дэр Гольц, ла Мот, Андрэа дэль Сарта, ле Шапелье.*

Але артыклі і часціцы, якія зліліся з прозвішчамі або якія далучаюцца да прозвішчаў пры дапамозе злучка (сюды ж адносіцца і о, якое далучаецца да прозвішчаў апострафам), пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *Лафантэн, Ванкувер, Макданальд, Фанвізін; Ван-Гог, Мак-Магон, Сен-Сімон, Сан-Мартын, О'Конар, О'Данаван.*

Заўвага 3. Індывідуальныя назвы людзей, якія страцілі значэнне ўласных імён і набылі значэнне агульнай назвы або замацавалі за сабой назвы фізічных адзінак, вырабу вопраткі, зброі і іншых прадметаў, пішуцца з малой літары, напрыклад: *донжуан, лавелас, мецэнат, ампер, кулон, ом, фрэнч, галіфэ, браўнінг, маўзер, наган, напалеон* (пірожнае), *форд* (аўтамабіль).



Калі ж такія імёны не ператварыліся ў агульныя назвы, але часам ужываюцца ў значэнні агульнай назвы, тады яны пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *У памяці народа будуць вечна жыць Заслонавы, Матросавы, Гастэлы.*

Заўвага 4. Індывідуальныя назвы людзей, якія ўжываюцца як агульныя назвы ў пагардлівым сэнсе, пішуцца з малой літары, напрыклад: *абломавы, манілавы, хлестаковы, гарлахвацкія, азефы, квіслінгі.*

Заўвага 5. Назвы народаў, плямён, а таксама назвы, якія паказваюць нацыянальную прыналежнасць людзей, іх месцапражыванне, пішуцца з малой літары, напрыклад: *беларус, украінец, кітаец, француз, араб; ленінградзец, масквіч, мінчанін, віцяблянін.*

Заўвага 6. Агульныя назвы, утвораныя ад уласных імён, пішуцца з малой літары, напрыклад: *ленінец, марксіст, гегельянец, пушкініст, талстовец.*

Заўвага 7. Назвы пасад, тытулаў, ганаровых званняў, навуковых ступеней пішуцца з малой літары, напрыклад: *міністр, прэзідэнт, пасол, прафесар, доктар, генерал, маршал, народны артыст заслужаны дзеяч навукі, вучоны сакратар, кароль, сенатар, папа, шах, хан, паша.*

Але ў назвах вышэйшых пасад і асабліва ганаровых званняў СССР з вялікай літары пішацца кожнае слова, напрыклад: *Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Старшыня Савета Міністраў, Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, Маршал Савецкага Саюза.*

Заўвага 8. Пры наданні асаблівай павагі ў дакументах афіцыйнага характару з вялікай літары могуць пісацца пералічаныя ў заўвазе 7 назвы пасад, тытулаў, ганаровых званняў: *Міністр, Прэзідэнт, Пасол, Маршал, Кароль* і інш.

§ **118.** Як прозвішчы, пішуцца з вялікай літары лічэбнікі пры ўласных імёнах, калі гэтыя лічэбнікі перадаюцца не рымскай лічбай, а словам, напрыклад: *Пётр Першы, Генрых Чацвёрты, Баніфацый Восьмы* і інш.

§ **119.** З вялікай літары пішуцца індывідуальныя імёны, якія адносяцца да міфалогіі і рэлігіі, напрыклад: *Антэй, Геркулес, Венера, Зеўс, Пярун, Малох, Хрыстос.*

Заўвага. Індывідуальныя міфалагічныя імёны, якія ператварыліся ў імёны агульныя, пішуцца з малой літары, напрыклад: *малох імперыялізму; чалавека забіў пярун.* Таксама з малой літары пішуцца родавыя назвы міфалагічных істот, напрыклад: *дамавік, лясун, русалка, муза, німфа, фея.*

§ **120.** З вялікай літары пішуцца ўмоўныя ўласныя імёны ў дагаворах і іншых дакументах, напрыклад: *Высокія Дагаворныя Бакі* (у актах міжнароднага значэння); *Аўтар і Выдавецтва* (у выдавецкім дагаворы).

§ **121.** З вялікай літары пішуцца індывідуальныя назвы жывёлін (мянушкі), напрыклад: *Халстамер* (конь), *Рагуля* (карова), *Мурза* (сабака), *Мурка* (кошка).

Заўвага. Калі ж індывідуальныя мянушкі ўжываюцца ў якасці назваў відаў жывёлы, тады яны пішуцца з малой літары, напрыклад: *лыска* (сабака), *мішка* (мядзведзь).

§ **122.** З вялікай літары пішуцца ў байках, казках, драматычных творах назвы дзеючых асоб, выражаныя імёнамі, якія звычайна з'яўляюцца агульнымі назвамі, напрыклад: *Асёл, Сава, Дуб, Шчупак, Мароз, Леў.*

§ **123.** З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад уласных імён людзей, міфалагічных істот і мянушак жывёлін у наступных выпадках:

1. Калі яны ў поўным сэнсе слова выражаюць прыналежнасць чаго-небудзь пэўнаму чалавеку, міфалагічнай істоце (у складзе такіх прыметнікаў заўсёды будуць суфіксы ***-ев-*** (***-ёв-***), ***-ов-*** (***-ав-***) або ***-ін-*** (***-ын-***) без наступнага суфікса (***-ск-***), напрыклад: *Міхасёвы кнігі, Марысіны лялькі, Змітракова хата, Коласавы творы, Андрэева шапка, Зеўсаў гнеў, Мурчыны кацяняты* і да т. п.

2. Калі яны ўваходзяць у склад назваў, роўных па сэнсу назвам са словамі «імя», «памяці» каго-небудзь, напрыклад: *Ленінская прэмія* (прэмія імя Леніна), *Купалаўскія чытанні* (чытанні памяці Купалы).

Заўвага 1. Прыметнікі, утвораныя ад індывідуальных імён людзей, пішуцца з малой літары:

а) калі яны не з'яўляюцца ў поўным сэнсе прыналежнымі, напрыклад: *купалаўскі стыль* (г. зн. стыль, уласцівы Купалу ці падобны да стылю Купалы), *эзопаўская мова* (мова, як у Эзопа), *сувораўская тактыка* (тактыка, як у Суворава) і г. д.;

б) калі яны з'яўляюцца ў поўным сэнсе слова прыналежнымі, але маюць у сваім складзе суфікс ***-аўск-*** (***-еўск-***) або ***-інск-***, напрыклад: *ленінская тэорыя адлюстравання, шолахаўскі «Ціхі дон»* і г. д.;

в) калі яны ўтвараюць навуковыя тэрміны, напрыклад: *архімедаў вінт, вольтава дуга, піфагорава тэарэма* і інш.;

г) калі яны ўваходзяць у фразеалагічныя выразы, якія ўжываюцца ў пераносным значэнні, напрыклад: *аўгіевы стайні, ахілесава пята, бурыданаў асёл, танталавы мукі* і г. д.

Заўвага 2. Прыслоўі, якія ўтвораны ад індывідуальных імён людзей, заўсёды пішуцца з малой літары, напрыклад: *па-купалаўску, па-варашылаўску, па-сувораўску.*

§ **124.** З вялікай літары пішуцца:

1. Індывідуальныя астранамічныя назвы, у тым ліку і народныя, напрыклад: *Венера, Марс, Казярог, Сатурн, Уран, Плутон, Сітца, Воз* і інш.

Заўвага. Словы *сонца, месяц, зямля* пішуцца з вялікай літары тады, калі яны ўжываюцца ў якасці астранамічных назваў, напрыклад: *вакол Сонца абарачаюцца наступныя планеты: Меркурый, Венера, Зямля (са сваім спадарожнікам Месяцам), Марс, Юпітэр, Сатурн, Уран, Нептун і Плутон;* але: *апрацоўка зямлі, сонца слепіць вочы.*

2. Індывідуальныя геаграфічныя, адміністрацыйна-тэрытарыяльныя і іншыя назвы, напрыклад: *Урал, Еўропа, Дарданелы, Грэнландыя, Памір, Сахара, Альпы, Байкал, Дзвіна, Беларусь, Ветрына, Мінск.*

Калі ж астранамічныя і геаграфічныя назвы складаюцца з некалькіх слоў, тады ўсе словы пішуцца з вялікай літары, апрача службовых і родавых (такіх, як: *зорка, камета, сузор'е; востраў, мора, рака, заліў, мыс; вуліца, плошча,* а таксама парадкавых абазначэнняў свяціл—*альфа, бэта* і інш.), напрыклад: *Млечны Шлях, тропік Рака, зорка Венера, камета Галея, туманнасць Андрамеды, сузор'е Пса; Новая Гвінея, Малыя Альпы, Вялікія Лукі, Старыя Дарогі, Паўночна-Казахстанская вобласць, Паўднёва-Афрыканскі Саюз, Злучаныя Штаты Амерыкі, Верхні Егіпет, возера Нарач, Чорнае мора, рака Свіслач, Атлантычны акіян, мыс Добрай Надзеі, гара Магнітная, Галоўны Каўказскі хрыбет, Ключаўская сопка, Анежская губа, Балеарскія астравы, Гібралтарскі праліў, Балканскі паўвостраў, Беламорска-Балтыйскі канал, Паўночны полюс, пік Леніна, Летні сад, вуліца Горкага, Магілёўская шаша, Ваенна-Грузінская дарога, Спаская вежа, Красная плошча, Баравіцкія вароты, Вялікі Крамлёўскі палац, Малая канферэнц-зала Акадэміі навук, альфа Малой Мядзведзіцы* і інш.



У афіцыйных назвах дзяржаў усе словы пішуцца з вялікай літары (у тым ліку і слова *рэспубліка*), напрыклад: *Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Башкірская Аўтаномная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, Кітайская Народная Рэспубліка, Народная Рэспубліка Балгарыя, Аб'яднаная Арабская Рэспубліка.*

З вялікай літары пішуцца і неафіцыйныя назвы дзяржаў і іх частак, а таксама вобразныя назвы геаграфічных аб'ектаў, напрыклад: *Савецкі Саюз, Краіна Саветаў*[1], *Савецкая Беларусь, Башкірыя, Закарпацце, Палессе, Полаччына, Белакаменная* (Масква).

Назоўнікі, якія ўваходзяць у састаў складаных уласных найменняў і якія ўмоўна называюць прадмет, пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *Залаты Рог* (бухта), *Вялікая Мядзведзіца* (сузор'е), *Багемскі Лес* (горы), *Ясная Паляна* (станцыя), *Тоўсты Лес* (вёска), *Старое Сяло* (горад).

Заўвага 1. Назвы кірункаў свету (поўдзень, поўнач, захад, усход, паўднёвы захад, паўночны ўсход і г. д.) пішуцца з малой літары, напрыклад: *самалёт узяў кірунак на поўнач.*

Але калі гэтыя назвы ўжываюцца ў значэнні краін, тады яны пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *Усход пазбаўляецца ад каланіялізму; мовы народаў Поўначы атрымалі права на свабоднае развіццё ў савецкі час.*

Заўвага 2. Артыклі і часціцы, якія стаяць у пачатку іншамоўных геаграфічных назваў, пішуцца з вялікай літары і далучаюцца злучком, напрыклад: *Дэ-Кастры, Ла-Манш, Лос-Анжэлас.*

Заўвага 3. Іншамоўныя родавыя найменні, якія ўваходзяць у склад геаграфічных назваў, пішуцца з вялікай літары, за выключэннем тых, што ўвайшлі ў беларускую мову ў якасці геаграфічных тэрмінаў, напрыклад: *Аму-Дар'я, Рыо-Негра* (*дар'я* і *рыо* азначаюць «рака»), *Лаг-Нур* (*нур* — возера), *Аю-Даг* (*даг* — гара); але: *Дэ-Лонг-фіёрд, Варангер-фіёрд* (слова *фіёрд* пішацца з малой літары, таму што ў беларускай мове яно з'яўляецца геаграфічным тэрмінам).

Заўвага 4. Службовыя словы, якія стаяць у сярэдзіне геаграфічных назваў, пішуцца з малой літары, напрыклад: *Булонь-сюр-Мэр, Па-дэ-Кале, Франкфурт-на-Майне, Растоў-на-Доне, Камсамольск-на-Амуры.*

Заўвага 5. Геаграфічныя назвы, якія ўжываюцца ў пераносным сэнсе, захоўваюць напісанне з вялікай літары, напрыклад: *Версаль* (у зна-

[1] Слова *Савет* пішацца заўсёды з вялікай літары, калі абазначае орган улады ў Савецкай краіне: *Ветрынскі раённы Савет дэпутатаў працоўных;* але: *вучоны савет Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.*

чэнні «Версальскі мір»), *Мюнхен* (у значэнні «пагадненне з фашызмам»), *Майданак* (у значэнні «фашысцкі лагер смерці»).

Заўвага 6. Назвы жывёл, раслін, тканін і іншых прадметаў або з'яў, якія ўтварыліся ад геаграфічных назваў, пішуцца з малой літары, напрыклад: *сенбернар* (парода сабак), *мадэра, цынандалі* (гатункі віна), *бастон* (тканіна, танец).

**§ 125.** З вялікай літары пішуцца прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў:

а) Калі яны ўваходзяць у састаў складаных геаграфічных назваў, напрыклад: *Мінская вобласць, Беларускі вакзал* (у Маскве), *Валдайскае ўзвышша.*

Заўвага. Калі ж прыметнікі, утвораныя ад уласных геаграфічных назваў, ужываюцца не як уласныя, а як агульныя назвы, тады яны пішуцца з малой літары, напрыклад: *асфальтуюцца мінскія вуліцы, адбудоўваюцца беларускія гарады.*

б) Калі яны ўваходзяць у састаў складаных індывідуальных назваў людзей у якасці іх прозвішчаў, напрыклад: *Сямён Полацкі, Аляксандр Неўскі, Дзмітрый Данской.*

**§ 126.** У назвах гістарычных падзей, эпох, з'яў, гістарычных дакументаў, твораў мастацтва і іншых матэрыяльных помнікаў з вялікай літары пішацца першае слова, а таксама ўласныя імёны, якія ўваходзяць у іх склад.

Сюды адносяцца:

а) Назвы, выражаныя адным назоўнікам, напрыклад: *Кастрычнік* (у значэнні Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі), *Адраджэнне, Рэнесанс, Рэфармацыя, Дамастрой* і інш.

Заўвага. Гэтыя ж словы могуць ужывацца і ў якасці агульных назваў, тады іх трэба пісаць з малой літары, напрыклад: *стыль рэнесанс, сярэдневяковы дамастрой, адраджэнне гаспадаркі.*

б) Назвы, выражаныя спалучэннем прыметніка, утворанага ад уласнага імя, з назоўнікам, напрыклад: *Пятроўская рэформа, Каралінгская дынастыя, Напалеонаўскія войны, Ленскі расстрэл, Сталінградская бітва, Парыжская камуна, Версальскі мір, Баркалабаўскі летапіс, Літоўская метрыка.*

Заўвага. Калі ж у прыметніку, з якога пачынаецца такая назва, з'яўляецца прыстаўка, тады назва пішацца з малой літары, напрыклад: *дапятроўская эпоха, пераднапалеонаўскія войны.*

в) Назвы, выражаныя ўсякім іншым спалучэннем назоўніка з пачатковым прыметнікам або лічэбнікам, напрыклад: *Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Вялікая Айчынная вайна, Доўгі парламент, Ліпеньская манархія, Сямігадовая вайна, Сто дзён* і інш.

Заўвага. Назвы гістарычных падзей, эпох, плыней, з'яў, якія не ўсведамляюцца як уласныя назвы, пішуцца з малой літары, напрыклад: *антычны свет, імпрэсіянізм, крыжовыя паходы, палеаліт, феадалізм, другая сусветная вайна, мезазойская эра* і інш.

**§ 127.** З вялікай літары пішацца першае слова ў назвах рэвалюцыйных свят і знамянальных дат, напрыклад: *Першае мая, Дзевятае студзеня, Новы год, Міжнародны жаночы дзень, Дзень артылерыі.*



Калі пачатковы парадкавы лічэбнік у такой складанай назве перадаецца лічбай, тады з вялікай літары пішацца наступнае за ім слова, напрыклад: *1 Мая, 9 Студзеня.*

Заўвага. Назвы рэлігійных свят, пастоў, а таксама дзён тыдня, месяцаў і інш. пішуцца з малой літары, напрыклад: *каляды, сёмуха, масленіца, вялікі пост, курбан-байрам, чацвер, субота, ліпень, верасень.*

**§ 128.** З вялікай літары пішуцца ўсе словы ў поўных назвах ордэнаў, апрача слоў *ордэн* і *ступень*, напрыклад: *ордэн Леніна, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэн Айчыннай Вайны I ступені, ордэн Аляксандра Неўскага, ордэн Славы II ступені; ордэн Залатога Льва, ордэн Ганаровага Легіёна* і г. д.

Заўвага 1. У назвах знакаў узнагарод, знакаў адрознення і прызоў, якія бяруцца ў двукоссе, з вялікай літары пішацца першае слова, а таксама ўваходзячыя ў іх уласныя назвы, напрыклад: *ордэн «Мацярынская слава», «За абарону Масквы»* (медаль). *«За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945 гг.»* (медаль), *«Выдатны падводнік», «Выдатны артылерыст», «Кубак СССР», «Кубак дарогі»* і інш.; але: *«Знак Пашаны», медаль «Маршальская Зорка», медаль «Залатая Зорка», медаль «Серп і Молат».*

Заўвага 2. З вялікай літары пішацца першае слова і ў наступных назвах, якія не бяруцца ў двукоссе: *Ганаровая грамата, Чырвоны сцяг, Кніга гонару, Дошка гонару.*

**§ 129.** У назвах вышэйшых партыйных, урадавых, прафсаюзных устаноў і арганізацый Савецкага Саюза і саюзных рэспублік з вялікай літары пішуцца ўсе словы, якія ўваходзяць у склад назвы, апрача службовых слоў і слова *партыя*, напрыклад: *Прэзідыум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (Прэзідыум ЦК КПСС), Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза (ЦК КПСС), Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі (ЦК КПБ), Бюро ЦК КПБ, Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі (ВЛКСМ), Вярхоўны Савет СССР,* а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік; *Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР,* а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік; *Савет Саюза, Савет Нацыянальнасцей; Савет Міністраў СССР,* а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік; *Вярхоўны Суд СССР,* а таксама саюзных і аўтаномных рэспублік: *Усесаюзны Цэнтральны Савет Прафесіянальных Саюзаў (ВЦСПС), Савецкая Армія і Ваенна-Марскі Флот.*

Заўвага. З вялікай літары пішуцца ўсе словы, апрача службовых, у назвах некаторых міжнародных арганізацый: *Сусветны Савет Міру, Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Савет Бяспекі, Таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.*

**§ 130.** У назвах міністэрстваў і іншых цэнтральных савецкіх устаноў і арганізацый (апрача адзначаных у § 129) з вялікай літары пішацца першае слова. Калі ў іх склад уваходзяць уласныя імёны або назвы іншых устаноў і арганізацый, то гэтыя ўласныя імёны і назвы пішуцца так, як яны пішуцца пры самастойным ужыванні, напрыклад: *Акадэмія навук БССР, Міністэрства замежных спраў, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па новай тэхніцы, Галоўнае выдавецкае кіраў-*

*ніцтва Міністэрства культуры СССР, Савет народнай гаспадаркі БССР, Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне.*

**§ 131.** У поўных афіцыйных назвах савецкіх устаноў мясцовага значэння, вышэйшых навучальных устаноў, ідовішчных прадпрыемстваў, прамысловых і гандлёвых арганізацый з вялікай літары пішацца першае слова і ўсе ўласныя імёны, якія ўваходзяць у склад такіх назваў, напрыклад: *Выканаўчы камітэт Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага, Беларуская дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Чырванасцяжны імя Аляксандрава ансамбль песні і танца Савецкай Арміі, Кніжная палата, Манетны двор, Палац піянераў, Дом вучоных, Сталінградскі трактарны завод, Мінскі універсальны магазін.*

Заўвага. Правіла гэтага параграфа аднэсіцца і да складаных назваў міжнародных і замежных цэнтральных, грамадскіх і прафесіянальных арганізацый і дзяржаўных устаноў, напрыклад: *Сусветная федэрацыя прафсаюзаў, Усекітайская дэмакратычная федэрацыя жанчын, Прэзідыум сейма Польскай Народнай Рэспублікі.*

**§ 132.** З вялікай літары пішацца першае слова ў афіцыйных назвах палітычных партый, калі назва не пачынаецца з слова *партыя*, напрыклад: *Польская аб'яднаная рабочая партыя, Камуністычная партыя Аўстрыі, Сацыялістычная адзіная партыя Германіі, Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, Саюз 17 кастрычніка;* але: *партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў.*

З вялікай літары пішуцца і ўмоўныя найменні ў складзе назваў палітычных партый, напрыклад: *партыя Зямлі і волі* (або *«Зямля і воля»*), *партыя Народнай волі* (або *«Народная воля»*).

Заўвага. Неафіцыйныя назвы палітычных партый і груп пішуцца з малой літары, напрыклад: *гаміндан, дашнакцуцюн, лейбарысцкая партыя; адзавісты, ультыматысты* і інш.

**§ 133.** У назвах літаратурных твораў, газет, часопісаў, устаноў, прадпрыемстваў, якія бяруцца ў двукоссе, з вялікай літары пішацца першае слова і ўваходзячыя ў іх склад уласныя імёны, напрыклад: *«Мінская праўда», «Літаратура і мастацтва»* (газеты), *«Камуніст Беларусі», «Работніца і сялянка»* (часопісы), *«Раскіданае гняздо»* (драма), *«Новая зямля»* (паэма), *«Векапомныя дні»* (раман), *«Кастусь Каліноўскі»* (опера), *«Смелыя людзі»* (фільм), *«Янка Купала»* (параход), *«Маладая гвардыя»* (выдавецтва), *«Серп і молат»* (завод), *«Прамень камуны»* (калгас), *«Крыллі Саветаў»* (спартыўнае таварыства) і інш.

Заўвага. У падвойных састаўных назвах з вялікай літары пішацца таксама і першае слова другой назвы, напрыклад: *«Паходжэнні Чычыкава, або Мёртвыя душы», «Залаты ключык, або Прыгоды Бураціна».*



**§ 134.** У розных афіцыйных пасланнях, лістах з вялікай літары пішацца займеннік *Вы* як форма ветлівага звароту да адной асобы.

З вялікай літары ў асобным стылістычным ужыванні могуць пісацца такія агульныя назвы, як *Радзіма, Айчына* (у значэнні СССР), *Чалавек* (у значэнні чалавецтва).

## СКЛАДАНАСКАРОЧАНЫЯ СЛОВЫ, ЛІТАРНЫЯ АБРЭВІЯТУРЫ І ГРАФІЧНЫЯ СКАРАЧЭННІ

### I. Складанаскарочаныя словы

Складанаскарочаныя словы паводле сваёй будовы падзяляюцца на дзве групы:

а) складанаскарочаныя словы, якія ўтвараюцца з усечаных і поўных слоў *(зарплата, насценгазета, педінстытут, спецвопратка)*;

б) складанаскарочаныя словы, у склад якіх уваходзяць адны ўсечаныя словы *(гарком, калгас, камсамол, саўнаргас)*.

**§ 135.** Усе складанаскарочаныя словы абодвух тыпаў пішуцца разам. Пры гэтым кожная састаўная частка складанаскарочанага слова, апрача апошняй, пішацца так, як яна пісалася б у адпаведным поўным слове, напрыклад: *кампартыя, гарсавет, прафсаюз, сацспаборніцтва, сельмаг.*

Заўвага. У апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў пад націскам можа аднаўляцца этымалагічнае *о*, якога ў поўным слове не бывае, напрыклад: *райком* (раённы камітэт), *нарком* (народны камісар), *селькор* (сельскі карэспандэнт), *парторг* (партыйны арганізатар) і інш.

**§ 136.** На мяжы састаўных частак раздзяляльныя апостраф і мяккі знак не пішуцца, напрыклад: *цэхячэйка;* але *ь* як знак мяккасці ў такіх выпадках пішацца, напрыклад: *косцьутыль.*

**§ 137.** У пачатку састаўных частак складанаскарочаных слоў *і, е, ю, я* не пераходзяць у *ы, э, у, а*, напрыклад: *дзяржінспекцыя, педінстытут, палітінфармацыя, Дзяржюрвыдавецтва* і інш.

**§ 138.** Складанаскарочаныя словы, якія абазначаюць уласныя назвы ўстаноў і арганізацый, пішуцца з вялікай літары, напрыклад: *Саўмін СССР, Дзяржплан БССР, Белпрафсавет, Массавет.*

### II. Літарныя абрэвіятуры

У адпаведнасці з вымаўленнем літарныя абрэвіятуры падзяляюцца на тры групы:

а) абрэвіятуры, якія чытаюцца па назвах літар, напрыклад: *СССР, КПСС, МТС;*

б) абрэвіятуры, якія чытаюцца па гуках, абазначаных адпаведнымі літарамі, напрыклад: *ТАСС, МХАТ, нэп;*

в) абрэвіятуры, якія ў адной сваёй частцы чытаюцца па назвах літар, а ў другой па гуках, напрыклад: *ЦДСА, ЦСУ, ДТСААФ*.

**§ 139.** Абрэвіятуры пішуцца разам, без кропак, без злучкоў і без апострафаў.

Заўвага. Спалучэнні дзвюх абрэвіятур, якія маюць самастойнае значэнне, пішуцца асобна, напрыклад: *ЦК КПСС, АН БССР* і інш.

**§ 140.** Вялікімі літарамі пішуцца:

1. Усе абрэвіятуры, якія чытаюцца па назвах літар, напрыклад: *СССР, БССР, МТС*.

2. Усе абрэвіятуры, якія чытаюцца па гуках і абазначаюць назвы такіх устаноў і арганізацый, у якіх хоць першае слова пішацца з вялікай літары, напрыклад: *ТАСС, МХАТ, МОПР*.

3. Абрэвіятуры, у якіх адна частка чытаецца па назвах літар, а другая па гуках, калі ў такіх абрэвіятурах ёсць хоць адно слова, якое пры поўным ужыванні пішацца з вялікай літары, напрыклад: *ЦДСА, ЦСУ, ДТСААФ*.

Заўвага. Абрэвіятуры, якія пішуцца вялікімі літарамі, пераважна не скланяюцца. Калі ж некаторыя з такіх абрэвіятур набылі ўласцівасць скланяцца, тады адпаведныя склонавыя канчаткі дапісваюцца да іх малымі літарамі без апострафа, напрыклад: *МХАТа, ТАССам*.

**§ 141.** Абрэвіятуры, якія чытаюцца па гуках ці па гуках і літарах, калі яны абазначаюць агульныя назвы, пішуцца аднымі малымі літарамі, напрыклад: *вну, дзот, цэц* і інш.

### III. Розныя графічныя скарачэнні

З літарнымі абрэвіятурамі не трэба змешваць умоўных графічных скарачэнняў, якія ўжываюцца на пісьме, але заўсёды чытаюцца поўнасцю.

**§ 142.** Пры графічных скарачэннях ставіцца кропка і захоўваюцца тыя ж знакі і пачатковыя літары, якія ўласцівы поўнаму напісанню, напрыклад: *В.-Д. к. (Волга-Данскі канал)*.

Заўвага. Стандартныя скарочаныя абазначэнні метрычных мер пішуцца без кропак: *га* (гектар), *см* (сантыметр), *кг* (кілаграм), *км* (кіламетр) і інш.

Да агульнапрынятых скарачэнняў, якія не патрабуюць спецыяльнага тлумачэння, адносяцца:

*акад.* — акадэмік
*б.* — былы
*бухг.* — бухгалтэрыя
*в.* — вёска
*в-аў* — востраў
*п-аў* — паўвостраў
*в. а.* — выконваючы абавязкі
*вобл.* — вобласць
*воз.* — возера



| | | |
|---|---|---|
| *г.* | — год | пры абазначэнні лічбамі гадоў і стагоддзяў |
| *гг.* | — гады | |
| *ст.* | — стагоддзе | |
| *стст.* | — стагоддзі | |
| *г. зн.* | — гэта значыць | пасля пералічэння |
| *і г. д.* | — і гэтак далей | |
| *і да т. п.* | — і да таго падобнае | |
| *і інш.* | — і іншае | |
| *і пад.* | — і падобнае | |
| *гл.* | — глядзі | пры спасылках |
| *параўн.* | — параўнай | |
| *напр.* | — напрыклад | |
| *т.* | — том | |
| *тт.* | — тамы | |
| *стар.* | — старонка | |

*г.* — горад
*гр.* — грамадзянін
*дац.* — дацэнт
*заг.* — загадчык
*зб.* — зборнік
*нам.* — намеснік
*н. ст.* — новы стыль
*н. э.* — нашай эры
*праф.* — прафесар
*р.* — рака
*р-н* — раён
*руб.* — рублёў
*с.-г.* — сельскагаспадарчы
*с/с* — сельскі савет
*ст.ст.* — стары стыль
*тав.* — таварыш
*т-ва* — таварыства
*т. зв.* — так званы

Пры скарачэнні слоў трэба памятаць, што:

а) нельга скарачаць на галосную і на **ь**, на **й** і на **ў**;

б) пры спалучэнні дзвюх аднолькавых зычных скарачэнне робіцца пасля першай зычнай, напрыклад: *насен. фонд*, а не *насенн. фонд*;

в) пры збегу дзвюх або некалькіх розных зычных скарачэнне робіцца пасля апошняй зычнай, напрыклад: *народн. творчасць*, а не *народ. творчасць*.

## ПРАВІЛЫ ПЕРАНОСУ

**§ 143.** З аднаго радка ў другі пераносяцца такія часткі слова, якія з'яўляюцца складамі. Але адну літару, хоць яна і ўтварае склад, нельга ні пакідаць, ні пераносіць у новы радок.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *тэ-атр* | *тэа-тр* |
| *стра-ва* | *ст-рава* |
| *аса-ка* | *а-сака* |
| *лі-нія* | *ліні-я* |

**§ 144.** Пры пераносе нельга:

1. Пакідаць у канцы радка або пераносіць у новы радок дзве аднолькавыя зычныя, якія стаяць паміж галоснымі.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *двац-цаць* | *двацц-аць, два-ццаць* |
| *насен-не* | *насе-нне* |
| *калос-се* | *кало-ссе* |
| *заціш-ша* | *заці-шша* |

2. Аддзяляць зычную ад наступнай галоснай.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *вя-нок* | *вян-ок* |
| *ва-коліца, вако-ліца, ваколі-ца* | *вак-оліца, вакол-іца* |

3. Аддзяляць ***й***, ***ў*** ад папярэдняй галоснай.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *май-скі* | *ма-йскі* |
| *зай-цы* | *за-йцы* |
| *най-лепшы* | *на-йлепшы* |
| *праў-да* | *пра-ўда* |
| *слаў-ны* | *сла-ўны* |

4. Аддзяляць ***ь*** знак і ' (апостраф) ад папярэдняй зычнай.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *буль-ба* | *бул-ьба* |
| *вязь-мо* | *вяз-ьмо* |
| *аб'-ява* | *аб-'ява* |
| *бур'-ян* | *бур-'ян* |



5. Раздзяляць афрыкаты ***дж, дз***.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *са-джанцы, саджан-цы* | *сад-жанцы* |
| *ура-джай* | *урад-жай* |
| *каман-дзіроўка, камандзі-роўка* | *каманд-зіроўка* |
| *радзі-ма, ра-дзіма* | *рад-зіма* |

Заўвага. Калі ж ***дж, дз*** не складаюць аднаго гука, а з'яўляюцца звычайным спалучэннем прыставачнай ***д*** з карэннымі ***ж, з***, тады пры пераносе такія спалучэнні раздзяляюцца, напрыклад: *над-жаць, пад-жары* (а не *на-джаць, па-джары); ад-значыць, пад-земны* (а не *адз-начыць, па-дземны*).

**§ 145.** Пры пераносе слоў з прыстаўкамі нельга разбіваць аднаскладовую прыстаўку, калі за ёй ідзе зычная.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *без-дапаможны* | *бе-здапаможны* |
| *над-будаваць* | *на-дбудаваць* |
| *пад-сунуць* | *па-дсунуць* |
| *прад-стаўнік* | *пра-дстаўнік* |
| *раз-мах* | *ра-змах* |

Аднаскладовыя прыстаўкі на зычную, за якімі ідуць галосныя (апрача ***ы***), могуць разбівацца пераносам, напрыклад: *без-аварыйны* і *бе-заварыйны; без-умоўна* і *бе-зумоўна; пад-аконнік* і *па-даконнік*.

Заўвага 1. Калі ж пасля такіх прыставак стаіць літара ***ы***, тады частку слова, якая пачынаецца з ***ы***, пераносіць не дазваляецца.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *па-дыход, пады-ход* | *пад-ыход* |
| *ра-зыграць, разыг-раць* | *раз-ыграць* |
| *спа-дыспаду, спадыс-паду* | *спад-ыспаду* |
| *узы-сці, узыс-ці* | *уз-ысці* |

Заўвага 2. Двухскладовыя прыстаўкі пераносяцца па складах, напрыклад: *пера-бегчы* і *пе-рабегчы; пада-браць* і *па-дабраць; цэрас-палосіца* і *це-распалосіца*.

**§ 146.** Пры пераносе слоў з прыстаўкамі нельга пакідаць у канцы радка пры прыстаўцы пачатковую частку кораня, калі яна не з'яўляецца складам.

| Правільна: | Няправільна: |
|---|---|
| *аб-ставіны, абста-віны, абставі-ны* | *абс-тавіны* |
| *ад-грабаць, адгра-баць* | *адг-рабаць* |
| *на-браць* | *наб-раць* |
| *пад-крэсліць, падкрэс-ліць* | *падк-рэсліць* |
| *прад-ставіць, прадста-віць* | *прадс-тавіць* |
| *рас-плесці, расплес-ці* | *расп-лесці* |

З а ў в а г а. Выключэнне з гэтага правіла складаюць словы, у якіх пасля прыставак ідуць *й, ў*. У такіх словах літары *й, ў* застаюцца пры прыстаўцы: *дай-сці, дайс-ці; перай-сці, перайс-ці; заў-тра; заў-важыць; неў-раджайны; паў-тарыць, праў-нук.*

**§ 147.** У складаных словах канцавая частка першага слова можа пераносіцца ў новы радок, а пачатковая частка другога слова можа пакідацца ў папярэднім толькі тады, калі гэтыя часткі з'яўляюцца складамі.

| П р а в і л ь н а: | Н я п р а в і л ь н а: |
|---|---|
| *ва-гонарамонтны, ваго-нарамонтны, вагона-рамонтны, вагонара-монтны, вагонарамонт-ны* | *ваг-онарамонтны, вагон-арамонтны, вагонар-амонтны, вагонарам-онтны* |
| *дзее-прыслоўе, дзеепры-слоўе* | *дзе-епрыслоўе, дзееп-рыслоўе* |
| *многа-станочнік, мно-гастаночнік, многаста-ночнік* | *мног-астаночнік, многас-таночнік* |
| *разна-стайны, раз-настайны, разнастай-ны* | *разн-астайны, разнас-тайны* |
| *сто-працэнтны, стопра-цэнтны* | *стоп-рацэнтны* |
| *торфа-брыкет, тор-фабрыкет, торфабры-кет* | *торф-абрыкет, торфаб-рыкет* |
| *Віна-градаў, Ві-наградаў, Вінагра-даў* | *Він-аградаў, Вінаг-радаў* |
| *Нова-расійск, Но-варасійск, Нова-ра-сійск* | *Нов-арасійск, Новар-асійск* |

З а ў в а г а. Пры пераносе складаных слоў, у якіх другая частка пачынаецца з *ў*, гэта *ў* не пакідаецца пры першым слове.

| П р а в і л ь н а: | Н я п р а в і л ь н а: |
|---|---|
| *земле-ўпарадкаванне* | *землеў-парадкаванне* |
| *сена-ўборка* | *сенаў-борка* |
| *слова-ўтварэнне* | *словаў-тварэнне* |

**§ 148.** У складанаскарочаных словах аднаскладовыя часткі пры пераносе не разбіваюцца.

| П р а в і л ь н а: | Н я п р а в і л ь н а: |
|---|---|
| *гар-ком* | *га-рком, гарк-ом* |
| *парт-орг* | *па-рторг, пар-торг* |
| *сель-кор* | *се-лькор, сельк-ор* |
| *мясц-ком* | *мяс-цком, мясцк-ом* |
| *кам-самол, камса-мол* | *ка-мсамол, камсам-ол* |
| *саў-наргас, саўнар-гас* | *саўна-ргас, саўнарг-ас* |



**§ 149.** Абрэвіятуры, якія складаюцца з адных пачатковых літар або са спалучэння літар і лічбаў, пераносам не разбіваюцца, напрыклад: *СССР, БССР, ТАСС, МТС, ТУ-104, МАЗ-530.*

З а ў в а г а. У папярэдніх параграфах разгледжаны ў асноўным тыповыя выпадкі пераносу частак слоў у новы радок. Але трэба мець на ўвазе тое, што на практыцы могуць сустрэцца як зусім не падлягаючыя пераносу словы (*Азія, фае, авёс, асот, асецьь*), так і такія словы, якія можна пераносіць некалькімі спосабамі (*ся-стра, сяс-тра, сяст-ра; тавары-ства, таварыс-тва, таварыст-ва*). Да ліку апошніх звычайна будуць адносіцца словы са збегам зычных у суфіксальнай частцы.

**§ 150.** Не дазваляецца пераносіць прозвішчы, пакідаючы на канцы папярэдняга радка ініцыялы імя і імя па бацьку або іншыя ўмоўныя скарачэнні, якія адносяцца да прозвішчаў, напрыклад, нельга пераносіць *Я.* | *Купала*; *К. М.* | *Міцкевіч*; *акад.* | *Карскі*; *праф.* | *Пічэта*; *тав.* | *Чабоха*; *гр.* | *Шаплыка*; *ван* | *Бетховен.*

**§ 151.** Пры пераносе нельга адрываць скарочаныя назвы мер ад тых лічбаў, да якіх яны адносяцца, напрыклад: *1917* | *г.*; *XX* | *ст.*; *350* | *га*; *75* | *км*; *20* | *см²*; *16* | *кг.*

**§ 152.** Пры пераносе нельга адрываць ад лічбаў злучком звязаныя з імі граматычныя канчаткі, напрыклад: *1* | *-е*; *5* | *-га*; *10* | *-му.*

**§ 153.** Пры пераносе нельга разбіваць умоўныя графічныя скарачэнні тыпу *і г. д., і інш., г. зн., т-ва.*

**§ 154.** Нельга пераносіць у новы радок знакі прыпынку, калі слова, пасля якога яны павінны стаяць, застаецца ў папярэднім радку. Выключэнне складае працяжнік, які, стоячы пасля кропкі ці двукроп'я перад другой часткай перарванай простай мовы, можа пераносіцца ў новы радок.

**§ 155.** Дужка і двукоссе ў канцы папярэдняга радка без тэксту не пакідаюцца.

---

## КРОПКА

**§ 156.** Кропка ставіцца ў канцы закончанага апавядальнага сказа, як поўнага, так і няпоўнага, напрыклад:

> Вечар быў цёмны і ціхі. Побач чыгункі стаяў высокі стары лес, таемны, пануры і важны. На станцыі шумеў паравоз таварнага цягніка, шумеў ціха і роўна, як бы баючыся парушыць спакой гэтага лесу.
>
> *Колас*
>
> Па рэйках тых бягуць цягнікі. Бягуць і днём і ноччу.
>
> *Лынькоў*

З а ў в а г а. Пасля сказаў, якія з'яўляюцца загалоўкамі, кропка не ставіцца. Калі ж загаловак складаецца з двух або некалькіх сказаў, то кропка апускаецца толькі пасля апошняга.

**§ 157.** Кропка ставіцца з мэтай надаць думцы большую выразнасць пасля кароткіх сказаў, пры дапамозе якіх падаецца адзіная цэласная карціна або хуткая змена падзей, напрыклад:

> Звечарэла. Свецяць зоркі. Над райцэнтрам цішыня.
>
> *Бялевіч*
>
> Ачысцілася ад снегу зямля, прашумелі ручаі і рэкі ды ізноў увайшлі ў свае берагі. Новай, пахучай траўкаю зазелянелі дарогі і сцежкі ў полі. Памаладзелі гаі і лясы. Тысячы рознагалосых птушак напоўнілі паветра свістам, шчэбетам і цэлымі мелодыямі. Вакол гаманіла адноўленае, маладое жыццё.
>
> *Колас*
>
> Натоўп не слухае. Хвалюецца. Гудзе. Трасе барадамі, цыгаркамі, шапкамі.
>
> *Скрыган*

**§ 158.** Кропка ставіцца перад злучнікамі ***і***, ***ды***, ***а***, ***але***, ***толькі, аднак*** і пад., калі яны не звязваюць у адно цэлае сказы, а пачынаюць сабой самастойны сказ, напрыклад:

> Лён быў дагледжаны, падкормлены. А тут і цёплыя дні надышлі. І закучаравіўся, пайшоў лён у рост.
>
> *Бялевіч*
>
> Лабановіч борздзенька кінуўся да форткі. Але там было ўсё ціха.
>
> *Колас*
>
> Навокал было ціха. Толькі журчаў ручай, і зноў свой голас спрабаваў салавей.
>
> *Самуйлёнак*

**§ 159.** Кропка ставіцца ў канцы рубрык пералічэння (у тым ліку і за двукроп'ем), калі рубрыкі гэтыя дастаткова развітыя і

асабліва калі яны з'яўляюцца самастойнымі сказамі і маюць свае якія-небудзь знакі прыпынку, напрыклад:

У пастанове былі запісаны чатыры пункты:

1. Арганізаваць саюз настаўнікаў на падставе пастановы сходу ад 9 ліпеня 1906 г.

2. Саюз ставіць сабе асноўнай мэтай—весці барацьбу з самадзяржаўным ладам шляхам прапаганды ідэй рэвалюцыі сярод насельніцтва і распаўсюджання рэвалюцыйнай літаратуры. Кожнаму члену арганізаванага настаўніцкага саюза ставіцца ў абавязак — стварэнне на месцах рэвалюцыйных ячэек з мэтай прыцягнення найбольшай колькасці членаў у саюз настаўнікаў.

3. Арганізаванаму настаўніцкаму саюзу далучыцца да Усерасійскага саюза настаўнікаў і ўвайсці з ім у цесныя зносіны.

4. Для вядзення спраў саюза выбіраецца бюро ў складзе 3 асоб: Садовіча, Райскага і Тукалы.

*Колас*

**§ 160.** Кропка ставіцца пасля сказа, за якім ідзе разгорнутае апісанне або разважанне, напрыклад:

— Вось што я табе скажу, Надзя. Ты сама разумееш, што не абавязкова табе расказваць ёй аб усім, што ты ведаеш, што ты бачыла. Мы з табой людзі не маленькія, ведаем, што можна і што не можна. Адно, што скажу табе, няхай яна не ўхіляецца ад сваёй службы. І трэба ёй сказаць, каб не слухала яна, не паддавалася на ўгаворы розных людзей на якія-небудзь там незвычайныя справы.

*Лынькоў*

**§ 161.** Кропка ставіцца пасля ўмоўных графічных скарачэнняў (акрамя стандартных скарочаных абазначэнняў метрычных мер—гл. § 142, заўвага), напрыклад: *г. Мінск; в. Лебядзінец Мінскай вобл. Беларускай ССР.*

Заўвага. Калі ўмоўным графічным скарачэннем канчаецца сказ, то ў канцы сказа другая кропка не ставіцца, напрыклад:

Трэба, каб у цэху плённа працавалі агіткалектыў, групы лектараў і дакладчыкаў, рэгулярна выпускалася газета, у якой адлюстроўваліся б розныя пытанні жыцця і працоўнай дзейнасці калектыву і г. д.

*«Звязда»*

**§ 162.** Кропка ставіцца ў спасылках (у тым ліку і ў падрадковых) пры ўказанні на прыналежнасць цытаты пасля прозвішча аўтара, калі ўслед за ім ідзе назва твора або працы гэтага аўтара, а таксама пасля назвы працы, напрыклад:

Дунін-Марцінкевіч быў першы ў беларускай літаратуры пачатку другой паловы XIX стагоддзя, хто ўзяў на сябе цяжкую і складаную працу перакладу на беларускую мову выдатнай паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (С. Майхровіч. В. І. Дунін-Марцінкевіч. ДВБ, Мінск, 1955, стар. 194).

Пара ўжо камуністам перад усім светам адкрыта выкласці свае погляды, свае мэты, свае імкненні і казкам аб здані камунізма проціпаставіць маніфест самой партыі (К. Маркс і Ф. Энгельс. Маніфест камуністычнай партыі. Выбраныя творы ў двух тамах, т. І. ДВБ, Мінск, 1951, стар. 8).

Васілій Цяпінскі быў не толькі пісьменнікам, але і выдаўцом (У. Н. Перцаў, акадэмік АН БССР. Гістарычная думка ў Беларусі ў XVI—XVII стагоддзях. «Весці Акадэміі навук БССР», серыя грамадскіх навук. № 4. Выд. АН БССР, Мінск, 1956, стар. 11).



# КОСКА

## А. КОСКА Ў ПРОСТЫМ СКАЗЕ

### І. Коска паміж аднароднымі членамі сказа

**§ 163.** Коскай аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія не звязаны паміж сабою злучнікамі, напрыклад:

Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы.

*Купала*

Дыхнула з далёкіх прастораў знаёмым ветрам, смехам, раздоллем Волгі.

*Пестрак*

Слупы мільгаюць верставыя, дарожкі, сцежачкі крывыя.

*Колас*

Бягуць ручаі па разорах размытых, выгладжваюць жоўты пясок.

*Колас*

Хвалі беглі на бераг, злізвалі прыбярэжную пену, усплёскамі кідаліся на жоўты пясок, стамлёна скочваліся назад ды вялі свае шэпты з асакой.

*Лынькоў*

Насустрач імчаліся пералескі, палі з цёмна-зялёным бульбянікам, залацістаю лаваю аўса, з чырвоным самаходным камбайнам.

*Паслядовіч*

Конь выцягнуў воз на цвярдзейшую дарогу і пайшоў раўней, не спыняючыся.

*Крапіва*

Заўвага 1. Два або некалькі прыметнікаў, якія дапасуюцца да аднаго і таго ж слова і якія не звязаны паміж сабою злучнікамі, з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа толькі ў тым выпадку, калі кожны з гэтых прыметнікаў адносіцца непасрэдна да азначаемага слова, характарызуючы яго з аднаго якога-небудзь боку, напрыклад:

Мяккія, ласкавыя гукі стройным сугалоссем паліліся па пакоі.

*Колас*

Вецер стаў парывістым, вострым.

*Пестрак*

Дарогай вольнай, зорнаю, шырокаю, прасторнаю ідзе вясёлы май.

*Колас*

Цяпер вербы выглядалі нелюдзімымі, здзічэлымі, халодна-непрыветлівымі.

*Пестрак*

Той дзень быў ціхі, хмурны, сухі і цёплы. Стаяў верасень месяц.

*Чорны*

Высокі, круты бераг ракі зарос хмызняком.

Але прыметнікі не з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа і не аддзяляюцца коскамі тады, калі папярэдні прыметнік адносіцца да ўсяго наступнага словазлучэння, а не непасрэдна да азначаемага слова, напрыклад:

Была ціхая ліпнёвая раніца.

*Трус*

Вісіць снежная лютая ноч над пушчай кашлатай.

*Бядуля*

Насталі кароткія туманныя асеннія дні.

*Колас*

З узгорка далёка відаць было жоўтае пескавое палатно шасэ...

*Крапіва*

Заўвага 2. Не з'яўляюцца аднароднымі членамі сказа і не аддзяляюцца коскай два аднолькавыя па форме дзеясловы, якія стаяць побач, утвараючы ў сэнсавых адносінах адно цэлае, напрыклад:

Пайду вазьму. Схаджу пагляджу. Пайсці даведацца. Вазьмі аднясі. Сядзем памяркуем. Устань паглядзі.

**§ 164.** Коскай аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія звязваюцца паміж сабою злучнікамі ***а***, ***але***, ***ды*** (у значэнні «але»), ***хоць***, ***аднак***, ***толькі*** і пад., напрыклад:

Смерць героя не прыгнятае жывых, а кліча да новых перамог.

*Крапіва*

Крыху спозненая, але дружная вясна набірала ўсё болей і болей жыватворнай сілы.

*Колас*

Быў дуб, ды сваё адшумеў.

*Брыль*

І дзядзька быў рыбак выдатны, хоць больш урыўкавы, прыватны...

*Колас*

Яго не затрымлівалі, хоць з далікатнасці папрасілі заходзіць.

*Колас*

Ён пахіснуўся ўбок, аднак моцна адзержаўся на нагах.

*Чорны*

**§ 165.** Коскай аддзяляюцца парныя аднародныя члены сказа, якія звязваюцца пры дапамозе злучнікаў ***як—так і***, ***не толькі—але (і)***, ***не столькі—колькі***, ***калі не—то***, ***хоць—але (а)*** і пад. (коска ў такіх выпадках перад ***як***, ***не толькі***, ***не столькі***, ***калі не***, ***хоць*** і пад. не ставіцца), напрыклад:

Горад шумеў як дзень, так і ноч тысячамі галасоў.

*Колас*

Лабановіч як сядзеў на канапцы, так і застаўся сядзець.

*Колас*

Званне гвардзейца не толькі чэсць, але і абавязак.

*Мележ*

Хоць малады, але, відаць, бывалы.

*Танк*

**§ 166.** Коскай аддзяляюцца аднародныя члены сказа, якія звязваюцца пры дапамозе паўторных злучнікаў ***і ... і***, ***ды... ды***, ***то ... то***, ***ні ... ні***, ***не то ... не то***, ***ці ... ці***, ***ці то ... ці то***, ***або (альбо) ... або (альбо)*** і пад., напрыклад:

І сэрцы, і воля, і думы народа злучыліся ў плыні адной...

*Колас*

Адзін толькі штаб, ды разведка, ды Толя Клімёнак ведаюць пра новую блакаду...

*Брыль*

Касцы ідуць то грамадою, то шнурам цягнуць, чарадою, то паасобку, то па пары.

*Колас*

Дарога то ўзбягала на высокія ўзгоркі, то спускалася ў шырокія лагчыны са стракатым статкам кароў на яшчэ росным дыване пашы.

*Паслядовіч*

Ні далеч, ні час не заслоняць мне родных бароў.

*Колас*

Чалавек не то спяваў, не то гаварыў сам з сабой.

*Лынькоў*



Нібы нехта кідаў у чорныя прасцягі ночы прыглушаныя словы ці то просьбы, ці то адчаю, ці то гарачага заклiку да расправы, да помсты.

*Лынькоў*

Ну, альбо ідзі, альбо з дарогі саступі.

*Крапіва*

Заўвага 1. Калі паўторныя ***і, ні, то*** звязваюць два аднародныя члены сказа з антанімічнымі значэннямі, якія ўтвараюць адзін цэлы выраз, то яны адзін ад другога коскай не аддзяляюцца, напрыклад:

і днём і ноччу, і смех і слёзы, і смех і грэх, і смех і гора, і скокам і бокам, і сяк і так, і радасць і слёзы, і такі і гэтакі;

ні так ні гэтак, ні сёе ні тое, ні з сяго ні з таго, ні ўзад ні ўперад, ні жывы ні мёртвы, ні даць ні ўзяць, ні адтуль ні адсюль, ні стаць ні сесці, ні села ні пала, ні складу ні ладу, ні праехаць ні прайсці, ні рыба ні мяса, ні к сялу ні к гораду;

то скокам то бокам, то сюды то туды, то ўзад то ўперад, то сёе то тое, то сяк то так.

Заўвага 2. Не аддзяляюцца коскай таксама два аднародныя члены сказа, якія звязваюцца паўторнымі злучнікамі, і ў тых выпадках, калі яны ў сэнсавых адносінах утвараюць цеснае адзінства (такія аднародныя члены сказа не маюць звычайна пры сабе паяснялъных слоў). Напрыклад:

Па свеце і ўдоўжкі і ўшыр шчаслівая слава пайшла.

*Купала*

І дзень і два яны ў дарозе...

*Колас*

Вітаю цябе я і соллю і хлебам!

*Купала*

І швец і жнец і на дудзе ігрэц.

**§ 167.** Коскай аддзяляюцца адзін ад другога ўсе аднародныя члены сказа і ў тых выпадках, калі толькі частка іх мае перад сабою паўторныя злучнікі, напрыклад:

Дзень іграе на жалейцы, на трубе, і на ражку, і на сінім трыснiку.

*Танк*

Жыццё чулася ў траве, у гаёчку, і лясочку, на палях, і на лугах, і ў зялёненькім лужочку, і ў крынічных берагах.

*Колас*

**§ 168.** Коскай аддзяляюцца парныя групы, на якія могуць распадацца аднародныя члены сказа (у сярэдзіне такіх пар коска не ставіцца), напрыклад:

Сосны і вязы, дубы і асіны вокала возера вартай пасталі.

*Купала*

Зямлю парэзалі вузкія сялянскія дарогі і чорныя сцежкі, рэкі і азёры, лагчыны і балоты, лясы і горы.

*Колас*

І вось пачалося змаганне дабра і спрадвечнага зла, світальнай зары і змяркання, пякельнай начы і святла.

*Танк*

Радавыя калгаснікі і настаўнікі, трактарысты і аграномы, рабочыя і партыйныя работнікі Савецкай Беларусі дзень і ноч не давалі спакою чужаземным захопнікам.

*Паслядовіч*

## II. Коска паміж словамі, якія паўтараюцца

**§ 169.** Коскай аддзяляюцца аднолькавыя словы, якія не звязаны паміж сабою злучнікамі, калі яны паўтараюцца для абазначэння працягласці дзеяння, для абазначэння значнай колькасці асоб, прадметаў, з'яў, для ўзмацнення ступені якасці, а таксама падмацавання просьбы, адказу, згоды і г. д., напрыклад:

Плыве, плыве за хмарай хмара...

*Трус*

Але пара, пара ў дарогу...

*Колас*

А над гаем, гаем патанулі гусі, а над борам, борам узвіліся зноў.

*Трус*

...З абгарэлай ігрушы пасыпалася сухое лісце і ціха, ціха кружылася, ападаючы ўніз.

*Лынькоў*

Хутчэй, хутчэй!—камандаваў Сёмка-матрос.

*Лынькоў*

Аб напісанні злучка пры словах, якія паўтараюцца, гл. § 93.

Заўвага 1. Не аддзяляюцца коскай два аднолькавыя словы (у адной і той жа або ў блізкіх формах), з якіх наступнае слова ўжываецца з адмоўем ***не,*** калі спалучэнне такіх слоў утварае ў сэнсавых адносінах адзінае паняцце або пры дапамозе яго выказваецца няпэўнасць ці хістанні пры азначэнні чаго-небудзь, напрыклад:

а) У адной і той жа форме — *было не было; хочаш не хочаш; купіў не купіў; дрэва не дрэва; і ён не ён; я не я і хата не мая.*

Усё, што ёсць на свеце самае крыважэрнае, самае подлае, самае агіднае і смуроднае, сабралася тут у адно месца, перамяшалася, і выйшаў звер не звер, гад не гад, а нешта дагэтуль нябачанае і нячутае, пад назвай Цмок.

*Крапіва*

б) У блізкіх формах — *насіць не перанасіць; вазіць не перавазіць; прасіць не дапрасіцца; чакаць не дачакацца; капаць не дакапацца.*

Заўвага 2. Не аддзяляюцца коскай два аднолькавыя словы ў адной і той жа форме, калі наступнае слова ўжываецца з часціцай ***дык*** і паўтараецца для ўзмацнення ступені якасці, напрыклад:

падскочыў дык падскочыў; закінуў дык закінуў; страсянуў дык страсянуў; лівень дык лівень; вецер дык вецер; паводка дык паводка.

А гэту здало дык здало... І, скажы ты, ведае ўсё.

*Крапіва*

...Вось там рыбы дык рыбы!

*Колас*

Заўвага 3. Не аддзяляюцца таксама коскай аднолькавыя словы ў адной і той жа форме, якія паўтараюцца для ўзмацнення ступені якасці, калі яны звязваюцца паўторнымі злучнікамі, напрыклад:

Усё гусцей і гусцей і гусцей сее слёзы туман на палі.

*Трус*

## III. Коскі пры параўнальных зваротах

**§ 170.** Коскамі выдзяляюцца параўнальныя звароты, якія пачынаюцца злучнікамі ***як, бы, як бы, нібы, нібыта,***



***быццам, як быццам, што, які, чым, тым*** і пад., напрыклад:

Мы па сігналу ваеннай трывогі ўсе, як адзін, уставалі на бой.

*Глебка*

Недзе надрыўна і цягуча, як сірэна, гулі машыны.

*Мележ*

Сход быў не меней людны, як у той раз.

*Колас*

Як рух вечнасці, роўна і няспынна гойдалася ў вадзе багавінне.

*Чорны*

І хвоі-суседкі, і смутныя елкі, бы ўдовы, стаўпіліся тут...

*Колас*

І вось дзесь далёка, нібы пад зямлёю, глухія загухкалі громы.

*Колас*

Быццам белыя коні, уздыбіліся гурбы.

*Бядуля*

Гэта вулачка таксама выводзіла на палеткавы гасцінец, як і тая дарожка...

*Гартны*

Сад быў скалечаны не менш, чым хвойнік.

*Шамякін*

У зваротах ***не хто іншы, як*** і ***не што іншае, як*** коска ставіцца толькі перад ***як***, напрыклад:

Прыйшоў не хто іншы, як наш сусед.

Гэта не што іншае, як цяга да тае самае стыхіі, у якой жылі іх даўнейшыя продкі.

*Крапіва*

Заўвага 1. Не выдзяляюцца коскамі параўнальныя звароты, якія сталі ўстойлівымі словазлучэннямі, напрыклад:

Ляці, мая песня, ляці і спявай, суседа акына як след прывітай!

*Купала*

«Ён сюды не можа прыехаць», — угаварвала Колю Вера Мікалаеўна, стараючыся гаварыць як мага спакайней.

*Крапіва*

Дружба сапраўдная пачынаецца тады, калі людзі як мае быць ведаюць адзін аднаго.

*Чорны*

Пабялеў як палатно. Расце як на дражджах.

Заўвага 2. Не з'яўляюцца параўнальнымі зваротамі і адпаведна не выдзяляюцца коскамі іменныя часткі састаўных выказнікаў, якія далучаюцца пры дапамозе злучнікаў ***як, як бы, нібы, быццам, як быццам*** і пад., напрыклад:

Ён для нас як родны сын.

Хата як хата. І што б там, здавалася, у ёй асаблівага.

*Няхай*

Заўвага 3. Коска не ставіцца перад ***як*** і ***чым*** у зваротах ***(не) больш як, (не) больш чым, (не) раней як*** і пад., калі яны ўжываюцца не пры параўнанні, напрыклад:

...Не больш як у ста кроках ад яго, нібы з зямлі, выраслі тры цені.

*Колас*

Хлапчуку было не больш чым гадоў пяць.

Сход працягваўся менш чым пяць хвілін.

## IV. Коска пры зваротах, выражаных азначэннямі

### Азначэнні, выражаныя дзеепрыметнікамі і прыметнікамі

§ 171. Коскамі выдзяляюцца:

1. Дзеепрыметнікі і прыметнікі, якія маюць пры сабе паясняльныя словы і стаяць пасля азначаемага назоўніка, напрыклад:

Між імён, праслаўленых на свет, былі імёны нашых блізкіх і знаёмых.

*Глебка*

... Над стрэхамі будынкаў высока ўзнімаліся вязы, ліпы і клёны, абсыпаныя золатам восені.

*Колас*

Часам з-пад самых ног выпырхвала і слепа кідалася ўбок якая-небудзь птушка, нязвыклая да начнога палёту.

*Лынькоў*

Юрка глядзеў на чорную раллю за паплавамі, гладкую і не ўкрытую яшчэ першымі ўсходамі жыта...

*Чорны*

Сярод гэтых купін бліскучымі стужкамі павіваліся часамі палоскі вады, чыстыя, гладкія, як шліфаванае шкло.

*Колас*

Ледзь-ледзь далятала жураўліная песня і, праглынутая ноччу, вятрамі, непрыкметна зліваласся з шолахам лісця...

*Лынькоў*

2. Дзеепрыметнікі і прыметнікі без паясняльных слоў, калі яны пастаўлены пасля азначаемага назоўніка з мэтай надання ім больш самастойнага значэння, асабліва ў тых выпадках, калі перад азначаемым назоўнікам ужо ёсць паясняльнае слова, напрыклад:

Бровы, чорныя і густыя, зрасліся над вачыма ў адну аксамітную стужку.

*Бядуля*

А пад поўнач пасыпаў сняжок, заложны, спорны, густы і сухі.

*Колас*

Яго голас, нізкі і глухаваты, зразу шмат каму не спадабаўся.

*Крапіва*

А ўверсе гнаў вецер цэлыя шэрагі хмар, цяжкіх і чорных, якімі павялічваў змрок халоднай ночы.

*Чорны*

Карункавыя лісты папараці, зялёныя, сакавітыя, слаліся над травою.

*Пестрак*

На ўсходзе ярка разгаралася світальная зара. Яна ахапіла ўжо сваім полымем увесь небакрай, чысты, ясны, крамяны.

*Якімовіч*

3. Дзеепрыметнікі і прыметнікі як з паясняльнымі словамі, так і без іх, калі яны пастаўлены перад азначаемым назоўнікам і ўжываюцца ў ролі азначэння з адценнем акалічнасці, напрыклад:

Акружаная з усіх бакоў вадою, вярба ўдавою выглядала.

*Колас*

... Несутрымны ў сваім адвечным бегу, Дняпро быў падобен на цёмна-блакітную стужку на зялёнай коўдры палеткаў і лугоў.

*Крайчанка*



Звычайна павольная, ціхая, Алена ў гэту трывожную хвіліну нібы перамянілася.

*Мележ*

Вясною, усыпаная белым цветам, груша ўпрыгожвала дзедаў двор.

*Колас*

4. Дзеепрыметнікі і прыметнікі як з паясняльнымі словамі, так і без іх, якія адносяцца да назоўніка (пераважна да дзейніка) і стаяць перад ім, але аддзяляюцца ад яго другімі членамі сказа, напрыклад:

Агорнутыя сіняватаю смугою, журботна пазіралі далечы ініклі ў святле жнівеньскага сонца.

*Колас*

Мокрая і прыціснутая асеннім холадам, цяпер гэта раслінасць усё яшчэ гусцілася і ўпарта зелянелася.

*Чорны*

На покуці, упрыгожаная каляровымі цацкамі, стаяла навагодняя ёлка.

*Крайчанка*

5. Дзеепрыметнікі і прыметнікі як з паясняльнымі словамі, так і без іх, калі яны адносяцца да асабовых займеннікаў, напрыклад:

Шыракаплечы і моцны, ён рабіў ураджанне спакойнага чалавека.

*Колас*

Схуднелы, непаголены, ён стомлена плюшчыў вочы пад доўгім казырком кепкі.

*Пестрак*

Вось і стрэліся сягоння мы, здаровыя ўсе.

*Броўка*

Ён пераносіў іх, сонных, на ложак, сам распранаў.

*Лынькоў*

### Азначэнні, выражаныя назоўнікамі

§ 172. Коскамі выдзяляюцца:

1. Назоўнікі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і, радзей, без прыназоўнікаў, калі гэтым назоўнікам надаецца большая самастойнасць, чым звычайна, напрыклад:

У кароткім кажушку, са стрэльбай за плячыма, ён абходзіць калгасны табун.

*Бядуля*

На ганак падымаецца чалавек, у скураной тужурцы, з даўно не голенай барадой.

*Скрыган*

Пасля дзеда Талаша выступіў чалавек, з сякераю за поясам, немалады, сутулаваты, з даўно не брытым тварам.

*Колас*

А вепр быў ладны, пудоў на васемнаццаць.

*Колас*

2. Прыдаткі, якія адносяцца да асабовых займеннікаў, напрыклад:

Нам, пераможцам, дзівуецца свет.

*Купала*

І толькі ён, мароз заўзяты, мароз занадта зухаваты, адзін па лесе пахаджае...

*Колас*

Яны ўдваіх, сынок і маці, з двара ідуць у бок ракі...

*Колас*

3. Прыдаткі, якія адносяцца да назоўнікаў і не ўтвараюць з імі цеснага сэнсавага адзінства (аб працяжніку пры прыдатках гл. § 201 і параўн. ужыванне злучка пры ўтварэнні цеснага спалучэння), у тым ліку і далучаемыя пры дапамозе злучніка ***як*** (з дадатковым адценнем прычыннасці), напрыклад:

Плыве туман, бялявы іней, плыве і сцеле бель-пасцель.

*Трус*

Праменні, стрэлы залатыя, макушы лесу прабіваюць...

*Колас*

Думы, дзеці душы маёй, мне спакою не даюць.

*Бядуля*

Другая міска, міска-яма, апаражнялася таксама...

*Колас*

Міхал з Антосем, як старыя, займалі месцы канцавыя.

*Колас*

Заўвага. Не з'яўляюцца прыдаткамі, а таму і не аддзяляюцца коскай звароты, якія пачынаюцца з ***як*** і ўжываюцца ў значэнні «ў якасці», напрыклад:

Мы ведаем яго як чалавека працы.
Гэты факт я разглядаю як перасцярогу.

4. Прыдаткі да назоўнікаў або асабовых займеннікаў, якія адсутнічаюць, але падразумяваюцца ў даным сказе, напрыклад:

Дзе ж падзеўся той Сымон? Ці дзе ходзіць спазарання, непаседа-ветрагон?

*Колас*

(Прыдатак *непаседа-ветрагон* адносіцца да апушчанага слова *ён*, г. зн. *той Сымон*).

Дзед Піліп, здавалася, зарадаваўся, што прыехаў настаўнік. Ён прыветна засмяяўся і, як нейкаму даўно чаканаму госцю, шырока адчыніў дзверы.

*Колас*

(Прыдатак *як нейкаму даўно чаканаму госцю* адносіцца да апушчанага слова *яму*, г. зн. *настаўніку*).

5. Прыдаткі, якія з'яўляюцца імёнамі ўласнымі, калі перад імі можна без змены сэнсу словазлучэння ўставіць словы ***гэта значыць***, ***а іменна***, напрыклад:

Сын малы, Васілёк, кліча матку к сабе.

*Колас*

Ды ён, Коля, у дні Лютаўскай рэвалюцыі вінтоўку падаваў бацьку.

*Бядуля*

І той рыбак, Сымон Латушка, з вачэй знікае ў той жа час.

*Колас*

...На шырокім пляцы, што раздзяляў дзве вёскі, Выганы і Высокае, стаяла школа.

*Колас*

Заўвага. Аб ужыванні коскі пры азначэннях, выражаных назоўнікамі, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць сэнс папярэдніх ці наступных слоў, гл. § 175.

## V. Коска пры акалічнасных зваротах

### Акалічнасці, выражаныя дзеепрыслоўямі

**§ 173.** Коскамі выдзяляюцца дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты, калі яны абазначаюць актыўнае дадатковае дзеянне, напрыклад:



Чалавек пайшоў далей, размашыста ступаючы па мяккай пескавой вуліцы.

*Крапіва*

Атрад, прыбыўшы сюды на світанні, размясціўся ўздоўж чыгункі, на сушэйшым месцы.

*Пестрак*

Паддубны раздумваў, звесіўшы галаву, і глыбокія маршчыны ляглі над брывамі.

*Пестрак*

Разышоўшыся з Панасам, дзед Талаш павольна пасунуўся балотамі, прыслухоўваючыся да шолахаў і галасоў палескай начы.

*Колас*

Млын ад хаты аддзяляе грэбля, такая высокая, што, седзячы на прызбе, Толя бачыць толькі другі паверх млына ды шэры дах з драніцы...

*Брыль*

Усе пачалі разыходзіцца. Толькі дзед Астап сядзеў ля стала і, падпёршы рукамі галаву, аб нечым думаў.

*Трус*

Срэбнаю стужкаю вывіваўся Нёман, то падыходзячы пад самы лес, падразаючы карэнне дрэвам, то бегучы сярэдзінаю лугу, то падступаючы да поля, апяразваючы бліскучым жывым паскам яго пясчаныя схілы.

*Колас*

Хлопцы беглі без аглядкі, часта спатыкаючыся і падаючы.

*Самуйлёнак*

Ён вельмі хваляваўся,—некалькі хвілін стаяў, не рухаючыся, каб перавесці дух.

*Мележ*

...З трэскам валіліся дрэвы і, вухкаючы, са стогнам ударыліся аб зямлю.

*Пестрак*

Калі ж дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты непасрэдна прымыкаюць да выказніка, набліжаючыся па свайму значэнню да прыслоўяў, тады яны коскамі не выдзяляюцца. Такія дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты звычайна стаяць пасля выказніка. Напрыклад:

І позна ўвечары далінай спявалі жнеі ідучы.

*Трус*

Мы толькі першыя загаварылі аб гэтым не баючыся.

*Чорны*

Мікалай Патапавіч не спяшаючыся распрануўся.

*Кулакоўскі*

Аднак пры адваротным парадку слоў, калі дзеепрыслоўям і дзеепрыслоўным зваротам, якія хоць і цесна прымыкаюць да выказніка, надаецца асаблівае значэнне, то ў такіх выпадках як адзіночныя дзеепрыслоўі, так і дзеепрыслоўныя звароты выдзяляюцца коскамі, напрыклад:

Ён, кісет дастаўшы, закурыў і на тапчан каля стала, зморыўшыся, прысеў.

*Танк*

Заўвага 1. Дзеепрыслоўныя звароты, якія сталі ўстойлівымі словазлучэннямі, коскамі не выдзяляюцца, напрыклад:

Сядзець злажыўшы рукі. Робіць спусціўшы рукавы. Ідуць апусціўшы галовы.

З а ў в а г а 2. Коска не ставіцца паміж злучнікам *а* і дзеепрыслоўем або дзеепрыслоўным зваротам, калі пропуск дзеепрыслоўя ці дзеепрыслоўнага звароту патрабуе перабудовы ўсяго сказа, напрыклад:

Палессе — самабытны край, а пазнаёміўшыся з ім, яго нельга не палюбіць.

*Крайчанка*

**Акалічнасці, выражаныя назоўнікамі і неазначальнай формай дзеяслова**

**§ 174.** Коскамі выдзяляюцца:

1. Назоўнікі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі і, радзей, без прыназоўнікаў, якія маюць акалічнаснае (пераважна прычыннае, умоўнае і ўступальнае) значэнне, звычайна ў тых выпадках, калі такія назоўнікі маюць пры сабе паясняльныя словы і стаяць перад выказнікам, напрыклад:

У адрозненне ад суровага і цвёрдага бацькі, сын быў вельмі дабрадушным і згаворлівым.

Са з'яўленнем маленькай Марыі, уся ўвага маці і бабулі была аддадзена ёй.

*Бядуля*

Нягледзячы на познюю восень, палонных трымалі на дварэ, за агарожай з калючага дроту.

*Крапіва*

З а ў в а г а. Аб ужыванні коскі пры акалічнасцях, выражаных назоўнікамі, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць сэнс папярэдніх ці наступных слоў, гл. § 175.

2. Неазначальная форма дзеяслова з усімі словамі, якія да яе адносяцца, калі неазначальная форма дзеяслова далучаецца да выказніка пры дапамозе злучнікаў ***каб, для таго каб, з тым каб*** і пад., напрыклад:

На тое ён і лес, каб шумець.

*Крапіва*

Толькі для таго каб убачыць сына, трэба жыць.

*Шамякін*

Яны ўсталі рана, з тым каб на світанні рушыць у дарогу.

## VI. Коскі пры словах і словазлучэннях, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць другія словы ў сказе

**§ 175.** Коскамі выдзяляюцца словы і словазлучэнні, якія ўдакладняюць або абмяжоўваюць сэнс папярэдніх ці наступных слоў, далучаючыся да іх непасрэдна або пры дапамозе слоў ***у тым ліку***, ***апрача*** (***апроч***), ***акрамя***, ***амаль***, ***за выключэннем***, ***галоўным чынам***, ***па прозвішчу*** (***па мянушцы*** і пад.), ***гэта значыць***, ***або*** (у значэнні „гэта значыць"), ***інакш*** (***інакш***), ***асабліва***, ***нават***, ***напрыклад***, ***як напрыклад***, ***як***, ***у прыватнасці***, ***і ў прыватнасці***, ***і прытым***, ***і*** (у значэнні «і прытым») і пад., напрыклад:

Адтуль, з усходу, з яснай далі, чаканай веяла вясной.

*Колас*

Там, за лугам, дрэмле лясок баравы.

*Трус*

Наздрэйкі сядзелі на асобнай лаўцы спераду, злева.

*Крапіва*



Ціхай ранічкай, да сонца, хлопчык выбраўся з двара.

*Колас*

Тут, на гэтай чароўнай зямлі, нашы думы і годы прайшлі.

*Глебка*

З мужчын ніхто туды ніколі не хадзіў, адно некалькі кабет, у тым ліку і я.

*Чорны*

...На палях, апрача пшаніцы, рассцілаюцца цэлыя лясы сланечніку, палеткі кавуноў, дыняў, агуркоў, гарбузоў, памідораў.

*Пестрак*

Беражыся, Андрэйка. На свеце няма ў мяне больш нікога, апроч цябе.

*Скрыган*

Налева ад завода, амаль пры самым лесе, стаяў невялікі пасёлак...

*Пестрак*

Увесь гэты дзень, за выключэннем перапынку на снеданне і абед, быў прызначан агляду калгаснай гаспадаркі.

*Колас*

Вашамірскі апавядаў розныя прыгоды са свайго паляўнічага жыцця, галоўным чынам пра паляванне на мядзведзяў.

*Бядуля*

Думка ўсім спадабалася, асабліва жанчынам.

*Маўр*

Моладзь, асабліва дзяўчаты і ў тым ліку графіня, уважліва слухалі і часамі ўздыхалі.

*Колас*

Сядзелец, па фаміліі Кляп, выказваў усе адзнакі нецярплівасці такою маруднасцю пісара.

*Колас*

Гэта каморка, або «станцыя», як назваў яе Пракоп, паказалася яму верхам чалавечага дабрабыту.

*Колас*

Як толькі людзі ступалі пад арку брамы, дык усе яны, і пешыя і конныя, нават важныя чыноўнікі і акалодачныя, знімалі шапкі і капелюшы ды ішлі або ехалі павольным крокам.

*Колас*

Былі тут засуджаныя на катаргу, у высылку, у арыштанцкія роты, у крэпасць, як Лабановіч і яго сябры.

*Колас*

Многія нашы паэты, як напрыклад Якуб Колас, напісалі нямала і празаічных твораў.

## VII. Коскі пры пабочных словах, словазлучэннях і сказах. Коскі пры ўстаўных словазлучэннях і сказах

**§ 176.** Коскамі выдзяляюцца пабочныя словы, словазлучэнні і сказы, напрыклад:

Да мяне раптоўна, бачу, падыходзіць паштавік.

*Глебка*

У паветры было ціха, толькі звон летнікоў зліваўся ў адну доўгую-доўгую аднатонную песню, і, здавалася, прырода была закалыхана гэтым крыху сумным звонам.

*Колас*

Дзед Талаш не проста праваднік у Букрэевай разведцы. Папершае, ён сам паўнапраўны ваяка: ён мае «настаяшчую» ваенную стрэльбу і сорак пяць патронаў, па-другое, у яго ёсць свая каманда, цэлых восем чалавек сялян з Высокай Рудні.

*Колас*

Ён пачаў гаварыць спакойна і, на здзіўленне сабе, салідна.

*Пестрак*

Напішы мне, калі ласка, пісямко дахаты!

*Колас*

Настрой у людзей, заўважыў ён, быў трывожны, усіх непакоіла няўдача.

*Мележ*

У якасці пабочных слоў і словазлучэнняў часцей за ўсё ўжываюцца: *безумоўна, бывала, бясспрэчна, відавочна, відаць, дарэчы, здаецца, зразумела, калі ласка, карацей кажучы, між іншым, мне здаецца, можа, можа быць, наадварот, на думку, на жаль, напрыклад, на радасць, на шчасце, па-мойму, праўда, па-першае, па-другое* і пад., *разумеецца, само сабой разумеецца, такім чынам, ці паверыце, чаго добрага, як відаць, як кажуць.*

Заўвага 1. Ад пабочных слоў трэба адрозніваць акалічнасныя словы, якія адказваюць на пытанні як? якім чынам? калі? і пад., напрыклад:

1) Яму ўвесь час гавораць адно, а ён робіць *наадварот.*

Але:

— Ты не будзеш займацца?

— *Наадварот,* я прыйду і абавязкова буду займацца.

2) Гэтыя словы былі сказаны *між іншым.*

Але:

Я, *між іншым,* заўтра буду вольным.

Заўвага 2. Неабходна адрозніваць ужыванне адных і тых жа слоў і зваротаў то ў якасці пабочных, то ў якасці ўзмацняльных, напрыклад:

І сапраўды, дзед набіраўся вялікага гневу.

*Лынькоў*

(*сапраўды*—пабочнае слова).

Але:

Або ён выглядаў на многа маладзейшы сваіх год, або і сапраўды быў толькі ў першым сваім юнацтве.

*Чорны*

(*сапраўды*—узмацняльнае слова).

Каб не чорны бычок, то, напэўна, не было б і гэтай бяды.

*Колас*

(*напэўна*—пабочнае слова).

Але:

Гэта напэўна паможа.

*Бядуля*

(*напэўна*—узмацняльнае слова).

Заўвага 3. Калі *напрыклад, дапусцім, скажам* і пад. стаяць перад словамі ці групай слоў, якія ўдакладняюць папярэднія словы, то пасля іх не ставіцца ніякага знака прыпынку (гл. § 175). Аб пастаноўцы двукроп'я пасля *напрыклад* гл. § 194.

Заўвага 4. Злучнік ***а***, калі ён складае адно цэлае з наступным пабочным словам, не аддзяляецца ад апошняга коскай, напрыклад: *а значыцца, а між іншым* і пад.

Заўвага 5. Коскамі не выдзяляецца слова ***мо'*** (усечаная форма ад «можа»), напрыклад:

Вочы пазіраюць вакол, шукаюць удалі, мо' дзе высокай сцяною цямнее бор, мо' дзе ў зелені бялее бярэзнік...

*Бядуля*



§ 177. Коскамі могуць выдзяляцца неразвітыя ўстаўныя словазлучэнні і сказы (аб дужках пры ўстаўных словах, словазлучэннях і сказах гл. §§ 223 і 224), напрыклад:

Іван Пратасаў, родам з Яраслаўля, камандаваў тады партызанскай спецгрупай.

*Паслядовіч*

Яны коратка развіталіся, і Васіль Іванавіч Шэршань, так звалі Міронавага прыяцеля, не спяшаючыся рушыў з райкома.

*Лынькоў*

## VIII. Коскі пры звароту

§ 178. Коскамі выдзяляюцца звароткі разам з усімі словамі, якія адносяцца да іх (аб клічніку пры звaротках гл. § 218), напрыклад:

Ты была для мяне песняй казак-надзей, маці, маці мая дарагая!

*Трус*

Табе, Каўказ, чароўныя паданні складалі дні глыбокай старыны.

*Трус*

Дарагія узмежкі, мае родныя сцежкі, яшчэ болей вас сёння люблю.

*Русак*

Вышэй узвівайся, наш сцяг баявы!

*Колас*

## IX. Коскі пры выклічніку

§ 179. Коскамі аддзяляюцца выклічнікі ***гэй***, ***ах***, ***о***, ***ох***, ***э***, ***эх***, ***ну*** і пад. (аб клічніку пры выклічніках гл. § 218), напрыклад:

Гэй, наперад, бедната!

*Трус*

Ах, дружа-клён! Ну як яго не ўспомніць?..

*Трус*

О, ён працярэбіць сабе дарогу!

*Колас*

Ох, нашто ж ты, ночка, так прыгожа-міла?

*Колас*

Э, брат, не туды папаў ты, галубчык Мацейка!

*Колас*

Эх, як слаўна, як прыгожа, хораша, прыстойна!

*Колас*

Ну, зіма, збірай манаткі, годзе нас табе ўшчуваць!

*Колас*

Ну, паганяй, ужо нямнога...

*Трус*

Заўвага 1. Не з'яўляюцца выклічнікамі і, значыць, не аддзяляюцца коскамі часціцы: ***о***, якая ўжываецца пры звароту; ***ой, ну, ах, ох*** і пад., якія ўжываюцца для выражэння ўзмацняльнага адцення, напрыклад:

О мой родны край! Хмурна пазіраеш ты з сіняга туману, што лёг на краях палёў, дзе неба, спусціўшыся нізка, абнімаецца з беднаю зямлёю.

*Колас*

Ой ты, поле! Як прыгожа ты ў калгаснай світцы!

*Колас*

Ой ты, ночка, чарнявая ноч, агарні цеплынёю мяне...

*Панчанка*

Ну і пісар жа з цябе!

*Колас*

Заўвага 2. Часціца ***ну*** выдзяляецца коскамі, калі яна ўжываецца пры перапынку, замінцы ў перадачы думкі, напрыклад:

Проста, ну, сімпатызуюць адзін другому маладыя, хіба ж ім і не пагаварыць, хіба ж ім і не пасмяяцца.

*Лынькоў*

Пры больш значным прыпынку ў перадачы думкі пасля часціцы ***ну*** можа ставіцца шматкроп'е.

Заўвага 3. Слова ***ой***, якое не з'яўляецца выклічнікам, а ўжываецца як традыцыйны зачын у народных песнях, выдзяляецца коскамі, напрыклад:

А хто ж, хто сасонку
Напаіў вадзіцай?
Ой, паілі яе сытна
Росы і крыніцы.

*Купала*

### X. Коскі пасля сцвярджальных, адмоўных і пытальных слоў

§ 180. Коскай аддзяляюцца сцвярджальныя словы ***так***, ***але***, ***добра*** і пад., адмоўнае слова ***не***, пытальнае слова ***што*** і словы ***што ж***, (***а***) ***як жа***, якія абазначаюць згоду, пацвярджэнне і пад., калі ўсе гэтыя словы цесна звязваюцца з наступным сказам, які раскрывае іх канкрэтны сэнс, напрыклад:

«Прыдзецца нам каму-небудзь паехаць туды». — «Так, трэба паехаць».

*Крапіва*

Так, так, пані гаспадыня. Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

*Купала*

Але, але, яго маці і мне паказвала ліст, у якім ён піша, што няйначай мусіць прыехаць на свята...

*Гартны*

Не, няпраўда! Быць не можа, каб не грэла цёпла сонца.

*Колас*

Не, не такою я хацеў сустрэць цябе, сястра!

*Скрыган*

## Б. КОСКА Ў СКЛАДАНЫМ СКАЗЕ

### XI. Коска паміж незалежнымі сказамі, якія аб'яднаны ў адзін складаны, і паміж даданымі, якія адносяцца да аднаго галоўнага

§ 181. Коскай аддзяляюцца сказы, якія аб'яднаны ў адзін складаны сказ пры дапамозе паўторных злучнікаў ***і ... і***, ***то ... то***, ***ні ... ні***, ***не то ... не то***, ***ці ... ці***, ***ці то ... ці то***, ***або*** (***альбо***) ... ***або*** (***альбо***) і пад., напрыклад:

І коні ржалі, і людзі крычалі, і вылі ваўкі ў лесе...

*Куляшоў*

...І хлынулі на вочы ліўні зорныя, і гром напоўніў музыкай мой слых.

*Танк*

То вецер гудзе, то шуміць сухавей, то лес гойдаюць злыя віхуры.

*Бядуля*



Ні колас на ніве не ўскалыхнецца, ні ліст на дрэве не ўзварухнецца.

*Колас*

Ці я адзін, ці я на людзях, а з імі ў думках я жыву.

*Колас*

Або іх тут не было, або яны проста не адважваліся падаваць голасу.

*Колас*

§ 182. Коскай аддзяляюцца сказы, якія аб'яднаны ў адзін складаны сказ пры дапамозе злучнікаў ***і***, ***ды*** (у значэнні «і»), ***дый***, ***або*** (***альбо***), ***ці***, а таксама злучнікаў ***а*** і ***ды*** (у значэнні «але»), напрыклад:

Праходзіць ноч, і меркнуць зоры.

*Колас*

Дзедаў твар засвяціўся надзеяй, і ён з глыбокай падзячнасцю зірнуў на незнаёмага маладога чалавека.

*Колас*

Стукаюць спрытна малаткі, ды раз-пораз пераліваюцца косы срэбным шорхатам мянташак.

*Лынькоў*

Я сеў на каня, дый аж пыл закурэў.

*Багушэвіч*

Мартын астаўся ў хмызняку, а дзед Талаш знік з вачэй, расплыўся ў цемрадзі.

*Колас*

Гарыць агонь, а пры агні гатуецца вячэра...

*Танк*

Локцям рабілася свежа ад зямлі, ды Толя гэтага не заўважаў.

*Брыль*

Аб ужыванні перад гэтымі злучнікамі кропкі і кропкі з коскай гл. §§ 158 і 189, п. 2.

Заўвага. Коска перад злучнікамі ***і***, ***ды*** (у значэнні «і»), ***ці***, ***або*** (***альбо***) не ставіцца ў тым выпадку, калі сказы, якія яны злучаюць, маюць агульны даданы член або агульны даданы сказ.

Наяўнасць агульнага даданага члена ці агульнага даданага сказа цесна звязвае такія сказы ў адно цэлае, напрыклад:

На беларускім Палессі цякуць поўныя рэкі і густа стаяць лясы.

*Чорны*

У глыбі кватэры зараз жа грукнула крэсла і пачуліся крокі.

*Колас*

На тым месцы валялася бітае каменне ды дзе-нідзе тырчалі асмаленыя камлі дрэў.

*Мележ*

Дзесьці птушка заскуголіць ды пераклікнуцца драчы.

*Колас*

Прытым ён так даверліва ставіўся да новага свайго спадарожніка і так яго ўся істота прасілася пад яго апеку, што, здавалася, быццам яны знаёмыя ўжо шмат год.

*Чорны*

§ 183. Коскай аддзяляюцца незалежныя сказы, якія аб'яднаны ў адзін складаны сказ без злучнікаў або пры дапамозе злучнікаў ***але***, ***аднак***, ***усё ж***, ***ж*** (***жа***), ***толькі***, ***тым не менш***, толькі ў тых выпадках, калі такія сказы ў сэнсавых адносінах цесна звязаны паміж сабою, напрыклад:

Лес гудзе, дрыжаць галіны, стогне бор хваёвы...

*Колас*

Звоняць рэчкі з ручаямі, расшумеліся дубровы, над палямі, над барамі кліч праносіцца вясновы.

*Броўка*

Сонца яшчэ не зайшло, але яго вялізны чырвоны круг ужо апускаўся на паверхню зямлі.

*Колас*

Качак пакуль што няма, аднак яны могуць быць.

*Брыль*

...Сцёпка даўно ўжо чакаў адказу на свой ліст. Але час праходзіў, Алёнка ж упарта маўчала.

*Колас*

Дзеці леглі даўно, толькі маці не спіць.

*Колас*

Аб ужыванні кропкі і кропкі з коскай перад гэтымі злучнікамі гл. §§ 158 і 189, п. 1.

**§ 184.** Коскай раздзяляюцца даданыя сказы, якія адносяцца да аднаго галоўнага або да групы галоўных сказаў, напрыклад:

Моцныя людзі камуністы, бо яны камуністы, бо яны павінны перамагчы стары свет. І яны перамогуць!

*Пестрак*

Не гасіце агнёў, пакуль ноч не міне, пакуль сонца зямлі не сагрэе...

*Гурло*

І не заўважыў з нас ніхто, як ноч вясенняя мінула, як струны вуліц і мастоў штодзённым наліліся гулам.

*Танк*

І было крэпка ваша раме, і не стамлялася рука, бо Ленін быў заўсёды з вамі, быў з вамі гарт бальшавіка.

*Колас*

Калі ж такія даданыя сказы звязваюцца пры дапамозе адзіночных злучнікаў ***і, ды*** (у значэнні «і»), то паміж імі знакі прыпынку не ставяцца, напрыклад:

Каб не заблытаўся жораў і каб не збіліся гусі, восенню выткалі зоры шлях па маёй Беларусі.

*Астрэйка*

Ды Сымонка з-за трывогі ночкі жудаснай не чуў, што балелі яму ногі і што голад яго гнуў.

*Колас*

Цяпер чуваць ужо, як звонка спяваюць птушкі і як многа кругом свята...

*Скрыган*

Незнаёмы не выказваў ніякай ахвоты даведацца, хто такі Пятро Міхалец і якія ён мае адносіны да дзяўчыны.

*Паслядовіч*

Пакуль дзетвара аббегала ўсе двары пасёлка і пакуль прыйшлі калгаснікі з наўкольных хутароў, у канцылярыі было сіне ад дыму, душна, цесна і стаяў несканчоны гоман.

*Самуйлёнак*

## XII. Коска паміж галоўным і даданымі сказамі

**§ 185.** Коска ставіцца паміж галоўным (ці групай галоўных) і даданымі сказамі, а ў тых выпадках, калі даданы сказ



стаіць у сярэдзіне галоўнага, ён выдзяляецца коскамі з двух бакоў, напрыклад:

Было ўжо за поўнач, калі Астап падыходзіў да свае хаты ў лесе.

*Лынькоў*

Мы помнім, што кроўю здабыта на працу вялікае права.

*Глебка*

Люблю пазіраць я на поле вясной, як ветрык жартліва плыве збажынной.

*Колас*

Як толькі падсохла сырая зямля, брыгада лён сеяць у поле пайшла.

*Танк*

Пакуль змеркне, кожны з нас стараўся ўправіцца з работаю.

*Чорны*

Калі наблізіліся да вёскі, на захадзе за лесам жахнула маланка і пачуліся першыя глухія раскаты грому.

*Пестрак*

Раніцаю, як толькі-толькі пачынала займацца на свет, усё войска рушыла ў паход.

*Колас*

Нават у самыя ціхія дні, калі і на адкрытых лугах не зварухнецца ні адна галінка, лісце асінніка няспынна дрыжыць і калоціцца.

*Паслядовіч*

Над ускрайкам лесу, дзе пачыналіся жоўтыя пяскі, зазвінела песня ляснога жаваранка.

*Колас*

Там, дзе вайна зялёны сад агнём смяротным апаліла, зноў маладых каштанаў шмат мы працавіта насадзілі.

*Танк*

На захадзе, дзе яшчэ трымалася ноч і неба было цёмнае, згасалі апошнія зоркі.

*Шамякін*

**§ 186.** Калі даданы сказ звязваецца з галоўным пры дапамозе састаўных падпарадкавальных злучнікаў (***перш чым, таму што, затым што, пасля таго як, для таго каб, па меры таго як, да таго часу пакуль, нягледзячы на тое што*** і пад.), то коска ставіцца:

1. Паміж даданым сказам і галоўным, калі такім злучнікам пачынаецца даданы сказ, напрыклад:

Перш чым ты прыйшоў да нас на разведку, мы ведалі ўсе твае сакрэты.

*Колас*

Для таго каб праца давала плённыя вынікі, трэба прывучаць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з маладых гадоў.

*Колас*

Па меры таго як неба святлела, цемра змянялася рэдкім лёгкім змрокам...

*Мележ*

Перад тым як адбіць гадзіны, гадзіннік колькі хвілін трашчаў, скрыпеў, як калодзежны журавель на марозе, і пасля такой прадмовы званіў прыемным металічным звонам.

*Колас*

Аднак у тых выпадках, калі неабходна асабліва падкрэсліць прычыну, мэту або час, аб якіх гаворыцца ў даданым

сказе, тады коска ставіцца і пасля першай часткі састаўнога падпарадкавальнага злучніка, напрыклад:

Нягледзячы на тое, што давялося несці на плячах тол і боепрыпасы, адстаючых не было.

*Мележ*

Па меры таго, як прыпыняўся дзе ў вёсцы Ельскі з сваім атрадам, прыпыняўся і Сцяпан.

*Пестрак*

2. Калі дадзены сказ стаіць пасля галоўнага, тады коска ставіцца адзін раз: або перад састаўным падпарадкавальным злучнікам, або перад яго другой часткай, напрыклад:

Расліны заняпалі тут таму, што панізіўся ўзровень вады ў глебе.

*Паслядовіч*

Мір нам патрэбен для таго, каб пераўтварыць аблічча зямлі...

*Колас*

Малады патрыёт пакляўся біцца з ворагам да таго часу, пакуль родная зямля не будзе ачышчана ад фашысцкай погані...

*Крапіва*

Да Апанаса Хмеля Андрэй прыйшоў толькі на другі дзень пасля таго, як адведаў Захара Зубца.

*Пестрак*

Але:

Бабка была спагадлівая да чужога гора, таму што сама перажыла шмат пакут і нягод.

*Пшыркоў*

Барадаты дзядзька Лагода, перш чым адказаць, выняў з кішэні курткі капшук.

*Брыль*

Заўвага. Коска не ставіцца перад ***як, калі, куды, што, чым*** і пад., калі гэтыя словы ўваходзяць у склад устойлівых выразаў ***як мае быць, калі б то ні было, што б там ні было*** і пад., напрыклад:

Трэба падрыхтавацца як мае быць. Яго там як і не было. Кінуць куды папала. Білі чым папала. Зрабілі як трэба.

§ 187. Паміж злучнікамі, якія стаяць побач (падпарадкавальны злучнік і адноснае слова або другі падпарадкавальны злучнік, злучальны злучнік і адноснае слова або падпарадкавальны злучнік), коска ставіцца толькі ў тым выпадку, калі пропуск дадзенага сказа не патрабуе перабудовы галоўнага, напрыклад:

Наперадзе былі ўжо добра відаць зарнічныя выбліскі ад стрэлаў батарэй, якія, як агні маякоў, указвалі напрамак танкістам.

*Мележ*

Праз паўгадзіны новае рэле было прымацавана да дынама, і, калі загрукатаў матор трактара, два доўгія промні паласнулі па чорнай сцяне алешніка.

*Паслядовіч*

Дзеравяная сцяна аддзяляла кватэру Лабановіча ад школьнае залы, і, каб папасці туды, трэба было толькі адчыніць нізкаватыя дзверы.

*Колас*

Але:

А каму і дзеля чаго трэба было расказваць, што калі Русаковіч абараняў дыплом, дык за яго хваляваўся не толькі Даніла Мікалаевіч, але і генерал.

*Паслядовіч*



Ён чалавек дарма што сур'ёзны, а калі разгаворыцца, дык люба слухаць.

*Крапіва*

І пакуль была ноч і конь пасвіўся, Тоня спаў на возе, а як толькі займацца пачынала на дзень, ён ужо араў.

*Чорны*

Мне ніякага дзела да гэтага няма, але калі з гаворкі прыйшлося, дык я скажу.

*Чорны*

Заўвага 1. Калі перад падпарадкавальным злучнікам ці адносным словам стаіць адмоўе ***не*** або злучальны злучнік ( ***і, ці, або*** і інш.), якія цесна зліваецца з дадзеным сказам, то гэты дадзены сказ не аддзяляецца ад галоўнага коскай, напрыклад:

Мне трэба ведаць не дзе ты быў, а што ты за гэты час зрабіў.
Ён заўсёды спакойны і калі заўзята працуе, і калі адпачывае.

Заўвага 2. Дадзены сказ, які складаецца толькі з аднаго злучніка або адноснага слова, коскай не аддзяляецца, напрыклад:

— Куды спяшаешся?
— Я сказаў куды.

## КРОПКА З КОСКАЙ

§ 188. Кропка з коскай ставіцца паміж незалежнымі сказамі, якія аб'ядноўваюцца ў адзін складаны сказ без дапамогі злучнікаў, асабліва калі такія сказы значна разгорнуты і маюць свае знакі прыпынку, у прыватнасці коскі (аб пастаноўцы коскі паміж незалежнымі сказамі, аб'яднанымі ў адзін складаны сказ, гл. §§ 181—183), напрыклад:

Мы ішлі галодныя ў паход; нам пяскі завейвалі дарогі, і з вянком на фронце перамогі мы прыйшлі ў дзесяты слаўны год...

*Трус*

Няхай ставяць хоць тысячу капцоў тут, а гэты бераг мы не ўпусцім; гэта дар Нёмана, і мы павінны шанаваць яго.

*Колас*

Велізарная хмара, ад ускраю да ўскраю засцячы неба, цягнучы за сабой шэры полаг дажджу, аддалялася; вецер гнаў яе на горы, і хутка яна ператварылася ў сінюю смугу на далёкім чыстым гарызонце, а праз нейкі час і гэтага не было: над прасторамі балот, высока ў чыстым небе ззяла сонца, а там, куды пайшла хмара, абрысоўваліся ўжо вызваленыя з-пад яе заслоны вершаліны дрэў.

*Самуйлёнак*

§ 189. Кропка з коскай ставіцца паміж незалежнымі сказамі, якія аб'ядноўваюцца ў адзін складаны сказ і звязваюцца паміж сабою:

1. Злучнікамі ***але, толькі, аднак, усё ж, тым не менш*** і пад., асабліва калі гэтыя сказы значна разгорнуты або маюць свае знакі прыпынку, у прыватнасці коскі (аб пастаноўцы коскі перад гэтымі злучнікамі гл. §§ 181—183), напрыклад:

Марозік крэпіць, лёд таўшчэе, і рэчка вольная нямее, да дна вадзіца вымярзае і ходу, бедная, не мае, і цесна там ёй, і няміла яе халодная магіла; але дарма: жывую сілу не запраторыш ты ў магілу, мароз бязжаласны і люты!

*Колас*

Аб Іосіфе Прыгожым пару слоў сказаць мы можам, бо на нашай тут зямлі «прыгажэйшыя» былі; але хлеб чужы заразам потым вобмегам вылазіў.

*Крапіва*

Гойдалася ў цэбры вада, льючыся праз край, і твару свайго выразна разгледзець у вадзе Агата не магла; толькі бялелі ў вадзе рукі, і гэта цешыла яе.

*Чорны*

Заўвага. Перад злучнікам ***а*** кропка з коскай ставіцца толькі ў тым выпадку, калі сказы, якія звязваюцца гэтым злучнікам, значна разгорнуты і абавязкова маюць свае знакі прыпынку, у прыватнасці коскі, напрыклад:

Ён невысок, не надта ёмак, ды карчавіты і няўломак, а волас мае цемнарусы, і зухаўскія яго вусы у меру доўгі, густаваты, угору чуць канцы падняты; а вочы шэры, невялічкі, глядзяць прыветна, як сунічкі, але раптоўна і адразу не расчытаеш іх выразу: то смех, то хітрасць з іх бліскае, то дабрата, але якая!

*Колас*

2. Злучнікамі ***і*** і ***ды*** (у значэнні «і») толькі ў тым выпадку, калі яны аб'ядноўваюць два сказы, якія без гэтых злучнікаў былі б раздзелены кропкай. (У такіх выпадках сказы, што пачынаюцца злучнікамі ***і*** і ***ды***, з'яўляюцца па характару сувязі далучальнымі.) Напрыклад:

А глянь на луг пад вечар, браце! Увесь як ёсць, ва ўсім ахваце, па ўсіх грудах аж за дарогу устаўлен копкамі мурогу; і так свяжуткі копкі тыя, і так выразны, бы жывыя, і выгляд кожнае адметны, але ўсе разам так прыветны!

*Колас*

За тыдзень добрае пагоды праходзіць, глухне касавіца, і толькі дзе-нідзе капіца, стуліўшысь ціха над вадою, глядзіць журботнаю ўдавою, бы нейкі жаль яна хавае і сэрца смуткам абвявае; ды стогі, сведкі цяжкай працы, стаяць, як панскія палацы, а пышны луг так абяздолен, стаіць пакошан і аголен і выгляд мае засмучоны.

*Колас*

**§ 190.** Кропка з коскай ставіцца паміж развітымі аднароднымі членамі, асабліва калі ўнутры хоць бы аднаго з іх ёсць коскі, напрыклад:

«А ну, хлопча мой каханы, паіграй, як ты іграў!» — Хлопец злёгку задрыжаў і ўзяў скрыпку паслухмяна; струны звонкія наладзіў, раз-другі смычком правёў і аддаўся ўвесь абладзе, чарам струнных галасоў.

*Колас*

**§ 191.** Кропка з коскай ставіцца паміж значна разгорнутымі даданымі сказамі, падпарадкаванымі аднаму і таму ж галоўнаму, калі паміж даданымі няма злучальнага злучніка, асабліва калі ўнутры такіх даданых ёсць у сваю чаргу даданыя сказы, напрыклад:

І тут жа набеглі думкі аб тым, што дома, там, дзе бацька быў заплакаў, калі ён ад'язджаў у гэты горад, — там людзі як бы не прабавалі той радасці, якая вакол іх захавана, ды не ўзнята яшчэ для жыцця ўся; што не бачылі там людзі яшчэ той шырыні, якая ў жыцці і якую ўжо адчуў ён, Алёша, на студэнцкіх сходах і лекцыях.

*Чорны*



**§ 192.** Кропка з коскай ставіцца паміж групамі незалежных сказаў, а таксама паміж групамі даданых сказаў, якія адносяцца да аднаго галоўнага, калі неабходна ўказаць граніцы паміж групамі сказаў у адрозненне ад граніц паміж асобнымі сказамі, напрыклад:

Грыміць па карэннях цялежка, мігацяцца стракатыя верставыя слупы, мігаюцца, пахіліўшыся, абросшыя мохам хваёвыя крыжы наабапал дарогі; бягуць лясы, гаі, мяшаюцца палі, грамадзяцца горы, рассцілаюцца шырокія лугі, блішчаць азёры, срэбрам пераліваюцца рэкі, золатам рассыпаюцца пяскі, глыбокімі зялёнымі ямамі раскідаюцца балоты...

*Колас*

О край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў! Што мілей у свеце божым гэтых светлых берагоў, дзе бруяцца срэбрам рэчкі, дзе бары-лясы гудуць, дзе мядамі пахнуць грэчкі, нівы гутаркі вядуць; гэтых гмахаў безгранічных, балатоў тваіх, азёр, дзе пад гоман хваль крынічных думкі думае прастор; дзе ўвосень плачуць лозы, дзе вясной лугі цвітуць, дзе шляхам старым бярозы адзначаюць гожа пуць?

*Колас*

Вось улетку дык раздольна: выйдзе з хаты ў поле, луг; цёпла ўсюды і прывольна, сонца многа, чысты дух.

*Колас*

**§ 193.** Кропка з коскай ставіцца ў канцы рубрык пералічэння, калі рубрыкі гэтыя не з'яўляюцца самастойнымі сказамі, але дастаткова разгорнуты, і асабліва калі яны самі маюць свае знакі прыпынку (прыклады гл. у § 114, заўвага).

## ДВУКРОП'Е

**§ 194.** Двукроп'е ставіцца перад пералічэннем, якім заканчваецца сказ або якое знаходзіцца ў сярэдзіне сказа, калі перад пералічэннем ёсць абагульняючае слова ці словы ***напрыклад, а іменна***:

Гэта зольная вільгаць абляпляла ўсё: і дрэвы, і кусты, і густую ігліцу на зямлі, і рэдкія палаткі.

*Лынькоў*

На прыгуменні, поруч з садам, павець з гумном стаяла радам, а пад паветкаю прылады: вазок, калёсы, панарады, старыя сані, восі, колы і вулляў некалькі на пчолы...

*Колас*

Наогул яе [настаўніцу] любілі ўсе: вучні, настаўнікі, калгаснікі.

*Шамякін*

Для ўсіх было вялікім святам, для ўсіх жаданаю была там рачулкі плынь бліскуча-сіня: палям, лясам і той даліне, дзе дуб-асілак звесіў шаты...

*Колас*

У адпаведнасці з ленінскім планам электрыфікацыі ў нашай краіне пабудаваны і будуюцца магутныя электрастанцыі, напрыклад: Дняпроўская, Куйбышаўская, Сталінградская, Брацкая, Красноярская і іншыя.

У новае памяшканне бібліятэкі перавезена ўжо ўся маёмасць, а іменна: паліцы для кніг, сталы, крэслы, настольныя лямпы, кнігі.

**§ 195.** Двукроп'е ставіцца перад пералічэннем аднародных азначэнняў, якія выражаны назоўнікамі ці займеннікамі

і адносяцца да азначаемага папярэдняга назоўніка, напрыклад:

Размову спачатку вялі Васіль і Маслоўская — звычайную размову знаёмых людзей у першыя хвіліны сустрэчы: аб надвор'і, аб сустрэчы, аб навінах.

*Шамякін*

§ 196. Двукроп'е ставіцца пасля сказа, калі за ім ідзе сказ або некалькі сказаў, якія не звязаны з першым пры дапамозе злучнікаў і раскрываюць змест або прычыну таго, аб чым гаворыцца ў першым сказе, напрыклад:

Садок быў, праўда, невялічкі: дзве верабіны ды тры дзічкі ды між верб ліпка маладая, бы іх унучка дарагая.

*Колас*

Пладзіліcь пчолкі з кожным годам: штолета вулляў прыбывала—на пчолкі вельмі шанцавала.

*Колас*

Макар выканаў заданне, якое даў яму Кудрэвіч: ён прывёў групу партызан вёскі Нізкая ў атрад.

*Пестрак*

Па вуліцы дзеці бегаюць. Лужыны стаяць на ёй: учора дождж уліўны прайшоў.

*Колас*

§ 197. Двукроп'е ставіцца паміж двума сказамі, калі яны звязаны без злучнікаў і першы заканчваецца дзеясловамі ***бачыць, глядзець, чуць, адчуваць, ведаць*** і пад., пры дапамозе якіх папярэджваецца, што далей будзе ісці дадатковае паведамленне, якое раскрывае змест першага сказа, напрыклад:

Аглянуўся — бачыць: ходзяць па сенажаці яго дзеці, Коля і Люба.

*Пестрак*

Дзед, зірні: куды-та хмаркі унь ідуць, ідуць, як дым?

*Колас*

Адным словам сказаць, усе бачылі: яна і прыгожая, і ўдалая.

*Чорны*

З даўніх пор кажуць: праца спорыцца пры песні.

*Буйла*

§ 198. Двукроп'е ставіцца пасля сказаў або слоў, якія ўводзяць простую мову, напрыклад:

Лагодненька ўмее гаварыць дзед Павал: «Не хадзі ты, Агатка, далёка».

*Колас*

Андрэй пасля кароткага роздуму, калі Пятрусь Хадыка зайграў вальс, ажывіўся і звярнуўся да Пеці: «Ну, што, Пеця, патанцуем?»

*Пестрак*

## ПРАЦЯЖНІК

§ 199. Працяжнік ставіцца паміж дзейнікам і выказнікам:

1. Калі выказнік выражан назоўнікам або лічэбнікам у назоўным склоне без звязкі, напрыклад:

Гаворка, шум і коней ржанне—касьбы вясёлае вітанне.

*Колас*

Майка—піянерка.

*Лынькоў*



Шэсць і тры—дзевяць.

Заўвага. Працяжнік не ставіцца, калі перад выказнікам, які выражан назоўнікам у назоўным склоне, ёсць адмоўе ***не***, напрыклад:

Праўда не скварка, з кашаю не з'ясі.

*Колас*

Мірон не яблык, і ў ім не чарвяк, у ім перажытак, стрыжань такі даўнейшы сядзіць.

*Бялевіч*

Лётчык Джо не рамантык. Ён паважае толькі справу.

*Лынькоў*

2. Калі выказнік, выражаны назоўнікам, звязан з дзейнікам пры дапамозе слоў ***гэта, вось, вот***. У такіх выпадках працяжнік ставіцца нават пры наяўнасці звязкі ***ёсць***, напрыклад:

Камунізм — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны.

*Ленін*

Камуністы—гэта Леніна салдаты, воляй партыі з'яднаныя рады.

*Куляшоў*

Дружба—гэта вялікая сіла.

*Пестрак*

Цімох і Ганулля—вось роўная пара.

*Купала*

Заўвага 1. Працяжнік не ставіцца, калі дзейнік або выказнік выражаны займеннікам, напрыклад:

Натура ўжо яго такая!

*Колас*

Я студэнт інстытута.

Гэтыя кнігі твае.

Аднак працяжнік пры дзейніку ці выказніку, выражаным займеннікам, можа ставіцца, калі трэба лагічна выдзеліць іх, напрыклад:

Я—салдат свайго часу.

*Куляшоў*

Ты—юнак.

Мы—камуністы.

Заўвага 2. Працяжнік не ставіцца, калі ў склад выказніка ўваходзяць словы з параўнальным значэннем (*як, усё роўна як, быццам, як быццам, быццам бы, бы, нібы, што* і інш.), напрыклад:

Паветра было як лагодныя лекі, а краявід—увасабленне ціхага характва.

*Чорны*

Ты, Пятрусь, як малое дзіця.

*Колас*

Сінія вочкі што васілёчкі.

*Бройка*

Ноч была нібы казка.

*Бядуля*

Ты [Андрэй] цяпер усё роўна як гаспадар, пра ўсё павінен клапаціцца.

*Мележ*

3. Калі дзейнік выражан назоўнікам (звычайна з паясняльнымі словамі), а выказнік— неазначальнай формай дзеяслова, а таксама калі абодва галоўныя члены выражаны неазначальнай формай дзеяслова, напрыклад:

Абавязак кіраўнікоў фабрык, заводаў, будоўляў — клапатліва вырошчваць маладых інжынераў.

*«Звязда»*

Справа гонару маладых інжынераў—актыўна змагацца за высокую прадукцыйнасць працы.

*«Звязда»*

4. Калі дзейнік і выказнік выражаны неазначальнай формай дзеяслова і ў склад выказніка ўваходзяць словы ***значыць, гэта значыць***, напрыклад:

Ігнараваць мову—гэта значыць ігнараваць народ, нацыю.

*Пестрак*

Залегчы з Янэкам на адкрытай палянцы — значыць пэўна асудзіць сябе на гібель.

*Хадкевіч*

Народ—гаспадар на сваёй зямлі... Абараніць зямлю—гэта значыць заключыць саюз рабочага народа для супольнай барацьбы супраць паноў.

*Пестрак*

**§ 200.** Працяжнік ставіцца пасля аднародных членаў (пералічэння) перад абагульняючым словам, напрыклад:

Пагутарыць з людзьмі, расказаць ім і даведацца ад іх аб жыцці, думках і настроях—усё гэта было неадрыўнай часткай яго ўрачэбнай дзейнасці.

*Шамякін*

**§ 201.** Працяжнік ставіцца перад неразвітым або развітым прыдаткам, які стаіць у канцы сказа:

1. Калі перад прыдаткам без змянення яго сэнсу можна ўставіць словы ***імення, а імення:***

Пацягнуўся лес сцяною—ельнік, дуб і хваіна.

*Колас*

У гэтым горадзе было ў яе толькі двое знаёмых людзей—Вэня Шпулькевіч і Сашка Стафанковіч.

*Чорны*

2. Калі прыдатак, які знаходзіцца ў канцы сказа, адносіцца да займенніка, напрыклад:

Наперадзе ішоў ён—таварыш Дарожка.

*Пестрак*

Вось яна—дзявочая пекната.

*Шамякін*

3. Калі неабходна падкрэсліць адценне самастойнасці прыдатка, які стаіць у канцы сказа (аб ужыванні коскі пры прыдатку гл. § 172, пп. 2—5), напрыклад:

А вось і сам гаспадар гэтай хаты—Трахім.

*Крапіва*

Каля калгаснага саду ўзвышалася доўгая павець—крыты ток.

*Шамякін*

Ён паспеў ужо коратка перазнаёміцца з усімі ў гэтым доме і стаць быццам сваім чалавекам—гэты малады і вясёлы хлопец.

*Чорны*

Андрэй сядзеў, апёршыся на край стала, і дапытліва пазіраў на людзей—на моладзь і старых.

*Пестрак*



Іх сустрэла жонка Ладыніна—Ірына Аркадзеўна.

*Шамякін*

**§ 202.** Працяжнік ставіцца ў няпоўных сказах, а таксама ў аднародна пабудаваных частках сказа на месцы прапушчанага выказніка, напрыклад:

З аднаго боку дарогі стаяў рэдкі хвойнік, а з другога — кусты ялоўцу, а далей—алешнік.

*Колас*

Дзяўчаты сустрэлі Машу прыветлівым шумам, хлопцы — цікаўнымі позіркамі, мужчыны—жартаўлівымі недамоўкамі.

*Шамякін*

Камандзірам выбралі Паддубнага, камісарам—Андрэя.

*Пестрак*

На сцэне—столік, пакрыты чырвоным, крэслы і нават трыбуна.

*Брыль*

З а ў в а г а. На месцы іншых прапушчаных членаў няпоўнага сказа працяжнік можа ставіцца і не ставіцца — у залежнасці ад працягласці паўзы.

**§ 203.** Працяжнік ставіцца паміж часткамі простага сказа, калі трэба паказаць яго інтанацыйнае распадзенне на дзве часткі, напрыклад:

Стася ў замяць пайшла — ад сяла да сяла, а завея гула, а завея гула.

*Куляшоў*

**§ 204.** Працяжнік ставіцца паміж двума членамі сказа або паміж двума самастойнымі сказамі, калі другі з іх выражае нечаканасць, напрыклад:

На няроўным полі стала ісці цяжэй. І раптам—вялікая радасць: чорныя абрысы хат і гумен.

*Чорны*

Міг—і ўсё знікае...

*Шамякін*

**§ 205.** Працяжнік ставіцца паміж членамі сказа або паміж самастойнымі сказамі для выражэння рэзкага процітаўлення або процілегласці, напрыклад:

Ляжаць пакошаныя травы, не травы—казачныя сны, не сны—а шолахі дубравы, вясёлкі, галасы вясны.

*Танк*

Ёсць тут сем хвой. Не хвоі—казка.

*Колас*

Ох, не кабеціна—агонь!

*Колас*

Гэта не ўзгорак—асілак, здаецца...

*Бядуля*

**§ 206.** Працяжнік ставіцца паміж двума сказамі, не звязанымі пры дапамозе злучнікаў, калі другі сказ выражае вынік таго, аб чым паведамляецца ў першым, напрыклад:

Мы ішлі—пагалоскі следам беглі ў ляскі.

*Куляшоў*

Суха ў лесе,—сказаў,—не дагледзіш—пажар.

*Куляшоў*

З а ў в а г а. Пры асаблівым падкрэсліванні выніку таго, аб чым гаворыцца ў першым сказе, працяжнік можа ставіцца і ў тых выпадках, калі другі сказ звязваецца з першым пры дапамозе злучніка *і*, напрыклад:

Тры месяцы капалі дол напорна — і расцвілі агні над торфам чорным і паплылі па дроце да сяліб.

*Панчанка*

**§ 207.** Працяжнік ставіцца паміж двума сказамі ў бяззлучнікавых складаных сказах, калі залежны па сэнсу сказ стаіць на першым месцы, а галоўны— на другім, напрыклад:

Вецер загуляе—хвойнік, лозы гнуцца.

*Колас*

Павее ветрык—шурхнуць травы.

*Колас*

А тыя ж граблі ці цапочкі! Ну, толькі цешыць імі вочкі! У рукі возьмеш—працы хочуць, у дзела пусціш—зарагочуць.

*Колас*

Глядзі! Сарвеш хоць адзін дзень уборкі—не трапляй на вочы.

*Шамякін*

Без валёнак можна прапасці—такія маразы стаяць.

*Чорны*

**§ 208.** Пры дапамозе працяжнікаў выдзяляюцца:

1. Пабочныя і ўстаўныя сказы і словазлучэнні, якія будучы ўжытымі ў сярэдзіне сказа з мэтай паясніць, дапоўніць які-небудзь член сказа, цесна зліваюцца па сэнсу з асноўным сказам, напрыклад:

Лабановіч—так называўся малады настаўнік—слухаў гэта апавяданне з вялікай цікавасцю.

*Колас*

Высокая, сухарлявая кабеціна чарнявага воласу—яна была тут старожкаю—прыйшла ў незвычайны рух, вочы яе ажывіліся.

*Колас*

Шумнаю, гаманлівою грамадою— а было іх чалавек пятнаццаць—накіраваліся яны ў бок возера.

*Колас*

Хутка будуць называцца — знаю гэта — камуністамі ўсе людзі на зямлі.

*Куляшоў*

Заўвага. Калі сувязь пабочнага сказа ці словазлучэння з асноўным сказам аслаблена, то замест працяжнікаў у такіх выпадках ставяцца звычайна дужкі, напрыклад:

Нават кравец (яго Тварыцкі адразу пазнаў) спакойна стаяў, курыў папяросу і не здзівіўся нечаканаму з'яўленню тут такога чалавека.

*Чорны*

2. Развіты прыдатак або група аднародных прыдаткаў, якія стаяць у сярэдзіне сказа пасля азначаемага назоўніка, калі трэба падкрэсліць большую самастойнасць гэтых прыдаткаў, напрыклад:

Барабаншчык — Рыгор Лескавец — узвышаўся над усімі, нібы капітан карабля.

*Шамякін*

Грабцы — дзяўчаты, маладзіцы — штораз варушацца жывей, бо чуюць голас навальніцы.

*Колас*

Доўгі рад старых і высокіх дрэў — ліп, дубоў, бяроз, явараў і вязаў—ішоў ад паўстанка проста ў чыстае поле і там канчаўся.

*Чорны*

Лес быў пераважна хваёвы—сасна, елка, піхта,—густы і дзікі.

*Шамякін*



3. Група адасобленых азначэнняў, выражаных прыметнікамі ці дзеепрыметнікамі, калі яна стаіць пасля азначаемага слова і падкрэсліваецца яе большая самастойнасць, а далей прадаўжаецца сказ, напрыклад:

Побач яго стаяла Марына І ў гэты момант здалося яму, што гэта яна такая, як многа год таму — малая і беспарадная — стаіць перад ім.

*Чорны*

Яго заваражылі яе вочы — вялікія, мяккія, нібы зацягнутыя блакітнай смугой—і яе вусны, ружовыя, прыпухлыя.

*Шамякін*

Маша з вялікім задавальненнем хадзіла па росных градах, шукала гуркоў, выбірала самыя лепшыя—зялёныя, свежыя, халодныя ад расы—і адчувала сябе дзяўчынкай.

*Шамякін*

Заўвага. Калі самастойнасць такіх адасобленых азначэнняў не падкрэсліваецца, то яны выдзяляюцца коскамі (гл. § 171).

**§ 209.** Працяжнік ставіцца паміж двума словамі, якія абазначаюць прасторавыя, часавыя або колькасныя межы. У такіх выпадках гэтыя словы замяняюць сабой словазлучэнні з прыназоўнікамі *ад (з)... да*, напрыклад:

Пасажырскі поезд Мінск—Масква прыбыў на станцыю Орша.

Вялікая Айчынная вайна 1941—1945 гг. закончылася перамогай савецкага народа.

Вучні VIII—X класаў удзельнічалі ў лыжных спаборніцтвах.

План работы на студзень—сакавік бягучага года зацверджан.

**§ 210.** Працяжнік ставіцца паміж двума ці некалькімі ўласнымі імёнамі, якія ў сукупнасці абазначаюць адно вучэнне або закон, напрыклад:

Вучэнне Маркса — Леніна з'яўляецца ідэалагічнай асновай сацыялістычнага грамадства.

Закон захавання матэрыі Ламаносава — Лавуазье быў вялікім навуковым адкрыццём XVIII ст.

**§ 211.** Працяжнік ставіцца ў якасці дадатковага знака пасля коскі перад словам, якое паўтараецца для таго, каб звязаць з папярэднім новы сказ ці наступную частку таго ж сказа, напрыклад:

Без партыі, якая карыстаецца высокім маральным аўтарытэтам, любоўю, давер'ем і павагай дзесяткаў і соцень мільёнаў працоўных, гатовых ісці за ёй у бой да канца, падтрымліваючых яе лозунгі, яе пачынанні, яе палітыку, — без такой вялікай партыі, створанай і выхаванай Леніным, рабочыя і сяляне Расіі не змаглі б знішчыць царызм, звергнуць расійскі капіталізм, заваяваць і ўтрымаць сваю Савецкую ўладу—дыктатуру рабочага класа, адбіць вельмі жорсткія атакі ўнутранай контррэвалюцыі і іншаземных інтэрвентаў, імперыялістычных агрэсараў.

*Тэзісы ЦК КПСС да саракагоддзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі*

**§ 212.** Працяжнік ставіцца ў якасці дадатковага знака пасля коскі ў перыядзе, каб паказаць пераход ад павышэння да паніжэння, напрыклад:

Калі ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх свет праз небасхіл,
І улягаўся вулак пыл,—
Мы ўсе пяялі каля хаты,

І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песняй сціхшы двор.

*Багдановіч*

**§ 213.** Працяжнік ставіцца ў якасці дадатковага знака прыпынку пасля коскі, якая аддзяляе галоўны сказ ад групы даданых сказаў, што папярэднічаюць галоўнаму, калі неабходна падкрэсліць распадзенне адзінага цэлага на дзве часткі, напрыклад:

А хто зробіць замах, каб спыніць наш разгон і не даць нам ходу,—будзе змецен, як прах, будзе выкінут вон, не паўстане зроду.

*Колас*

## ПЫТАЛЬНІК

**§ 214.** Пытальнік ставіцца ў канцы поўных і няпоўных сказаў, якімі выражаецца прамое пытанне, напрыклад:

Хто на лугу пакінуў след, з духмяных траў абіўшы росы?

*Танк*

А куды ж гэта ты збіраешся?

*Крапіва*

Можа кніжачак якіх можна ў вас?

*Пестрак*

Ці не помніш ты, Апанас, як некалі вёз чалавек воз сена зімою на добрым грывастым кані?

*Пестрак*

На ветравеях, нібы воўна, плывуць хмурынкі так чароўна. Чаго плывуць? Куды?—Маўчаць.

*Колас*

— А цяпер вы куды?
— У сяло Сілічы.
— А адтуль?
— А наведаем школьны парог.

*Куляшоў*

**§ 215.** У пытальных сказах з аднароднымі членамі сказа пытальнік можа ставіцца пасля кожнага аднароднага члена з мэтай раздзялення пытання, напрыклад:

Вольна ішлі яны [калгаснікі] пушчай, прыцішыўшы крокі... Стрэл адзінокі рэхам трывожна глухім дакаціўся да іх. Што гэта? Стрэл паляўнічы? Ці знак таямнічы?

*Куляшоў*

**§ 216.** Пытальнік ставіцца ў дужках (звычайна ў цытаце з тэксту іншага аўтара), калі змест выказанай кім-небудзь думкі выклікае сумненне ці непаразуменне.

## КЛІЧНІК

**§ 217.** Клічнік ставіцца ў канцы сказа, які вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, напрыклад:

Слаўся, наша сталіца Масква!

*Броўка*

Дык то Ганна! Ну й дзяўчынка! І прыўдалая ж яна! Станік тонкі, бы націнка, тварык—ветлая вясна, а як гляне, вочкі ўскіне, усміхнецца—ясны дзень!

*Колас*

Эх, пагодка ж стаіць на Палессі!

*Колас*

Заўвага 1. Заўсёды ставіцца клічнік у канцы сказаў, у якіх ёсць клічныя словы (*як, які, што за, колькі*), напрыклад:



Як хацеў бы я па палях прайсці і ўпіцца іх пахам, росамі, паглядзець, зірнуць, як жыты растуць, як калосікі наліваюцца!

*Колас*

Які сяголета шчаслівы і незвычайны выпаў год, які багаты і ўрадлівы і сад, і лес, і агарод!

*Глебка*

Колькі харастве і чароўнага прывабу ў сініх іх [шляхоў] далях! Колькі новых малюнкаў, свежых матываў і таемных здарэнняў абяцаюць яны вачам і сэрцу падарожнага! З якой незвычайнай сілай парываюць яны да сябе і як моцна дакранаюцца да струн твае душы!

*Колас*

Заўвага 2. Заўсёды ставіцца клічнік у канцы пабуджальных сказаў, у якіх загад, патрабаванне, дазвол ці забарона выражаны не формай загаднага ладу дзеяслова, напрыклад:

Цыц! Не смець казаць мянушку, а то зніму на вас папружку!

*Колас*

Ша! Ціха вы, не гаманіце!..

*Колас*

«Агонь!»—скамандаваў Васіль Іванавіч...

*Лынькоў*

«Рукі ўгору!»—грымнуў тут дзядзька Мірон...

*Лынькоў*

**§ 218.** Клічнік ставіцца пасля звароткаў, якія стаяць у пачатку або ў канцы сказа, і пасля выклічнікаў, якія стаяць у пачатку або ў сярэдзіне сказа, калі гэтыя словы вымаўляюцца з клічнай інтанацыяй, напрыклад:

Піліпчык! Нясі з істопкі, што там ёсць у нас. Людзям час даўно снедаць.

*Лынькоў*

На штурм, на штурм апошні, змагары!

*Куляшоў*

О-го-го, брат!—дзядзька кажа:—цяпер зіма напэўна ляжа!

*Колас*

«Уга!»—з захапленнем чмокнуў Бірыла.

*Шамякін*

«Марыля, гу! гу-гу, Тацяна!»—«Гу-гу, Магдуся! Гу, Мар'яна!»—«Антоля! цётка Міхаліна!» — «Алеся! Зося! Катарына!» — Па лесе ходзіць пагалосак дзяўчат, жанок вакольных вёсак.

*Колас*

Хоць, праўда, хлеб ядуць і з вуды, але не ўсе і не заўсюды. Вось невад—о! другая справа—тут, брат, не вуда, тут—аблава!

*Колас*

Плыве човен, вады повен, ды ўсё—хлюп! хлюп! хлюп!

*Колас*

**§ 219.** Клічнік ставіцца ў дужках (звычайна ўнутры цытаты ці пасля яе) з мэтай выразіць якія-небудзь адмоўныя адносіны да зместу, выказанага ў прыведзенай цытаце.

## ШМАТКРОП'Е

**§ 220.** Шматкроп'е ставіцца для абазначэння незакончанасці выказвання, напрыклад:

Люблю той лес, што над табою высока ўзняў свае камлі; яго ж карэнні над вадою нібы вянок табе сплялі...

*Колас*

Направа будзе лісцвяны лясок. За ім вёска Ямшчына. За Ямшчынай проста дарога на поўдзень. Адлічыш па дарозе дзве першыя вёскі...

*Чорны*

Краіна мая! Ты прайшла праз агонь, праз буры, руіны і росквіт...

*Глебка*

Заўвага. У тых выпадках, калі сказ ці група слоў, якія выражаюць незакончаную думку, вымаўляецца з пытальнай або клічнай інтанацыяй і ў канцы павінен стаяць пытальнік ці клічнік, гэтыя знакі прыпынку захоўваюцца, а далей ставіцца шматкроп'е, напрыклад:

Эх, лета-лецейка любое, ты адцвітаеш, залатое!..

*Колас*

Бліснулі разам сярпы. Хто каго пераможа? Хто пераможа?..

*Куляшоў*

**§ 221.** Шматкроп'е ставіцца ў пачатку, у сярэдзіне або ў канцы цытаты (ці адначасова ва ўсіх адзначаных месцах), каб паказаць, што ў пэўным месцы яе прапушчаны словы, напрыклад:

К. Крапіва, раскрываючы сутнасць сатырычных твораў, адзначае: «...рэзананс сатырычнага твора... залежыць ад значасці аб'екта, на які гэты твор накіраваны».

Заўвага. Калі скарачаецца цытата, у канцы якой павінен стаяць пытальнік або клічнік, то яны ставяцца пасля шматкроп'я, напрыклад:

Гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна...!

*Купала*

(Параўн.: Гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты, буйна, бурна, на мінулых дзён магіле, над санлівасцю хаўтурнай!)

**§ 222.** Шматкроп'е ставіцца для абазначэння нечаканых перапынкаў або замінак у мове, якія ўзнікаюць у выніку ўнутраных перажыванняў чалавека, напрыклад:

Скуратовіч гаварыў сам з сабою: «Стафан Седас, Стафанка... і яна памерла... аўдавеў...»

*Чорны*

Шмат за лета схадзілі мы з ёю дарог, але ў тым, што люблю, я прызнацца не мог. «Слухай...» — раптам пачну... Ды яна як зірне строга гэтак, што слоў не хапае ў мяне.

*Куляшоў*

Санкоўскі заварушыўся, ад хвалявання аж спатыкнуўся на першым слове: «Я... Я заўсёды пайду ў першым шэрагу біцца за сацыялістычную рэвалюцыю...»

*Пестрак*

А Сава сказаў коратка і проста: «Для мяне, хоць зараз...» — «Нічога...—перабіў Паддубны.—Толькі канспірацыя... прашу... Асцярожна. Вывучайце сваіх людзей... Члены ячэек павінны раздзяляць людзей паміж сабою для працы з імі...»

*Пестрак*

## ДУЖКІ

**§ 223.** У дужкі бяруцца пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы, якія сінтаксічна не звязаны з асноўным сказам і служаць у якасці дадатковых заўваг, удакладненняў, тлумачэнняў, напрыклад:

Сядзела Волька на прызбе ля свае хаты, накінуўшы на плечы квяцістую хустку (здавалася, што не так будуць пранізваць позіркі людскіх вачэй).

*Крапіва*



Люба трымала ў руках жалезныя вілы (сахор) і рвала імі гной.

*Чорны*

Здалёк мы, пане гаспадару: чатыры мілі за Нясвіжам (Міхал лічыў Нясвіж Парыжам, усім вядомым на ўсім свеце), і мы вас маем на прымеце.

*Колас*

У адну з тых начэй (яшчэ не было занадта позна, толькі скончыўся вечар) двое людзей блукалі па глухіх закутках гэтага месца.

*Чорны*

Двое невядомых дзяцей (адно ўзростам такое, як Слава) крычалі жанчыне: «Мама, давай нам першым».

*Чорны*

**§ 224.** У дужкі бяруцца пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы, якія хоць і звязаны сінтаксічна з асноўным сказам, але выражаюць толькі як бы мімаходныя заўвагі, напрыклад:

У яго тады жыла запаветная мара — стаць лётчыкам (калі не лічыць таго, што адзін час, нядоўга, ён захапляўся геалогіяй, каб знаходзіць затоеныя ў зямлі багацці).

*Мележ*

**§ 225.** У дужкі бяруцца словы і словазлучэнні, якія паказваюць адносіны слухачоў да чыёй-небудзь прамовы, напрыклад:

(Смех)
(Гучны смех.)
(Бурныя апладысменты.)
(Вясёлае ажыўленне ў зале.)
(Воклічы: «Правільна».)

**§ 226.** У дужкі бяруцца прозвішча аўтара або прозвішча аўтара і назва твора, з якога прыводзіцца цытата, напрыклад:

І любяць дзеда Юрку ўнукі, яны цалуюць яму рукі, а дзед у плечы іх цалуе і абаранкам патрактуе (Я. Колас. «Новая зямля»).

**§ 227.** У дужкі бяруцца рэмаркі аўтара ў драматычным творы, напрыклад:

Альжбета (убягае, трымаючы ў руцэ клінок з тварагом). Што гэта ў вас тут парабілася, мае міленькія?

Паўлінка. Кабыла дзядзькава ўцякла ці хто ўкраў. (Ідзе, садзіцца на ложак і шые.)

*Купала*

## ДВУКОССЕ

**§ 228.** У двукоссе бяруцца цытаты.

**§ 229.** У двукоссе бяруцца словы, якія ўжыты ў іранічным сэнсе або наогул не ў сваім звычайным значэнні, напрыклад:

Багачы і панства, нашы «дабрадзеі». Мы на суд вас клічам, каты вы, зладзеі!

*Колас*

От і ўехаў Мікуць па вушы ў тое, што завецца «жыць».

*Чорны*

«Высокае начальства» спачатку прыслала мне падзяку, што добра вучыў дзяцей у школе...

*Колас*

**§ 230.** У двукоссе бяруцца ўмоўныя назвы твораў, газет, часопісаў, прадпрыемстваў, параходаў і г. д., напрыклад:

Газета «Звязда» пачала выходзіць у 1917 годзе.

Ні Ілюк, ні нават Міхалючок маляваць не ўмелі, дык прыйшлося навырэзваць малюнкаў з «Крокодила»... і дапасаваць іх да тутэйшых людзей і падзей.

*Чорны*

Заўвага. У двукоссе не бяруцца ўмоўныя назвы, калі ў іх склад уваходзяць словы ***імя, памяці***, напрыклад:

Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна.
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.
Вуліца Памяці герояў рэвалюцыі.

§ 231. У двукоссе бяруцца нязменныя словы, якія выступаюць у ролі назоўнікаў (субстантывіруюцца), напрыклад:

Высока ракета ўзлятае, у адказ ёй на фронце шырокім «ура!» вырастае.

*Бачыла*

Ні стуку, ні груку, ні кашлю, а толькі далёкае «ку-ку» ці крык перапёлкі...

*Бачыла*

Неўзабаве папаўся насустрач Радзівон Бабака. Гэты прыехаў ціха і не азіраўся, вызначыўшы сваё «дзян-добры» тым, што страсянуў галавою на магутнай шыі.

*Чорны*

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ ПРЫ ПРОСТАЙ МОВЕ

§ 232. Простая мова выдзяляецца працяжнікам або бярэцца ў двукоссе:

а) Працяжнік ставіцца перад простай мовай, калі яна пачынаецца з абзаца, напрыклад:

Нехта гучна клікаў з другога берага:
— Гэй, паромшчык, давай пераправу!

*Лынькоў*

б) Двукоссе ставіцца перад і пасля простай мовы, калі яна пачынаецца не з абзаца, а запісваецца ў радок, напрыклад:

Барвіна праціснуўся праз натоўп да Андрэя і Санкоўскага і з ходу сказаў: «Пойдзем»

*Пестрак*

§ 233. У залежнасці ад месца слоў аўтара, якія ўводзяць простую мову, ставяцца наступныя знакі прыпынку.

1. Калі словы аўтара стаяць перад простай мовай, то пасля іх ставіцца двукроп'е, а простая мова, якая пачынаецца не з абзаца, заключаецца ў двукоссе, напрыклад:

У прамове на аб'яднаным пасяджэнні дэлегатаў VIII з'езда Саветаў, членаў ВЦСПС і МГПС У. І. Ленін гаварыў: «Прафсаюзы з'яўляюцца не толькі гістарычна неабходнымі, але гістарычна непазбежнай арганізацыяй індустрыяльнага пралетарыяту, якая ахоплівае яго, пры ўмовах дыктатуры пралетарыяту, амаль пагалоўна».

2. Калі словы аўтара стаяць у сярэдзіне простай мовы, разрываючы яе на дзве часткі, то перад словамі аўтара, у залежнасці ад інтанацыйнага афармлення першай часткі простай мовы, ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска і ўслед за гэтымі знакамі — працяжнік, а пасля слоў аўтара—або кропка і працяжнік (калі першая частка простай мовы з'яўляецца закончаным сказам), або коска і працяжнік (калі першая частка простай мовы не з'яўляецца закончаным сказам), напрыклад:

«Хіба ж можам мы з табой займацца несур'ёзнымі справамі?— Пытаннем на пытанне адказала Надзя і прыгарнула да сябе Майку, прытуліла, як туляць дарослыя малых дзяцей. — Расказвай, як жывеш, як ваюеш?»

*Лынькоў*

«Ну і напужаў мяне ён [зайчык], ды і сам, відаць, яшчэ больш напужаўся!—праказала Надзя.—Аднак чаго мы стаім?»

*Лынькоў*

«Сцяпанка,—сказаў чалавек,—ідзі дзе-небудзь пасядзі ў цяньку, ты стаміўся».

*Чорны*

«Эх, вадзічка... — працягнуў Сава, выціраючы твар крысом курткі,—кветкамі пахне».

*Пестрак*

Заўвага. У словах аўтара могуць ужывацца два дзеясловы са значэннем мовы або думкі ці блізкія да іх па значэнню дзеясловы; пры гэтым, калі другі дзеяслоў адносіцца да другой часткі простай мовы, то пасля слоў аўтара ставіцца двукроп'е і працяжнік, напрыклад:

«Я сказаў бы вам, ды толькі не ведаю, як прымеце вы тое, што я скажу,—ціха адзываецца ён. І, момант счакаўшы, дадае: — Я думаю, што з гэтага нічога не будзе».

*Колас*

3. Калі словы аўтара ідуць за простай мовай, то пасля простай мовы, у адпаведнасці з яе інтанацыяй, ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска (коска на месцы кропкі), а за гэтымі знакамі—працяжнік, напрыклад:

— З удачай?—ціха запытаўся Мірон.
— Як бачыце! — з палёгкай уздыхнуў Дудок, махнуўшы рукой у бок блізкага зарава.
— Без адзінага стрэлу абышлося...
— Ну, дзякуй табе, браток! Шчырае дзякуй...—і пад праліўным дажджом Мірон моцна абняў Дудка, парыўчата пацалаваў яго.

*Лынькоў*

«Вам, Лескавец, відаць, хочацца, каб асабіста вас пахвалілі, — Ліда сказала гэта як бы між іншым, нават не павярнуўшыся да яго».

*Шамякін*

§ 234. Калі некалькі рэплік запісваецца ў радок без указання, каму яны належаць, то паміж імі ставіцца працяжнік і кожная з іх бярэцца ў двукоссе, напрыклад:

«Вы яшчэ не былі ў сваёй школе?»—«Не, не была. І не ведаю, якая яна там. А вы ўжо даўно тут?» — «А ўжо зараз два месяцы будзе».—«І работу распачалі ў школе?» — «Пачаў. Другі месяц як заняткі пачаліся».—«Охці мне! Як жа я адстала ад вас!»

*Колас*

## АБ СПАЛУЧЭННІ ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ

§ 235. Калі неабходна ўжыць пытальнік, клічнік, кропку, шматкроп'е або коску ў спалучэнні з працяжнікам, то працяжнік пішацца пасля пералічаных знакаў прыпынку, напрыклад:

«Ну, як жа вам ездзілася?»—запытала Антаніна Міхайлаўна.

*Колас*

І ён ідзе. Куды?—Не знае: не сам ідзе—яго вядуць.

*Колас*

«Малайцы!—стрымана пахваліў Ладынін, акінуўшы вокам зжатую плошчу.—Добры пачатак».

*Шамякін*

«Але ўраджай наш гэтага года можа стаць у маштабе нашага раёна сапраўды добрым...—Васіль зрабіў паўзу, аглядаючы калгаснікаў,—пасля таго, калі мы збяром яго своечасова і без страт».

*Шамякін*

Ачуньвай жа, мой добры друг Маруся, — і родны край і дом наш недалёк.

*Колас*

Савецкая літаратура, узгадаваная Камуністычнай партыяй,— роднае дзіця савецкага народа.

*Крапіва*

Тыя сцежкі, што ў заўтра вядуць, — тыя сцежкі аднолькавы, мусіць?

*Трус*

Заўвага. Калі пасля працяжніка стаяць словы, якія выдзяляюцца па існуючых правілах коскамі (напрыклад, пабочныя словы), то першая коска апускаецца, напрыклад:

Аслу раз выдалі мандат—няйначай, памылкова.

*Крапіва*

**§ 236.** Перад закрываючым двукоссем не пішуцца кропка, коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік. Усе гэтыя знакі пішуцца пасля двукосся, напрыклад:

На ўсіх загадах у правым куточку зверху значылася: «Абсалютна сакрэтна».

*Пестрак*

«Мая зямля», «мой поплаў», «паша», «мой луг», «мой конь», «мае каровы»—злінялыя, старыя словы!

*Колас*

Праз тыдзень быў гатовы «твор»—тры тысячы радкоў, як лёду...

*Валасевіч*

Таямнічыя радыёхвалі панясуць нам весткі з усіх канцоў свету: водгаласы вайны ў Кітаі, гудзенне калгаснага трактара, зловяць з-пад хмараў «Лявоніху», «Тройку»...

*Брыль*

**§ 237.** Пытальнік, клічнік і шматкроп'е пішуцца перад закрываючым двукоссем, калі яны адносяцца толькі да слоў, узятых у двукоссе, але пасля закрываючага двукосся, калі адносяцца да ўсяго сказа разам са словамі, узятымі ў двукоссе, напрыклад:

Машы ўспомніўся запіс у Алесіным дзённіку (учора ён выпадкова трапіў ёй у рукі): «У чым паэзія нашага жыцця?»

*Шамякін*

На ўсім двары тады загаварылі: «Бач ты, гэта ж у нашае дворнічыхі сын камандзір!»

*Чорны*

Я паслаў ёй кароткі і сціплы адказ: «Прыязджай, будзеш госцяй жаданай у нас на вялікай будоўлі...»

*Куляшоў*

Песню «Смела, таварышы...» пелі сябры.

*Куляшоў*



Але:

Чаму камбайн працуе не ў «Волі»?

*Шамякін*

А ведаеш ты нашага Івана «Тарпака»?

*Колас*

Заўвага 1. Калі перад закрываючым двукоссем стаяць пытальнік, клічнік або шматкроп'е, то тыя ж самыя знакі не паўтараюцца пасля двукосся; неадносльвавыя ж знакі (калі яны патрабуюцца ў залежнасці ад характару адпаведных частак тэксту) могуць ужывацца перад закрываючым двукоссем і пасля яго, напрыклад:

Ці знаёмы вы з працай Леніна «Што рабіць?»

Але:

Вы чуеце, як мне пяюць натхнёныя паэты? Як шэпчуць заканыя: «люблю!..»?

*Валасевіч*

Заўвага 2. Калі ў пачатку або ў канцы цытаты (тое ж адносіцца і да простай мовы) сустракаюцца ўнутранае і знешняе двукоссі, то яны павінны адрозніваца паміж сабою малюнкам (так званыя «елачкі» і «лапкі»), прычым знешняе двукоссе не павінна апускацца, напрыклад:

Янка Шарахоўскі аб Ф. Багушэвічу піша: «З асаблівай паўнатой station ўчая грамадска-палітычная праграма паэта і ідэал працоўнага чалавека дадзены ў вершы „Ахвяра"».

**§ 238.** Перад адкрываючай або закрываючай дужкай не ставяцца коска, кропка з коскай, двукроп'е і працяжнік; усе гэтыя знакі ставяцца толькі пасля закрываючай дужкі, напрыклад:

Між іншым, у калгасе ўсе заўважылі (ды і сам ён адчуваў гэта), як паступова зменьваўся яго характар.

*Шамякін*

Але «малы Лондан» (без прыгарадаў) — таксама не маленькі, калі прыняць пад увагу, што ён налічвае не менш шасці мільёнаў жыхароў.

*Крапіва*

Невядомы аўтар пісаў, напрыклад, у часопісе «Пантеон» (т. VII, стар. 72): «Нас цікавяць паданні і вераванні старажытных грэкаў і рымлян, мы пішам аб іх правах, міфалогіі, мове, нават пагулянках і абедах; чаму ж не пісаць аб роднай Беларусі, якая так славіцца сваімі самабытнымі норавамі, міфалогіяй, мовай і, нарэшце, ігрышчамі і святамі?»

*Майхровіч*

**§ 239.** Кропка, пытальнік, клічнік і шматкроп'е ставяцца перад закрываючай дужкай, калі яны адносяцца толькі да слоў, заключаных у дужкі, але пасля закрываючай дужкі, калі адносяцца да ўсяго сказа разам са словамі, узятымі ў дужкі, напрыклад:

Калі ён увайшоў у пакой, той, што сядзеў за сталом,—з чорнай кучаравай галавою, у гімнасцёрцы вайсковага крою,—не адрываючыся ад паперы, падаў яму левую руку. (У правай ён трымаў завостраны з абодвух канцоў чырвона-сіні алоўак.)

*Крапіва*

Ды ў цэнтры (чуў мо'?) выдалі дэкрэт — на мяса здаць усіх быкоў, якім мінула дзесяць год.

*Крапіва*

Але:

Відаць, своеасаблівай цікаўнасцю часопіса да славянства тлумачыцца тое, што ён змяшчаў творы групы ўкраінскіх пісьменнікаў (Кастамараў, Аснаўяненка, Гулак-Арцямоўскі і інш.).

*Майхровіч*

З а ў в а г а. Пасля цытаты, непасрэдна за якой у гэтым жа радку ў дужках ідзе спасылка на аўтара ці на аўтара і на крыніцу, кропка апускаецца і ставіцца пасля спасылкі за дужкай, напрыклад:

Эпіграфам былі ўзяты словы: «А там, над Нёманам, плывуць чаўны ў прасторы, там спевы коцяцца ў нямую далячынь» (Трус).

Калі ж спасылка на аўтара ці на аўтара і на крыніцу змяшчаецца асобна ўнізе пад тэкстам, тады ў канцы тэкста ставіцца кропка ці іншы адпаведны знак прыпынку (пытальнік, клічнік і г. д.), а пасля спасылкі ніякага знака не ставіцца.

§ 240. У канцы сказа пасля дужкі ставіцца знак прыпынку, які патрабуецца сказам у цэлым, незалежна ад знака прыпынку перад дужкай, напрыклад:

Ап'янелі, знаць бясконца яны, гледзячы на сонца, на сінюсенькае неба (ап'янееш, брат, без хлеба!).

*Крапіва*

З а ў в а г а. Пры сустрэчы ў канцы сказа ўнутраных і знешніх дужак дапускаецца, у выпадку неабходнасці, ужыванне дужак рознага выгляду (простых і квадратных).





## ЗАЎВАГІ АБ УЛАСНЫХ ІМЁНАХ І ПРОЗВІШЧАХ

### I. Аб правапісе *й* ва ўласных імёнах

**§ 1.** У імёнах, якія канчаюцца на *-ій (-ый)*, не адбываецца сцяжэння галоснага з ётам і пішацца: *Афанасій, Васілій, Георгій, Дзмітрый, Захарый, Іраклій, Кандрацій, Яўгеній* (аб ужыванні асабовых імён і іх правапісе гл. § 12).

Па напісанню сюды ж адносяцца і іншамоўныя імёны і прозвішчы з неславянскай лексічнай асновай: *Авідзій, Вергілій, Гарацый, Дарый, Лукрэцый, Пліній, Флавій* і інш.

**§ 2.** Беларускія і іншыя прозвішчы з славянскай лексічнай асновай, якія маюць форму поўнага прыметніка, у назоўным склоне мужчынскага роду захоўваюць сцягнутую форму: *Бялінскі, Вазнясенскі, Гартны, Галаваты, Гжыбоўскі, Дзяржынскі, Катлярэўскі, Лявіцкі, Новатны, Рыльскі, Цікоцкі, Чорны, Шыракі, Ясенскі* і інш.

### II. Аб скланенні і склонавых канчатках асобных груп уласных імён і прозвішчаў

**§ 3.** Калі прозвішчамі служаць назвы прадметаў жаночага роду (за выключэннем прозвішчаў на *-ь* і ненаціскныя ***-га, -ка, -ха***), то такія прозвішчы скланяюцца незалежна ад роду іх носьбітаў па тыпу адпаведных агульных назоўнікаў з мяккай, цвёрдай і зацвярдзелай асновамі, напрыклад:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| *Н.* | *Зязюля*<br>*Вячэра*<br>*Лапша* | *Бульба*<br>*Сініца*<br>*Дуга* | *Скарына*<br>*Дзяжа*<br>*Талака* | *Пяхота*<br>*Гушча*<br>*Страха* |
| *Р.* | *Зязюлі*<br>*Вячэры*<br>*Лапшы* | *Бульбы*<br>*Сініцы*<br>*Дугі* | *Скарыны*<br>*Дзяжы*<br>*Талакі* | *Пяхоты*<br>*Гушчы*<br>*Страхі* |
| *Д.* | *Зязюлі*<br>*Вячэры*<br>*Лапшы* | *Бульбе*<br>*Сініцы*<br>*Дузе* | *Скарыне*<br>*Дзяжы*<br>*Талацэ* | *Пяхоце*<br>*Гушчы*<br>*Страсе* |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| В. | *Зязюлю*<br>*Вячэру*<br>*Лапшу* | *Бульбу*<br>*Сініцу*<br>*Дугу* | *Скарыну*<br>*Дзяжу*<br>*Талаку* | *Пяхоту*<br>*Гушчу*<br>*Страху* |
| Т. | *Зязюляй*<br>*Вячэрай*<br>*Лапшой* | *Бульбай*<br>*Сініцай*<br>*Дугой* | *Скарынай*<br>*Дзяжой*<br>*Талакой* | *Пяхотай*<br>*Гушчай*<br>*Страхой* |
| М. | *аб Зязюлі*<br>*аб Вячэры*<br>*аб Лапшы* | *аб Бульбе*<br>*аб Сініцы*<br>*аб Дузе* | *аб Скарыне*<br>*аб Дзяжы*<br>*аб Талацэ* | *аб Пяхоце*<br>*аб Гушчы*<br>*аб Страсе* |

З а ў в а г а 1. Такім жа чынам скланяюцца і складаныя прозвішчы, у якіх апошняя частка з'яўляецца назвай прадмета жаночага роду, як напрыклад: *Вяршыгара, Дабрабаба, Майбарада, Нагнібяда, Папівода* і інш.

З а ў в а г а 2. Прозвішчы, якімі служаць назвы прадметаў жаночага роду і канчаюцца на ненаціскныя ***-га, -ка, -ха***, у давальным, творным і месным склонах маюць канчаткі ў залежнасці ад роду носьбіта:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Д. | *Кнізе*<br>*Кнігу* | *Мурашцы*<br>*Мурашку* | *Саладусе (калі носьбіт жанчына)*<br>*Саладуху (калі носьбіт мужчына)* |
| Т. | *Кнігай*<br>*Кнігам* | *Мурашкай*<br>*Мурашкам* | *Саладухай (калі носьбіт жанчына)*<br>*Саладухам (калі носьбіт мужчына)* |
| М. | *аб Кнізе*<br>*аб Кнігу* | *аб Мурашцы*<br>*аб Мурашку* | *аб Саладусе (калі носьбіт жанчына)*<br>*аб Саладуху (калі носьбіт мужчына)* |

**§ 4.** Прозвішчы на ***-еня*** (***-эня***, ***-аня***), ***-уня*** (***-юня***)— *Ахраменя, Вершаня́ (Вяршэня), Гарбаленя, Ільеня, Крыўчэня, Нікалаеня, Махвіеня, Прахарэня, Пратасеня, Рашчэня, Сушчэня, Ткачэня, Юрчэня, Бацюня, Хадзюня, Шабуня* і інш.—скланяюцца незалежна ад роду іх носьбітаў па тыпу назоўнікаў жаночага роду з мяккай асновай, напрыклад:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *Васіленя* | *Ляўчэня* | *Бацюня* | *Шабуня* |
| Р. | *Васілені* | *Ляўчэні* | *Бацюні* | *Шабуні* |
| Д. | *Васілені* | *Ляўчэні* | *Бацюні* | *Шабуні* |
| В. | *Васіленю* | *Ляўчэню* | *Бацюню* | *Шабуню* |
| Т. | *Васіленяй* | *Ляўчэняй* | *Бацюняй* | *Шабуняй* |
| М. | *аб Васілені* | *аб Ляўчэні* | *аб Бацюні* | *аб Шабуні* |

**§ 5.** Калі прозвішчамі служаць назвы прадметаў ніякага роду, а таксама назвы прадметаў, род якіх выразна не выступае, то такія прозвішчы скланяюцца толькі тады, калі іх носьбітамі з'яўляюцца асобы мужчынскага роду. Пры скланенні гэтыя прозвішчы маюць наступныя склонавыя канчаткі:

Н. *Шыла, Сукала, Трыгорла, Ворыва, Долата; Біруля, Бядуля, Жвірбля, Сыракомля, Рося, Бірыла, Вайда, Купала, Сапега, Паўпыга, Броўка, Глебка, Капабланка, Манюшка, Панчанка, Машара, Сасюра, Пічэта, Чабоха, Клепча.*

Р. *Шыла, Сукала, Трыгорла, Ворыва, Долата; Бірулі, Бядулі, Жвірблі, Сыракомлі, Росі, Бірылы, Вайды, Купалы,*



*Сапегі, Паўпыгі, Броўкі, Глебкі, Капабланкі, Манюшкі, Панчанкі, Машары, Сасюры, Пічэты, Чабохі, Клепчы.*

Д. *Шылу, Сукалу, Трыгорлу, Ворыву, Долату; Бірулю, Бядулю, Жвірблю, Сыракомлю, Росю, Бірылу, Вайду, Купалу, Сапегу, Паўпыгу, Броўку, Глебку, Капабланку, Манюшку, Панчанку, Машару, Сасюру, Пічэту, Чабоху, Клепчу.*

В. *Шыла, Сукала, Трыгорла, Ворыва, Долата; Бірулю, Бядулю, Жвірблю, Сыракомлю, Росю, Бірылу, Вайду, Купалу, Сапегу, Паўпыгу, Броўку, Глебку, Капабланку, Манюшку, Панчанку, Машару, Сасюру, Пічэту, Чабоху, Клепчу.*

Т. *Шылам, Сукалам, Трыгорлам, Ворывам, Долатам; Бірулем, Бядулем, Жвірблем, Сыракомлем, Росем, Бірылам, Вайдам, Купалам, Сапегам, Паўпыгам, Броўкам, Глебкам, Капабланкам, Манюшкам, Панчанкам, Машарам, Сасюрам, Пічэтам, Чабохам, Клепчам.*

М. *аб Шылу, аб Сукалу, аб Трыгорлу, аб Ворыву, аб Долату; аб Бірулю, аб Бядулю, аб Жвірблю, аб Сыракомлю, аб Росю, аб Бірылу, аб Вайду, аб Купалу, аб Сапегу, аб Паўпыгу, аб Броўку, аб Глебку, аб Капабланку, аб Манюшку, аб Панчанку, аб Машару, аб Сасюру, аб Пічэту, аб Чабоху, аб Клепчу.*

З а ў в а г а. У беларускай мове ўласныя імёны і прозвішчы ў значэнні аб'екта гутаркі ўжываюцца пераважна не ў месным, а ў вінавальным склоне з прыназоўнікам ***пра***, напрыклад: *пра Ганку, пра Юстыну, пра Васіля, пра Алеся, пра Сяргея, пра Ціта, пра Купалу, пра Коласа, пра Скарыну, пра Куляшова, пра Майбараду.*

**§ 6.** Імёны і прозвішчы асоб мужчынскага роду, якія канчаюцца на цвёрды зычны і ***ў***, у месным склоне маюць канчатак ***-е***: *аб Якубе, аб Глебе, аб Кажадубе, аб Калумбе, аб Эдуардзе, аб Галадзедзе, аб Готвальдзе, аб Чарльзе, аб Берліёзе, аб Міхаіле, аб Паўле, аб Эсхіле, аб Максіме, аб Вільяме, аб Засіме, аб Іване, аб Жульене, аб Леніне, аб Магелане, аб Астапе, аб Міхалапе, аб Тарасе, аб Коласе, аб Марксе, аб Ігнаце, аб Роберце, аб Чачоце, аб Сакраце, аб Іосіфе, аб Кірхгофе, аб Баляславе, аб Куляшове, аб Чэхаве.*

З а ў в а г а. У тым выпадку, калі носьбітамі прозвішчаў, якія канчаюцца на цвёрды зычны, з'яўляюцца асобы жаночага роду, такія прозвішчы не скланяюцца.

**§ 7.** Імёны і прозвішчы асоб мужчынскага роду, якія канчаюцца на мяккі зычны, ***й***, заднеязычныя (***г***, ***к***, ***х***), шыпячыя (***ж***, ***дж***, ***ч***, ***ш***), ***р*** і ***ц***, у месным склоне маюць канчаткі ***-у*** (***-ю***): *аб Алесю, аб Васілю, аб Эмілю, аб Гогалю, аб Рафаэлю, аб Карабаню, аб Копацю, аб Макуцю, аб Сяргею, аб Яўгенію, аб Таўлаю, аб Гарацыю, аб Фарадзею; аб Алегу, аб Грыгу, аб Даміціку, аб Фучыку, аб Цімоху, аб Стэльмаху, аб Баху; аб Жоржу, аб Мележу, аб Багушэвічу, аб Рабакляччу, аб Лукашу, аб Ярмошу, аб Уладзіміру, аб Гайдару, аб Шылеру, аб Кобецу, аб Гельмгольцу.*

Заўвага. Калі ж носьбітамі такіх прозвішчаў з'яўляюцца асобы жаночага роду, то тады гэтыя прозвішчы не скланяюцца.

§ 8. У прозвішчах на **-ін (-ын)** і на **-аў (-оў), -еў (-ёў)** у творным склоне адзіночнага ліку пішацца канчатак **-ым**: *Леніным, Батурыным, Вялюгіным, Лужаніным, Пушкіным, Пыпіным, Рэпіным, Шаляпіным, Шамякіным, Ясеніным; Бруловым, Куляшовым, Лемешавым, Паўлавым, Тургеневым, Ціміразевым, Шапаваладавым, Якаўлевым.*

Заўвага. У замежных прозвішчах на *-ін (-ын), -аў (-оў)* у творным склоне адзіночнага ліку пішацца канчатак **-ам (-ом)**: *Бёклінам, Грынам, Годвінам, Дарвінам, Дэферынам, Франклінам, Чаплінам, Бюлавам, Вірхавам, Гуцкавам* і інш.

§ 9. У назвах населеных пунктаў на **-ін (-ын), -аў (-оў), -еў (-ёў), -іна (-ына), -іно, -ыно, -ава (-ова), -ева (-ёва)** у творным склоне адзіночнага ліку пішацца канчатак **-ам (-ом)**: *Люблін — Люблінам; Царыцын — Царыцынам; Саратаў — Саратавам; Пскоў—Псковам, Кіеў—Кіевам; Магілёў—Магілёвам; Болдзіна—Болдзінам; Ветрына—Ветрынам; Барадзіно—Барадзіном; Сормава—Сормавам; Малашова—Малашовам; Караваева—Караваевам; Пяцюлёва—Пяцюлёвам.*

§ 10. Памяншальна-ласкальныя імёны: *Валя (Валька), Жэня (Жэнька), Саша (Сашка), Шура (Шурка)* і да іх падобныя ў давальным, творным і месным склонах маюць канчаткі ў залежнасці ад роду іх носьбітаў:

а) для асоб мужчынскага роду:

Д. *Валю (Вальку), Жэню (Жэньку), Сашу (Сашку), Шуру (Шурку)*

Т. *Валем (Валькам), Жэнем (Жэнькам), Сашам (Сашкам), Шурам (Шуркам)*

М. *аб Валю (Вальку), аб Жэню (Жэньку), аб Сашу (Сашку), аб Шуру (Шурку);*

б) для асоб жаночага роду:

Д. *Валі (Вальцы), Жэні (Жэньцы), Сашы (Сашцы), Шуры (Шурцы)*

Т. *Валяй (Валькай), Жэняй (Жэнькай), Сашай (Сашкай), Шурай (Шуркай)*

М. *аб Валі (Вальцы), аб Жэні (Жэньцы), аб Сашы (Сашцы), аб Шуры (Шурцы).*

### III. Нескланяльныя прозвішчы

§ 11. Да нескланяльных адносяцца наступныя групы прозвішчаў:

1. Прозвішчы, якія канчаюцца на націскное **о**: *Бузо, Буйко, Будзько, Бурдо, Валько, Вітко, Гунько, Гурло, Гурбо, Гуцько, Дурнаво, Занько, Кахно, Клімко, Красько, Круцько, Люцько, Лыжко, Лапо, Панько, Рунцо, Рылько, Сярко, Трушко, Франко, Хацько, Чуйко, Шамро, Шарко, Шухно, Шычко;* у тым ліку і іншамоўныя прозвішчы: *Віярдо, Гюго, Гуно, Гізо, Дзідро, Дзюкло, Дэфо, Рэмбо, Русо, Фуко, Хіно, Цюрго,* а таксама іншамоўныя імёны і прозвішчы з націскнымі і ненаціскнымі канцавымі **ё, о**, якія стаяць пасля галоснага ці мяккага знака: *Антоніо, Бакачыо, Бідлао, Галілео, Мао, Баньё, Мельё, Пюньё, Бадольё, Эскамільё* і інш.

Заўвага. Выключэнне складаюць тыя прозвішчы на націскное **о**, якімі служаць назвы прадметаў ніякага роду, напрыклад: *Вясло, Сцябло, Талакно.* Такія прозвішчы скланяюцца, калі іх носьбітамі з'яўляюцца асобы мужчынскага роду.

2. Прозвішчы, якія канчаюцца на **-іх (-ых)** і маюць форму прыметнікаў меснага склону множнага ліку: *Баранавых, Белых, Буйскіх, Высокіх, Вяркоўскіх, Дамагацкіх, Загуменных, Крутых, Кручоных, Кудраватых, Малых, Пад'ячых, Савіных, Сядых, Углянскіх, Чарамных, Чуткіх* і інш.

3. Прозвішчы і імёны, якія канчаюцца на **-і (-ы)**: *Брызгі, Бэці, Айні, Арбелі, Аліг'еры, Балі, Берклі, Бралы, Бруні, Бузоні, Вердзі, Гальдоні, Гандзі, Гарыбальдзі, Веспучы, Джані Радары, Дабіны, Джаваньёлі, Дадзіяні, Джугашвілі, Кавальеры, Кварэнгі, Куінджы, Кюры, Лахуці, Мурадэлі, Мансіны, Нізамі, Паганіні, Пучыні, Расіні, Растрэлі, Руставелі, Салары, Сальвіні, Сальеры, Страдзівары, Сузі, Тальёні, Тарычэлі, Тасканіні, Тарціні, Фартуні, Фірдаусі, Чулакі, Шэферы, Эрыставі;* але: *Кукрыніксы, Кукрыніксаў* і г. д.

4. Многія іншамоўныя прозвішчы на **-а (-я)**: *Бхабха, Галуа, Гроза, Дзюбуа, Дзюма, Дэга, Жугжда, Заля, Джэкундо, Джардана Бруна, Катаяма, Лесама, Мачада, Сукарна, Фарыа, Халіла, Ходжа, Ціта* і інш.

5. Іншамоўныя прозвішчы на **-е (-э)**: *Арджанікідзе, Літке, Струвэ, Тарле, Фрунзе, Гацье, Гейнэ, Гётэ, Дантэ, Мелье, Кандарсе, Фальканэ, Фур'е, Бумацэндэ, Бізэ, Нушке, Нідэрле, Эйве* і інш.

6. Іншамоўныя імёны і прозвішчы на **-у (-ю)**: *Амаду, Вэлмару, Ганчу, Джэтысу, Джыргаланту, Керду, Мілку, Нэру, Петру, Петрэску, Садавяну, Сырбу, Траянэску, Цуркану, Шэню* і інш.

### IV. Аб ужыванні асабовых імён

§ 12. У беларускай мове многія з імён грэка-лацінскага паходжання, апрача афіцыйнай формы ўжывання, набылі сваё гутарковае гучанне і адпаведную граматычную форму, як напрыклад: *Апанас, Аркадзь, Арцём, Базыль, Васіль, Захар, Ігнат, Кандрат, Макар, Пракоп, Рыгор, Хвядос, Язэп* і інш.

У імёнах па бацьку, якія ўтвараюцца ад такіх імён, не адчуваецца раздзельнага вымаўлення і таму ў іх раздзяляльныя мяккі знак і апостраф не пішуцца, параўн.: *Апанасавіч* і *Афанасьевіч, Аркадзевіч* і *Аркадзьевіч, Арцёмавіч* і *Арцем'евіч, Васілевіч* і *Васільевіч, Захаравіч* і *Захар'евіч, Ігнатавіч* і *Ігнацьевіч, Кандратавіч* і *Кандрацьевіч, Макаравіч* і *Макар'евіч,*

*Пракопавіч* і *Пракоп'евіч, Рыгоравіч* і *Грыгор'евіч, Хвядосавіч* і *Феадосьевіч.*

**§ 13.** Апрача адзначаных у § 12 імён, у беларускай мове шырока бытуюць такія гутарковага ўжытку імёны, як *Гаўрыла, Даніла, Кірыла, Мікола, Міхалка, Вася, Грыша, Косця, Пеця, Саўка, Францішка, Янка* і інш.

Усе такія імёны ў давальным і месным склонах маюць канчатак ***-у (-ю)***: *Гаўрылу, Данілу, Кірылу, Міколу, Міхалку, Грышу, Саўку, Францішку, Янку, Васю, Косцю, Пецю,*

а ў творным склоне — канчатак ***-ам (-ем)***: *Гаўрылам, Данілам, Кірылам, Міколам, Міхалкам, Грышам, Саўкам, Францішкам, Янкам, Васем, Косцем, Пецем.*

Заўвага. Рознаварыянтнае бытаванне многіх уласных імён у шырокай жыццёвай практыцы прывяло да парушэння адзінства ў перадачы такіх імён на пісьме. Вось чаму пытанне аб тым, як пісаць уласныя імёны — *Анна* ці *Ганна, Екацярына* ці *Кацярына, Нікіта* ці *Мікіта, Нікалай* ці *Мікалай* і інш.,—выходзіць за рамкі правапісу, і вырашэнне яго залежыць ад канкрэтнага выпадку ўжывання таго ці іншага імя. Напрыклад, у гутарковай мове, мастацкай літаратуры і публіцыстыцы допускаецца адносна вольнае ўжыванне ўласных імён. У афіцыйных жа дакументах імёны падаюцца толькі ў пэўнай, афіцыйнай форме з дапушчэннем такіх змен, якіх вымагае фанетыка беларускай мовы.

## V. Аб перадачы на пісьме некаторых спецыфічных асаблівасцей уласных імён

**§ 14.** Прозвішчы з спецыфічна рускай, польскай ці іншай агаласоўкай пішуцца паводле традыцыі толькі з частковай перадачай фанетычных асаблівасцей беларускай мовы (аканне, яканне, скарачэнне ***у*** на месцы ***в***).

На гэтай падставе пішацца: *Благой,* а не *Благі, Крамской,* а не *Крамскі, Палявой,* а не *Палявы, Талстой,* а не *Талсты* ці *Таўстой, Волкаў,* а не *Воўкаў, Палтарацкі,* а не *Паўтарацкі, Халтурын,* а не *Хаўтурын, Постнікаў,* а не *Поснікаў, Гжыбоўскі,* а не *Грыбоўскі, Озераў,* а не *Возераў, Уткін,* а не *Вуткін* і інш.





## СЛОЎНІК

### А

абанеме́нт
аба́пал (§ 6)
абві́цца, *3-я асоба буд.* абаўе́цца (§ 89, п. 2, заўв.)
абво́рваць
абву́глены (§ 79, п. 1, «б»)
абе́дзве, абе́дзвюх, абе́дзвюм, абе́дзвюма (§ 47)
абе́дзенны (§ 61)
аб'е́кт (§ 26, п. 2)
абелі́ск
аб'ём, аб'ёму (§ 41, п. 1, «а»)
аб'і́нець (§ 89, п. 1)
абітурые́нт (§ 25)
абласны́ (§ 63)
абля́яны (§ 38, п. 1)
аблі́гацыя (§ 23, п. 2, заўв.)
абло́мавы (§ 117, заўв. 4)
або́два, або́двух, або́двум, або́двума (§ 47)
або́з, або́зу (§ 41, п. 1, «в»)
абра́з, *царк.* (§ 79, п. 4)
Абра́ў-Дзюрсо́
абрэвіяту́ра
абстра̀кцыя (§ 23, п. 2, заўв.)
абха́зскі (§ 73)
абы-адку́ль (§ 105, п. 3)
абы-дзе́ (§ 105, п. 3)
абымшэ́лы (§ 3)
абыржаве́ць, абыржаве́лы (§ 3)
абысці́, абыду́, абы́дзеш, абы́дзе, абы́дзем, абы́дзеце, абы́дуць; абышо́ў (§ 85, заўв. 1)
абы-хто́, *але:* абы ў каго́, абы да каго́ (§ 105, п. 3 *і* заўв. 1)
абы-што́, *але:* абы з чы́м (§ 105, п. 3 *і.* заўв. 1)
абы-як (§ 105, п. 3)
абыя́кава, абыя́кавы (§ 105, п. 3, заўв. 1)
абыя́кавасць (§ 105, п. 3, заўв. 1)
абыя́кавата, абыя́каваты (§ 105, п. 3, заўв. 1)
абы-які́, з абы-які́мі, *але:* абы з які́мі (§ 105, п. 3 *і* заўв. 1)
аб'я́ва (§ 89, п. 1)
Аб'ядна́ная Ара́бская Рэспу́бліка (§ 124, п. 2)
аб'ядна́цца (§ 89, п. 1)
абяззбро́іць (§ 67)
аванпо́стны (§ 63, заўв.)
аванту́ра
аванту́рыст
ава́рыя (§ 27)
Ав'е́да
аве́с, аўса́ (§ 41, п. 1, «б»)
авіяба́за (§ 94, п. 1)
авіяматорабудава́нне (§ 21)
авія́цыя (§ 27)
а-вы́—астравы (§ 95, п. 15)
Ага́йо (§ 24, п. 1)
аге́ньчык (§ 87, п. 2, «а»)
агле́дзець, агле́дзіны, агля́д (§ 32)
аглюцінаты́ўны
агнямёт
агнямётны
агнямётчык
агнястрэ́льны (§ 16)
аграбіяло́гія (§ 94, п. 1)
агразаатэхні́чны
агрэга́т (§ 11, п. 2)
агрэ́сія (§ 23, п. 2, заўв.)
агульнанаро́дны (§ 96, п. 2)
ада́жыо (§ 23, п. 2)
адбо́й, адбо́ю (§ 41, п. 1, «е»)
адве́даць (§ 57)
адве́зці (§ 57)
ад відна́ (§ 100, п. 1)
адгэ́туль (§ 5, п. 3, § 81)
адду́кцыя (§ 67)
ад'е́зд (§ 89, п. 1)
адзаві́сты (§ 132, заўв.)
адзін-адны́м (§ 93, п. 1, «б»)
адзіна́ццаць
адзін на адзін (§ 93, п. 1, «б»)
адказваць, адка́зваю (§ 40, п. 2)
адлі́га, адле́гчы (§ 33)
ад ма́лку (§ 100, п. 1)

Адміралцéйскія а-вы́
аднагадóвы (§ 20, заўв. 2)
адназнáчны (§ 20, заўв. 2)
аднакапы́тны (§ 20, заўв. 2)
аднапавярхóвы (§ 20, заўв. 2)
аднаразóвы (§ 20, заўв. 2)
адначасóвы (§ 20, заўв. 2)
Адóеўскі (§ 6)
адпачы́нак, адпачы́нку (§ 41, п. 1, «а»)
Адраджэ́нне (§ 126, «а» і заўв.)
адраджэ́нне
адрáзу (§ 100, п. 5, «в»)
ад рáна (§ 100, п. 1)
àдрас (§ 12)
Адрыяты́чнае мóра
ад цямнá (§ 100, п. 1)
адчы́нены (§ 38, п. 2)
Адыгéйская аўтанóмная вóбласць
ады́грываць, ады́грываю (§ 40, п. 2)
Ады́джэ
адымжэ́ць
Ады́с-Абéба
адысці́, адыду́, ады́дзеш, ады́дзе
адыхóд (§ 85, заўв. 1)
адыхóдзіць (§ 85, заўв. 1)
Адэлаíда
Адэ́са
ад'ю́нкт (§ 89, п. 1)
ад'ютáнт (§ 89, п. 1)
Аж'é (§ 26, п. 2 і § 89, п. 2)
ажнó (§ 104, п. 4)
áжыо (§ 23, п. 2)
ажыятáж (§ 23, п. 1)
Ажэ́шка (§ 6)
азатнавáты
азéфы (§ 117, заўв. 4)
азóт, азóту (§ 41, п. 1, «б»)
азотнакíслы (§ 18)
азоцістакíслы
Ай-Тадóр
Акá (§ 6)
акад.—акадэмік (§ 142)
Акадэ́мія наву́к БССР (§ 130)
Акáкіевіч (§ 91)
акамадáцыя (§ 67)
аквáрыум
Акермáн
акóнны (§ 79, п. 3)
Аксáна (§ 6)
аксамíт, аксамíту (§ 41, п. 1, «б»)
аксіёма (§ 23, п. 1)
Аксíння (§ 60)
аксіяматы́чны
акумуля́тар (§ 67, заўв.)
акцёр (§ 58)
акцыянéрны (§ 23, п. 1)
Акцю́бінск
Алáверды
алагíчны (§ 92, п. 2)
Алатáу
алеагрáфія
Алéг, Алéгавіч (§ 6)
алегóрыя (§ 27)
алéгра (§ 6)
Алéнек
Алеу́цкія а-вы́
Аліўé (§ 83, п. 2)
Алмá-Атá (§ 95, п. 11)
Алóнец
альбó (§ 104, п. 4)
«Аль-Гумху́рыя» (*газета*) (§ 95, п. 11, заўв.)
áльфа Малóй Мядзвéдзіцы (§ 124, п. 2)
α-часці́цы (альфа-часціцы) (§ 93, п. 4)
Альф'éры (§ 87, п. 1)
альхóвы (§ 79, п. 3)
алья́нс (§ 28, п. 2)
алюмíній, алюмíнію (§ 41, п. 1, «б»)
Аля́б'еў (§ 89, п. 2)
Аляксáндр (§ 12)
Аляксáндр Нéўскі (§ 125, «б»)
амáль што (§ 106, п. 2)
Амдэрмá
амёбападóбны (§ 17)
амнíстыя (§ 27)
амонжэлацíн
амóній, амóнію (§ 41, п. 1, «б»)
ампéр (§ 117, заўв. 3)
Àмстэрдам
аму́-дар'íнскі (§ 97, п. 1)
Аму́-Дар'я́ (§ 124, п. 2, заўв. 3)
амшáлы (§ 2, п. 1)
анаматалóгія
анáрха-сіндыкалíзм (§ 95, п. 2)
анáрхія (§ 27)
Анарэ́ (§ 6)
АН БССР (Акадэмія навук БССР) (§ 139, заўв.)
Андрэá дэль Сáрта (§ 117, заўв. 2)
Андыжáн
Анды́йскі хрыбéт
Анéга (§ 6)
Анéжская губá (§ 124, п. 2)
Анжэ́ра-Су́джанск
ані́ (§ 104, п. 6, «б»)
анідзé (§ 104, п. 6, «б»)
аніхтó (§ 104, п. 6, «б»)
анія́к (§ 104, п. 6, «б»)
анкалóгія
Антаркты́да
Антáрктыка
Антáрыо
Антóніо (§ 23, п. 2)
антрапалагíзм, антрапалагíзму
антрапалóгія, антрапалагíчны
Анты-Дзю́рынг (§ 92, п. 2)
Анты́льскія а-вы́



антымілітары́сцкі (§ 92, п. 2)
Антытáўр
анты́чны свет (§ 126, «в», заўв.)
Антэ́й (§ 119)
Ану́фрыеў, Ану́фрыевіч, Ану́фрыеўка (§ 6 і § 91)
анчóўс
аньшáньскі (§ 88, п. 4, заўв.)
апаўдні́ (§ 100, п. 5, «б»)
аперцэ́пцыя (§ 67)
апладысмéнты (§ 58)
аплéцены (§ 38, п. 2)
апóстраф
апóўначы (§ 100, п. 5, «б»)
апрáнены (§ 38, п. 2)
Апшэрóнскі п-аў
арáб (§ 117, заўв. 5)
Арбéлі (§ 6)
аргáнагенèз
арганагрáфія
арганаплáстыка
арганізáцыя (§ 6)
Аргенцíна
Арджанікíдзе (§ 6)
ардэнанóсец (§ 16)
ардэнанóсны
ар'ергáрд (§ 26, п. 2)
аржóнне (§ 2, п. 2)
Аркáдзьеў, Аркáдзьевіч (§ 91)
Áрктыка
Арлеáн
áрмія, áрміяй
Арóл (§ 6)
арóл (§ 4)
Арсéньеў, Арсéньевіч (§ 91)
арсíн (§ 6, п. 2)
артаклáз
артапéд
артапéдыя
артацэ́нтр
артэ́рыя (§ 27)
артэрыясклерóз
арфагрáфія, арфаграфíчны (§ 16, заўв.)
арфаэ́пія, арфаэпíчны
архімéдаў вінт (§ 123, п. 2, заўв. 1, «в»)
архірэакцы́йны (§ 92, п. 2)
Арцём
арцішóк (§ 58)
арыентáцыя (§ 25)
Арынóка (§ 6)
Арысáва (§ 6)
Арыстóцель
áрыя (§ 27)
Арэ́хава-Зу́ева (§ 95, п. 8, «а»)
арэхавóдства (§ 19)
арэхападóбны (§ 17)
Асвèнцім (§ 6)
асвятлéнне (§ 88, п. 2)
асéнні, асéнняя, асéнняе (§ 9, п. 3)
асецíнскі
Асёл (§ 122)
асíлены (§ 38, п. 2)
Асмáн-пашá (§ 95, п. 7)
асновапалагáючы
асновапалажэ́нне (§ 17)
Астáп (§ 6)
астрахáнскі (§ 88, п. 4)
Астрашы́цкі Гарадóк (§ 95, п. 8, заўв., «а»)
Асу́ньсан
асфáльт, асфáльту (§ 41, п. 1, «б»)
асцылагрáфія
асэ́сар (§ 5, п. 4, «б»)
Атáва
аталóгія
атаясáмліваць
Атланты́чны акія́н (§ 124, п. 2)
áтрыум
Атэ́ла (§ 6 і § 59)
áўгіевы стáйні (§ 123, п. 2, заўв. 1, «г»)
Аўгíння (§ 60)
аўгментáцыя
Аўдóцця (§ 60)
аўдыéнцыя (§ 25 і § 82, п. 3)
аўдытóрыя (§ 82, п. 3)
аўдыфóн
аўксанóметр
аўксíн
аўкцыён
áўлас
Аунг Сан (§ 117, заўв. 1)
áўра
аўрэакуля́рны
аўрэамíцын
аўскультáцыя
аўспíцыі
аўстэнíт
Аўстэрліц
аўт
аўтадафэ́
аўтамабілебудавáнне
аўтанóмія (§ 27)
аўтапáрк (§ 94, п. 1)
аўтатрáктарны (§ 92, п. 1)
аўтóрак (§ 83, п. 2)
аўтры́гер
аўтэнты́чны
аўцабы́к
Афанáсьеў, Афанáсьевіч (§ 91)
ахілéсава пятá (§ 123, п. 2, заўв. 1, «г»)
Ахóцкае мóра (§ 6)
Ашмя́ны (§ 6)
«Аш-Шаáб» (*газета*) (§ 95, п. 11, заўв.)
аэрафлóт (§ 94, п. 1)

аэрафотапрыбо́р (§ 21)
а-я-я́й (§ 105, п. 2)

### Б

б. — былы (§ 142)
ба́ба-яга́ (§ 95, п. 1, «б»)
бава́ўнаво́д
бава́ўнаво́дства (§ 16)
бава́ўнаво́дчы
бавоўнапрадзе́нне (§ 17)
бавоўнасушы́лка
багабо́рац
багамо́лец
багасло́ўе
Баге́мскі Лес (§ 124, п. 2)
Бадуэ́н дэ Куртэнэ́ (§ 95, п. 7, заўв. 2 *і* § 117, заўв. 2)
бала́стны (§ 63, заўв.)
Балеа́рскія астравы́ (§ 124, п. 2)
Балка́нскі паўвостраў (§ 124, п. 2)
бало́та (§ 6)
балтарэ́з
Балты́йскае мо́ра
бальшаві́к (§ 6)
бамбаво́з
бамбасхо́вішча (§ 16)
Бангвео́ла
Бандарэ́нка (§ 6)
Баніфа́цый Во́сьмы (§ 118)
Бараві́цкія варо́ты (§ 124, п. 2)
Барадзіно́ (§ 59)
барацьба́, у барацьбе́ (§ 86, п. 2 *і* 3)
барацьбі́т (§ 86. п. 3)
Барб'е́ (§ 89, п. 2)
бардзю́р (§ 58)
Бардо́
бар'е́р (§ 26, п. 2 *і* § 89, п. 2)
Баркала́баўскі ле́тапіс (§ 126, «б»)
Баркла́й дэ То́лі (§ 95, п. 7, заўв. 2)
Барнау́л
Барне́о
бархо́ўт
ба́рый, ба́рыю (§ 41, п. 1, «б»)
басано́ж
баскетбо́л (§ 54)
басто́н (§ 124, п. 2, заўв. 6)
бастыён (§ 23, п. 1)
батальён (§ 90)
Батні́чны залі́ў
бацві́нне (§ 57)
ба́цька (§ 86, п. 2)
Ба́цька Міна́й (§ 117)
Башкі́рская Аўтано́мная Саве́цкая Сацыялісты́чная Рэспу́бліка (§ 124, п. 2)
Башкі́рыя (§ 124, п. 2)
баяздо́льны (§ 16)
бег, бе́гу (§ 41, п. 1, «а» *і* § 54)
без агля́дкі (§ 101, п. 2, «а»)
безапеляцы́йны (§ 14)
бездако́рнасць (§ 55)
без канца́, *але*: бяско́нца (§ 101, п. 2, «а»)
без разбо́ру (§ 101, п. 2, «а»)
без то́лку (§ 101, п. 2, «а»)
без упы́нку (§ 101, п. 2, «а»)
безупы́нны (§ 10 *і* § 14)
Белака́менная (Масква́) (§ 124, п. 2)
Беламо́рска-Балты́йскі кана́л (§ 124, п. 2)
белару́с (§ 117, заўв. 5)
Белару́ская дзяржа́ўная акадэмі́чная харава̀я капэ́ла (§ 131)
Белару́ская Саве́цкая Сацыялісты́чная Рэспу́бліка (§ 124, п. 2)
белару́скі (§ 72)
Белару́скі вакза́л (§ 125, «а»)
Белару́скі дзяржа́ўны о́рдэна Праца́ўнага Чырво́нага Сця́га акадэмі́чны тэа́тр імя́ Я́нкі Купа́лы (§ 131)
Беласто́ччына (§ 75)
Бе́лая Царква́ (§ 95, п. 8, заўв., «а»)
Бе́лгарад (§ 94, п. 2)
бе́ленькі, бе́ленька, *прысл.* (§ 37)
Белпрафсаве́т (§ 138)
Бена́рэс
бензі́н, бензі́ну (§ 41, п. 1, «б»)
Беразіно́ (*пасёлак*) (§ 11)
Берлі́н
бескары́сны (§ 14)
беспаваро́тны (§ 14)
беспераста́нку (§ 55 *і* § 100, п. 5, «а»)
бето́н
бето́ншчык (§ 78, п. 2)
Бет-Пак-Дала́ (§ 95, п. 11)
біблїёграф (§ 23, п. 1)
бібліятэ́ка (§ 23, п. 1)
біёграф (§ 23, п. 1)
біёлаг (§ 23, п. 1)
білецёр (§ 58)
біле́цік (§ 58)
Більба̀о (§ 6, п. 1)
більён (§ 24, п. 3)
бінаўра́льны
бі́тва, у бі́тве (§ 57)
Біцю́г (*рака*)
біяло́гія (§ 23, п. 1)
біяста́нцыя (§ 94, п. 1)
б-ка—бібліятэ́ка (§ 95, п. 15)
блакга́уз
бла́ўгаз, блаўга́зу
блі́зка (§ 54)
блі́снуць (§ 64)
блыха́ (§ 6)
боекампле́кт
боепрыпа̀сы



бо́йня, бо́ень (§ 86, п. 1)
бо́кам-ско́кам (§ 93, п. 1, «в»)
бокс, бо́кса
бале́т, бале́та
боль, бо́лю (§ 41, п. 1, «а»)
бом-бра́мсель
бо́нна (§ 62)
Бонч-Бруе́віч (§ 95, п. 6)
бормашы́на
борменто́л
бортінжыне́р
бортмеха́нік
бортправадні́к
бортрады́ст
бочкападо́бны
Бразі́лія, бразі́льскі (§ 87, п. 1)
бра́знуць (§ 64)
Бра́йтан
браканье́р
брандма́ўэр
браняпо́езд
бра́тка, бра́тачка (§ 35)
бра́тчына (§ 75)
бра́ўнінг (§ 82, п. 3 *і* § 117, заўв. 3)
Браціславa
браць, бяро́м, берацё (§ 51)
Брно, брня́нскі
бромажэлаці́н
бромасярэ́браны
бромацэто́н
броміставадаро́дны
бронеаўтамабі́ль
бронетранспарцёр
бронхаадэні́т
бронхагра́фія
бронхаскапі́я, бронхаскапі́чны
Бро́ўка (§ 6)
брудэрга́уз
бру́та (§ 6)
брыво́ (§ 6)
брылья́нтшчык (§ 78, п. 1, «а»)
Брынды́зі
брысці́ (§ 6)
бры́тва, бры́тве (§ 57)
бры́твенны (§ 57)
Брэ́дфард
Брэ́стчына (§ 75)
БССР (§ 140, п. 1)
будава́ць, буду́ем (§ 51 *і* § 76)
Бу́да-Кашалёва (§ 95, п. 8, «а»)
бу́да-кашалёўскі (§ 97, п. 1)
буду́ючы, *дзеепр.*, *дзеепрысл.* (§ 39, п. 1)
бу́ла
Було́нь-сюр-Мэр (§ 95, п. 11 *і* § 124, п. 2, заўв. 4)
Бура́т-Манго́лія (§ 95, п. 10)
бурыда́наў асёл (§ 123, п. 2, заўв. 1, «г»)
бу́фер
бухга́лтар (§ 12)
бухг. — бухгалтэрыя (§ 142)
бу́цы
Буш'е́ (26, п. 2 *і* § 89, п. 2)
Буэ́нас-А́йрэс (§ 95, п. 11)
Бы́стрыца (§ 36)
Бы́цень (§ 59)
быць, бу́дзьце (§ 86, п. 4, «б»)
бэз (§ 5, п. 4, «б»)
бэ́лька (§ 5, п. 4, «б»)
бэ́ра (§ 5, п. 4, «б»)
бэ́та *(назва літары)* (§ 5, п. 4, «в»)
β-фільтр (бэта-фільтр) (§ 93, п. 4)
Бюро́ ЦК КПБ (§ 129)
Бяго́мль
бязлі́тасны (§ 63)
бязлю́дны (§ 14)
бязма́ла (§ 100, п. 3)
бязме́жны (§ 14)
Бялгра́д
Бялі́нскі (§ 12)
Бяло́ва
Бялы́ніцкі-Біру́ля (§ 95, п. 6)
Бялы́нічы (§ 12)
бяро́за (§ 1)
Бярэ́зіна *(рака)*
бярэ́знік (§ 5, п. 2)
Бярэ́знікі
бяско́нца, *прысл.* (§ 14)
бяспе́чны (§ 55)
бяссо́нны (§ 67)
бясспрэ́чны (§ 55)

### В

в. — вёска (§ 142)
в. а. — выконваючы абавязкі (§ 142)
вагонабудаўні́чы
вагонаважа́ты
вагонарамо́нтны (§ 17)
ваго́н-рэстара́н (§ 95, п. 1, «б»)
ваго́нчык, ваго́нчыка (§ 34)
вада́ (§ 6)
вадагрэ́йка
вадалі́ўны
вадаме́р
вадаме́рны
вадапла́ўны
вадапу́ск
вадаспа́д (§ 16)
вадасхо́вішча (§ 16 *і* § 94, п. 1)
вадатру́бны (§ 16)
ваенко́м
Ва́енна-Грузі́нская даро́га (§ 124, п. 2)
Ва́енна-Марскі́ Флот (§ 129)
ва́енны (§ 69)
вакаме́рны
вако́л *і* во́кал (§ 79, п. 4)
вако́ліца, вако́лічны (§ 79, п. 4)

ва́куум
Валда́йскае ўзвы́шша (§ 125, «а»)
валье́ра (§ 90)
вальнаду́мства
вальтме́тр
ва́льцы (§ 87, п. 1)
ван Бетхо́вен (§ 117, заўв. 2)
Ван-Го́г (§ 117, заўв. 2)
Ван-Дэ́йк (§ 95, п. 7, заўв. 1)
Ван дэр Ме́йлен (§ 95, п. 7, заўв. 2)
Ванку́вер (§ 117, заўв. 2)
ва́нна (§ 62 *і* § 69)
Ва́нька (§ 87, п. 2, «а»)
Вара́нгер-фіёрд (§ 124, п. 2, заўв. 3)
Ва́рдзё
ва́рта, на ва́рце (§ 56)
варыя́нт (§ 27)
васемна̀ццаць, васемна̀ццаты (§ 8 і § 77)
Васі́льеў, Васі́льевіч, Васі́льеўка (§ 91)
васкабо́йня
Васкрасе́нск
вастраве́рхі (§ 16)
вастрадзю́бы
вастразу́бы
вастракры́лы
вастралі́сты
вастрано́сы
вастрасло́ў
вастратва́ры
вастры́ць (§ 79, п. 3)
васьмігадо́вы (§ 20)
васьмі́-дзевяці́ год (§ 98, п. 3)
васьмісо́ты (§ 20)
$8^1/_4$-ты́сячны (§ 98, п. 1)
васьміты́сячны
Ватыка́н
Ватэрло́о (§ 6, п. 1)
в-аў — востраў (§ 142)
ваўкада́ў
ваўкарэ́зіна
ваўсю́ (§ 100, п. 4)
ваш, ва́шы (§ 45)
Вашынгто́н
В.-Д. к.—Волга-Данскі канал (§ 142)
векаве́чны (§ 10)
«Векапо́мныя дні» *(раман)* (§ 133)
век-вяко́м (§ 93, п. 1, «б»)
велаго́нкі (§ 94, п. 1)
веласіпе́д
ве́ліжскі (Веліж) (§ 73)
велікаду́шны (§ 16)
велікару́с
велікару́скі
ве́льмі (§ 87, п. 1)
Вене́ра (§ 119 *і* § 124, п. 1)
Венесуэ́ла, венесуэ́льскі (§ 87, п. 1)
Венса́н (§ 12, заўв.)
Ве́нтспілс
ве́расень (§ 127, заўв.)
верацёнападо́бны
вераця́нó (§ 10)
верблюдаво́д
верблюдаво́дства (§ 16)
верблюдаво́дчы
Вердэ́н
Веро́на
Верса́ль (§ 124, п. 2, заўв. 5)
Верса́льскі мір (§ 126, «б»)
верталётабудава́нне (§ 17)
верф, ве́рфяў (§ 9, п. 2)
верх, ве́рху (§ 41, п. 1, «д»)
Верх-Ірме́нь (§ 95, п. 9)
Верхнекалы́мск (§ 95, п. 9)
Ве́рхне-Рэ́йнская нізі́на (§ 95, п. 9)
Ве́рхні Егі́пет (§ 124, п. 2)
ве́села, *прысл.* (§ 10)
Вест-Індыя
В'етна́м (§ 89, п. 2)
ветэра́н (§ 11, п. 2)
ве́цер, ве́тру (§ 10 *і* § 41, п. 1, «г»)
вечназялёны (§ 96, п. 2)
ве́яны (§ 38, п. 1)
вёска (§ 4)
відэ́льцы (§ 87, п. 1)
Віке́нцьеў, Віке́нцьевіч (§ 91)
вінагра́д, вінагра́ду (§ 41, п. 1, «б»)
віндро́ўэр
Ві́нніца
Ві́сбадэн
вісячы, вісячыя (§ 9, п. 4)
ві́хар, ві́хру (§ 41, п. 1, «г»)
Ві́цебск
Віці́м
ві́цца, уюцца (§ 80, п. 2)
віцэ-прэзідэ́нт (§ 95, п. 13)
віцябля́нін (§ 117, заўв. 5)
ві́шанька (§ 87, п. 2, «а»)
ві́шня, ві́шань (§ 86, п. 1)
віяланчэ́ль
Влта́ва
вну (§ 141)
во́бад (§ 79, п. 4)
вобл.—вобласць (§ 142)
во́бласць (§ 79, п. 4)
во́блачны (§ 79, п. 4)
во́бмаль (§ 79, п. 4)
во́бмацкам (§ 79, п. 4)
во́браз (§ 79, п. 4)
во́бцас (§ 79, п. 4)
вогненебяспе́чны
Во́гненная Зямля́ (§ 80, п. 3)
во́гненны (§ 61)
вогнепрыпа́сы
вогнетрыва́лы (§ 17)
вогнетушы́цель
вогнеўсто́йлівы (§ 18)
во́гнішча
водаадво́д
водаадда́ча
водаадлі́ў
водаадсто́йнік
водаачышчэ́нне
водагразелячэ́бніца
водазмяшчэ́нне
водазніжа́льны
водалячэ́бны
водамаслазапра́ўшчык
воданабо́рны
воданалі́ўны
воданапо́рны
водапалі́ўны
водаправо́дны
водаправо́дчык
водапрато́чны
водаразмеркава́льнік (§ 17)
водаразмеркава́льны
водаразмяшчэ́нне
во́дбліск (§ 79, п. 4)
во́дгалас (§ 79, п. 4)
во́дгук (§ 79, п. 4)
во́ддаль (§ 79, п. 4)
воднаспарты́ўны
воднаэнергеты́чны
во́дпаведзь (§ 79, п. 4)
во́дсвет (§ 79, п. 4)
во́дступ (§ 79, п. 4)
военача́льнік
во́жык, во́жыка (§ 34)
воз (§ 54)
Воз (§ 124, п. 1)
воз. — возера (§ 142)
во́зера (§ 10 *і* § 79, п. 3)
Во́зера *(назва вёскі)* (§ 80, п 3)
во́зера На́рач (§ 124, п. 2)
во́зік, во́зіка (§ 34)
во́зчык (§ 78, п. 1, «а»)
во́йкаць (§ 79, п. 3)
во́ка, вачэ́й, вача́мі (§ 79, п. 3)
во́кал *і* вако́л (§ 79, п. 4)
вокамгне́нна (§ 2, п. 2, заўв 1)
во́ка ў во́ка (§ 93, п. 1, заўв.)
во́кісел (§ 79, п. 4)
во́клік (§ 79, п. 4)
во́кны (§ 79, п. 3)
во́крык (§ 79, п. 4)
волаваліце́йшчык
волавару́дны
Во́лга-Данскі́ кана́л
во́лжскі (§ 73)
во́льтава дуга́ (§ 123, п. 2, заўв. 1, «в»)
во́льха (§ 79, п. 3)
во́пыт (§ 79, п. 4)
во́сем, васьмі́, васьмю́; во́сьмы (§ 10 *і* § 86, п. 3)
восемсо́т, васьмісо́т, васьмюста́мі; васьмісо́ты (§ 18, § 20 *і* § 99, п. 1)
во́сень (§ 10 *і* § 79, п. 3)
воск, во́ску (§ 41, п. 1, «б»)
во́спа (§ 79, п. 3)
воспапрышчэ́пліванне
востравуго́льнік
востравуго́льны
востраінфекцы́йны
востракамбінацы́йны (§ 17)
востраканцо́вы
во́стры, вастры́ць, навастры́ць (§ 79, п. 3)
вось (§ 79, п. 3 *і* § 86, п. 1)
во́сьмы (§ 86, п. 2)
во́труб'е (§ 79, п. 4)
воўк (§ 83, п. 2)
воўнатрапа́льны
воўначаса́льны
во́хкаць (§ 79, п. 3)
Вро́цлаў
ву́гал (§ 79, п. 1, «а»)
ву́галь, ву́галю (§ 41, п. 1, «б» *і* § 79, п. 1, «а»)
вугляро́д
вугляро́дзісты
вугляро́дны
ву́да (§ 79, п. 1, «а»)
вудзі́льна (§ 79, п. 1, «в»)
ву́зел (§ 79, п. 1, «а»)
ву́ліца (§ 79, п. 1, «а»)
ву́ліца Го́ркага (§ 124, п. 2)
вус (§ 79, п. 1, «а»)
вуса́ты (§ 79, п. 1, «в»)
ву́сны (§ 63 *і* § 79, п. 1, «а»)
ву́ха (§ 79, п. 1, «а»)
ву́чань (§ 7 *і* § 79, п. 1, «а»)
вучо́ны сакрата́р (§ 117, заўв. 7)
вучы́цца (§ 76 *і* § 79, п. 1, «в»)
Вучэ́ціч (§ 59)
вушакі́ (§ 79, п. 1, «в»)
ву́шы, вушэ́й (§ 79, п. 1, «в»)
вы́баргскі (§ 73)
вы́белены (§ 38, п. 2)
выбе́льваць, выбе́льваю (§ 40, п. 2)
выбіра́ць, вы́беру (§ 33)
вывуча́ць, вывуча́ем (§ 51)
Выго́дскі (§ 74)
выда̀так, выда̀тку (§ 34)
«Выда́тны артылеры́ст» (§ 128, заўв. 1)
«Выда́тны падво́днік» (§ 128, заўв. 1)
вы́ехаць (§ 10)
вы́йграць (§ 85)
вы́йсці, вы́йду, вы́йшаў (§ 85)
Выкана́ўчы камітэ́т Ві́цебскага абласно́га Саве́та дэпута́таў працо́ўных (§ 131)
выко́нваць, выко́нваю (§ 40, п. 2)
вы́лежаць, вы́лежыш (§ 50, заўв. 2)
выме́ньваць, выме́ньваю (§ 40. п. 2)
выме́рваць, выме́рваю (§ 40, п. 2)
выміра́ць, вы́мерці (§ 33)

## Г







## Д

Дадэканéс
да зарэ́зу (§ 101, п. 2, «а»)
да заўтра (§ 100, п. 1)
дазвóлены (§ 38, п. 2)
даклáдчык (§ 78, п. 1, «а»)
д'Аламбéр (§ 117, заўв. 2)
дáлей-бóлей (§ 93, п. 1, «в»)
далёка (§ 4)
далёка не (§ 53, п. 1, «г»)
Дáльні
дамавíк (§ 119, заўв.)
дамавóдства
дамасéд
дамастрóеўскі
Дамастрóй (§ 126, «а» і заўв.)
даматкáны
даміні́ён
данíзу, *але*: з вéрху да нíзу (§ 100, п. 5, «в»)
да пазнá
дапамóга (§ 4 )
да парьí (§ 101, п. 1, «б»)
дапятрóўская эпóха (§ 126, «б», заўв.)
даражэ́нькі (§ 87, п. 2, «в»)
дарвінíзм, дарвінíзму (§ 41, п. 1, «а»)
д'Арк (§ 117, заўв. 2)
дарóга (§ 4)
д'Арсенвáль (§ 117, заўв. 2)
да рэ́шты
Дар'я́л, дар'я́льскі (§ 87, п. 1)
даслéдаваць (§ 40, п. 1)
даслéдчы (§ 54)
да смéрці (§ 101, п. 2, «а»)
дасýха (§ 100, п. 3)
дасы́та (§ 100, п. 3)
даўгавéчнасць
даўгавéчны (§ 16)
даўгалéцце (§ 16)
даўганóжка
даўганóсік
Даўгáўпілс
Даўгінава
даўны́м-даўнó (§ 93, п. 1, «б»)
да ўпáду (§ 101, п. 2, «а»)
дац. — дацэнт (§ 142)
даць (§ 52)
да цямнá (§ 100, п. 1)
да чáсу ( § 101, п. 1, «б»)
дачыстá (§ 100, п. 3)
дашнакцуцю́н (§ 132, заўв.)
дашчэ́нту (§ 100, п. 5, «а»)
два, дзве (§ 47 *і* § 57)
дванáццаць (§ 77)
2—3 àркушы (§ 98, п. 3)
24-гадóвы (§ 93, п. 3)
дваццаціпяцітóнны (§ 92, п. 3)
дваццаціпяціты́сячны (§ 99, п. 2)
двáццаць (§ 77)
20—25 год (§ 98, п. 3)
двоеўлáддзе
двухсотметрóвы (§ 20)
Д'еп (§ 89, п. 2)
Джорж-Гардóн Бáйран (§ 95, п. 6)
джоўль
Джыбýці
джы́у-джы́цу
Джакóнда
джэ́мпер (§ 5, п. 4, «б»)
Дзаўджыкáў
дзве (§ 47 *і* § 86, п. 3)
дзвéры (§ 57 *і* § 88, п. 2)
дзвéсце, двухсóт (§ 57 *і* § 99)
Дзве Хáты (§ 95, п. 8, заўв., «б»)
Дзвінá (§ 59 *і* § 88, п. 2)
дзе б ні (§ 53, п. 2, «а»)
дзевяностагадóвы (§ 20, заўв. 1 *і* § 92, п. 3)
дзевяностаты́сячны (§ 20, заўв. 1)
9 Стýдзеня (§ 127)
дзевятнáццаць (§ 77)
дзевя́ты (§ 8)
дзевяціградусны (§ 20)
дзевяціты́сячны (§ 99, п. 2)
дзѐвяць (§ 15)
дзевяцьсóт (§ 86, п. 6)
дзед (§ 54)
дзед-марóз (§ 95, п. 14)
дзеепрымéтнік
дзеепрыслóўе
дзе не (§ 53, п. 1, «б»)
дзе-нéбудзь (§ 105, п. 3)
Дзéнежкін Кáмень
дзе ні (§ 53, п. 2, «а»)
дзе-нідзé (§ 93, п. 1, «б»)
дзень (§ 86, п. 1)
Дзень артылéрыі (§ 127)
дзень пры днí (§ 93, п. 1, заўв.)
дзень у дзéнь (§ 93, п. 1, заўв.)
дзéрава
дзесь, дзéсьці (§ 86, п. 1 *і* 7, § 104, п. 6, «а»)
дзеся́ты (§ 8)
10 б (клас) (§ 93, п. 4)
дзесяцікла́снік (§ 20)
10-літрóвы (§ 93, п. 3)
дзéсяць (§ 15 *і* § 86, п. 1)
дзе тóлькі не (§ 53, п. 1, «б»)
дзéці, дзéцьмі (§ 86, п. 5)
дзéянне (§ 15)
дзéгаць, дзёгцю (§ 41, п. 1, «б»)
дзённік (§ 69)
Дзімітраўгра́д
Дзмíтрыеў, Дзмíтрыевіч (§ 91)
Дзмíтрый (§ 88, п. 2)
Дзмíтрый Данскóй (§ 125, «б»)
Дзмітэ́рка (§ 59)
дзот (§ 141)
дзын-дзын-дзын (§ 105, п. 2)
Дзьюí (§ 90)



дзю-дзю-дзю (§ 105, п. 2)
Дзюклó (§ 59)
дзю́на (§ 58)
Дзюнкéрк
Дзю́сельдорф
дзюшэ́с (§ 58)
дзя́дзька, дзя́дзечка (§ 35, § 54 *і* § 86, п. 2)
дзяжýрства (§ 12)
дзянёк (§ 8)
Дзяні́с (§ 59)
Дзяржáўны камітэ́т Савéта Міні́страў СССР па нóвай тэ́хніцы (§ 130)
дзяржінспéкцыя (§ 137)
Дзяржплáн БССР (§ 138)
дзяржыдрэ́ва (§ 94, п. 3)
Дзяржы́нск
Дзяржюрвыдавéцтва (§ 137)
Дзяснá (§ 59)
Дзяцькóва
Днепрадзяржы́нск
Днепрапятрóўск
дноачышчáльнік
днопаглы́бнік
Днякрóўска-Бýгскі канáл
добразычлíвы
дóбранькі, дóбранька, *прысл.* (§ 37)
добрапрыстóйны
добрасумлéнны
добрасусéдскі
добраўпарáдкаваны
дóждж (§ 54)
дóжджык, дóжджыку (§ 34)
дóктар (§ 117, заўв. 7)
домакіраўні́цтва
Дом вучóных (§ 131)
дон Базíліо (§ 95, п. 7, заўв. 1)
дон Гóмес (§ 95, п. 7, заўв. 1)
Дон-Жуáн і донжуáн (§ 95, п. 7, заўв. 1 *і* § 117, заўв. 3)
Дон-Кіхóт (§ 95, п. 7, заўв. 1)
дон Пéдра (§ 95, п. 7, заўв. 1)
Дóртмунд
дóсыць (§ 100, п. 5, «а»)
дóўга (§ 4)
доўгатрывáлы (§ 96, п. 2)
доўгатэрмінóвы
доўгацярпéнне
доўгацярплíвы
доўгачакáны
Дóўгі парлáмент (§ 126, «в»)
Дóшка гóнару (§ 128, заўв. 2)
д-р—доктар (§ 95, п. 15)
Драгóбыч
дрóбязь (§ 15)
другáя сусвéтная вайнá (§ 126, «в», заўв.)
другí, *род. ж.* другóй (-óе) (§ 49)
дрýжны, *род. ж.* дрýжнай (-ае) (§ 42)
дрывóтня (§ 6)
дрэднóут
Дрэ́здэн
ДТСААФ (§ 140, п. 3)
дуб, дýба *і* дубý (§ 41, заўв.)
Дýдзінка
Дýнін-Марцінкéвіч (§ 95, п. 6)
дýрань дýрнем (§ 93, п. 1, «в», заўв.)
дýрра (*расліна*) (§ 62)
дуумвірáт
Дуýр
душá ў душý (§ 93, п. 1, заўв.)
ды́зель-матóрны (§ 97, п. 1)
дый, ды і (§ 104, п. 5 *і* заўв.)
Ды́ксан
дым, ды́му (§ 41, п. 1, «б»)
дынáма (§ 1 *і* § 6)
Дынàрскія Áльпы
дырэ́кцыя (§ 23, п. 2, заўв.)
дысідэ́нт (§ 67)
дыскýсія (§ 23, п. 2, заўв.)
дыурэці́н
дыхт: даць ды́хту (§ 41, п. 1, «е»)
дыябéт
дыя́метр (§ 27)
дыяпазóн (§ 27)
дыяфрáгма (§ 27)
дэ Бальзáк (§ 59)
Дэ́вісаў пралíў
Дэкáрт (§ 95, п. 7, заўв. 2)
Дэ-Кáстры (§ 95, п. 8, «в» *і* § 124, п 2, заўв 2)
дэкларáцыя (§ 23, п. 2, заўв.)
дэ ла Барт (§ 117, заўв. 2)
Дэ-Лонг-фіёрд (§ 124, п. 2, заўв. 3)
дэлегáт (§§ 1, 11, п. 2, § 58)
Дэ́лі
Дэлíль (§ 95, п. 7, заўв. 2)
дэльфíніум
δ-фýнкцыя (дэльта-функцыя) (§ 93, п. 4)
дэманстрáцыя (§ 11, п. 2, § 23, п. 2, заўв. *і* § 58)
Дэрбéнт
дэтáль (§ 11, п. 2)
Дэтрóйт (§ 11, п. 2 *і* § 59)
дэфíс (§ 5, п. 4, «б»)
Дэфó (§ 11, п. 2 *і* § 59)
д'ябал (§ 27 і § 89, п. 2)

## Е

éгер (§ 5, п. 4, «а»)
Егíпет (§ 11, п. 1)
езуíт (§ 26, п. 1)
Езяры́шча
Елгáва, елгáўскі

